Св. Францішак з Саль

# Шлях да рэлігійнага жыцця або «ФІЛАТЭЯ»

Святы Францішак з Саль

# Шлях да рэлігійнага жыцця або "Філатэя"

Скарочаны пераклад

Гродна 1995

NIHIŁ OBSTAT
Grodno,2.VIII.1995
Ks.Michał Woroniecki
Cenzor ad hoc deputatus

IMPRIMATUR
Grodno,2.VIII.1995
155/95
Ks.Antoni Chańko
Kanclerz Kurii




Тытул арыгінала:
St. Francois de Sales
"Jntroduction a la vie devote"

Над перакладам працавалі:
Алена Руцкая, Алесь Бяляцкі, Людміла Маркевіч, Тарэса Адамовіч

ISBN 985-6270-01-4

Выдавецтва Гродзенскай Рымска-Каталіцкай Епархіі

# МАЛІТОЎНАЕ ПРЫСВЯЧЭННЕ

**Пане Езу Хрысце, Збаўца мой! Схіляючыся перад Тваёю веліччу, я пішу гэтую працу на хвалу імя Твайго. Ажыві словы мае Тваім блаславеннем для таго, каб душы, для якіх я пішу, атрымалі з гэтае працы святое натхненне і маліліся за мяне Тваёй міласэрнасці, каб паказваючы шлях да рэлігійнасці ў гэтым свеце, я не быў асуджаны ў іншым, але разам з імі ад усяго сэрца вечна ўсхваляў Тваё Імя, якое я вымаўляю як сведчанне вернасці Табе сярод неспадзяванасцяў гэтага часовага жыцця: "Хвала Табе, Езу Хрысце! Пане Езу, жыві і валадар у нашых сэрцах на векі вякоў. Амэн."**

# ПРАДМОВА

**Дарагі чытач, прашу цябе, перш чым ты пачнеш чытаць гэтую кнігу, прачытай прадмову, што прынясе задавальненне і мне, і табе.**

**Кветачніца Глікерыя ўмела так добра падбіраць і складаць кветкі ў букеты, што магла стварыць самыя разнастайныя букеты з тых жа самых кветак. Мастак Позіяс паспрабаваў перадаць на палатне ўсю размаітасць спалучэнняў кветак Глікерыі, але яму гэта не ўдалося.**

**Такая ж разнастайнасць дзеянняў Духа Божага ў распаўсюджванні вучэння аб рэлігійнасці праз слова і пяро Сваіх слугаў. Вучэнне тое ж самае, але розныя спосабы яго разумення і вытлумачэння.**

**У гэтым дапаможніку я не павінен, не хачу і не**

магу напісаць штосьці такое, чаго ніколі не было напісана маімі папярэднікамі па тых жа пытаннях. Мой букет будзе складзены з тых самых кветак, чытач, але ён падабраны па-іншаму, адпаведна густу і досведу таго, хто яго складаў.

Асноўнае адрозненне ў тым, што амаль усе дапаможнікі па рэлігійным жыцці складзены для людзей, якія пакінулі свецкае жыццё, або даюць парады, выкананне якіх патрабуе, каб чалавек пакінуў свецкае жыццё.

Я ж хачу звярнуцца да тых людзей, якія жывуць у гарадох, у сем'ях і якія паводле ўмоў свайго жыцця павінны весці вонкава такое ж жыццё, якім жывуць усе іншыя, часта нават ня думаючы пра магчымасць рэлігійнага жыцця, якое яны лічаць для сябе неажыццяўляльным, загадзя мяркуючы, што хрысціянская духоўнасць несумяшчальная з клопатамі гэтага часовага жыцця. Я хачу паказаць ім, што, як пярлінаў, што ў глыбі мора, не кранае марская хваля, як на астравох Хелідона сярод мора б'юць фантаны чыстай прэснай вады, як некаторыя віды матылёў пралятаюць праз агонь, не апаліўшы сваіх крылцаў, – так моцная і цвёрдая душа можа жыць у свеце, не захапляючыся свецкім духам, яна можа захаваць крыніцу пабожнасці між мутных водаў жыццёвага мора і бяспечна праляцець між агнёў зямных страсцяў, не апаліўшы святых крылаў духоўных імкненняў. Гэта, сапраўды, нялёгка, і я хацеў бы, каб іншыя таксама падумалі пра тое з большым стараннем, чым яны рабілі дагэтуль. А я са сваімі слабымі сіламі зраблю спробу дапамагчы таму, хто ад усяго сэрца возьмецца за гэтую высакародную працу.

Калі я пачаў пісаць гэтую працу, я не думаў яе апублікоўваць. Адна высакародная і дабрадзейная

душа, якая атрымала ад Бога дар імкнення да рэлігійнага жыцця, звярнулася да мяне дзеля парады і ўказанняў. Кіруючы ёю на працягу пэўнага часу, я пакінуў ёй запісы для памяці, каб яна магла звяртацца да іх паводле неабходнасці. Другая аўтарытэтная асоба параіла мне іх апублікаваць. Жадаючы зрабіць набыткам многіх тое, што было першапачаткова напісана для аднае асобы, я замяняю цяпер асабістае імя зборным імем, падыходзячым для ўсіх, хто імкнецца да рэлігійнага жыцця, я звяртаюся ў сваіх запісах да Філатэі. Імя "Філатэя" абазначае: "Душа, якая любіць Бога", і мае на ўвазе ўсялякую душу*, якая імкнецца любіць Бога. Дапаможнік складаецца з пяці частак. У першай частцы я імкнуся пераўтварыць простае жаданне Філатэі ў цвёрдую рашучасць і весці яе праз споведзь і Святую Камунію к любові да Збаўцы.

У другой частцы я расказваю пра Святыя Сакраманты і малітву, як галоўныя сродкі збліжэння з Богам.

У трэцяй частцы я гавару аб практыкаваннях у асноўных дабрадзейнасцях.

У чацвёртай – пра змаганне са спакусамі і ворагамі нашага збавення.

У пятай частцы я паказваю, як належыць суразмерваць і падтрымваць свае сілы для таго, каб больш упэўнена ісці дарогаю збавення.

У наш век знойдуцца людзі, якія скажуць, што толькі законнікам альбо духоўным асобам патрэбна даваць спецыяльныя ўказанні па пытаннях рэлігійнасці і што біскуп не мае права марнаваць на гэта так многа часу. Аднак, дарагі чытач, многія выдатныя біскупы і Айцы Касцёла, якія былі не менш занятыя агульнымі касцельнымі справамі, клапаціліся і аб асобных душах, наследуючы

---

*На працягу ўсяе кнігі аўтар звяртаецца да чытача ў жаночым родзе, але мае на ўвазе асобу як мужчыны, так і жанчыны. (Заўвага перакладчыка.)

Апосталаў, якія, збіраючы жніво па ўсім свеце, не пагарджалі і асобнымі каласамі, калі яны патрабавалі асаблівай увагі з іх боку. Хто не ведае Цімафея, Ціта, Філімона, Анісіма, святую Тэклю ды іншых духоўных дзяцей апостала Паўла альбо Марка ў апостала Пятра? А апостал Ян хіба не прысвяціў адно са сваіх пасланняў пабожнай Элекце?

Праца па ўдасканаленні асобнай душы цяжкая, але яна прыносіць вялікае задавальненне, ажыўляе сэрца і цешыць працуючага. Маці не стамляецца, несучы на руках сваё дзіця, калі ёй трэба ратаваць яго ад небяспекі; і тыгрыца, калі знаходзіць аднаго са сваіх дзіцянятаў, пакінутым на дарозе паляўнічымі, якія забралі ўвесь вывадак, узвальвае яго на сябе, якім бы цяжкім ён ні быў – прыродная любоў палягчае цяжар ношы. Што ж казаць пра чалавечае сэрца? Вось чаму Апосталы і Апостальскія Дзеячы называлі сваіх вучняў дзецьмі. Я пішу не таму аб рэлігійным жыцці, дарагі чытач, што лічу сябе дасканалым, але таму, што імкнуся ім стаць, а як ведама, найлепшы спосаб вучыцца самому – гэта некага навучаць. Аляксандр Македонскі даручыў мастаку Апелесу намаляваць партрэт прыгожай Кампасэі, якую ён кахаў. Апалес, малюючы Кампасэю, так доўга ўглядаўся ў яе рысы, што ён сам пакахаў яе таксама як Аляксандр. Аляксандр злітаваўся над сябрам і дзеля любові да яго ўступіў Апелесу каханую нявесту. Пліній кажа, што ў гэтым праявілася веліч яго душы. Богу трэба, каб я, будучы біскупам, не толькі абуджаў у людзей агульныя дабрачыннасці, але найперш і самую галоўную з іх – рэлігійнасць. Выконваючы гэты доўг, я спадзяюся запаліць яе ў сваім сэрцы. Калі прыгожая Рэвека напаіла вярблюдаў Ісака, яна стала яго нявестаю і атрымала ад яго ў падарунак залатыя завушніцы і

**бранзалеты. Так і Бог абяцаў мне ў сваёй бязмежнай міласэрнасці, што, калі я прывяду сваіх авец да выратавальных водаў рэлігійнасці, ён зробіць маю душу сваёю нявестай і дасць ёй у падарунак залатыя словы свае любові. Бог дасць мне моц выканаць тое, што складае сутнасць праўдзівай рэлігійнасці і даручыць маліцца аб тым, каб яна стала здабыткам усіх дзяцей Яго Касцёла – Касцёла, якому я хачу падпарадкаваць усё: усю сваю дзейнасць, свае літаратурныя працы, свае словы, сваю волю і сваю думку.**

# ЧАСТКА I

## *ДУМКІ І ЗАНЯТКІ, НЕАБХОДНЫЯ ДЛЯ ТАГО, КАБ ВЕСЦІ ДУШУ АД ПЕРШАПАЧАТКОВАГА ЖАДАННЯ ЖЫЦЬ РЭЛІГІЙНЫМ ЖЫЦЦЁМ ДА ЦВЁРДАГА РАШЭННЯ АЖЫЦЦЯВІЦЬ ГЭТАЕ ЖАДАННЕ*

## Раздзел I

### АПІСАННЕ ПРАЎДЗІВАЕ РЭЛІГІЙНАСЦІ

**Ты імкнешся да рэлігійнасці, дарагая Філатэя, бо будучы хрысціянкаю, ты ведаеш, што гэтая дабрадзейнасць асабліва прыемная Богу. Але для таго, каб ісці шляхам гэтай дабрадзейнасці, неабходна ад самага пачатку ўсвядоміць сабе, што такое - праўдзівая рэлігійнасць, бо існуе мноства памылковых, марных і забабонных уяўленняў аб рэлігійнасці.**

**Мастакі, малюючы жаночыя партрэты, часта робяць іх падобнымі да тых жанчын, якіх яны любяць. Многія асобы таксама ўяўляюць сабе рэлігійнасць адпаведна з уласнымі пачуццямі і фантазіяй. Той, хто больш за ўсё цэніць пост, лічыць, што захаванне пастоў робіць чалавека рэлігійным, хоць бы сэрца яго і заставалася нячыстым. Другі лічыць сябе рэлігійным, бо чытае доўгія малітвы, хаця пасля гэтага ён сварыцца з хатнімі і суседзямі. Трэці – ахвотна раздае бедным міласціну, але ў ім няма лагоднасці і ён не ўмее дараваць ворагам. Усе гэтыя людзі звычайна лічацца рэлігійнымі, але яны ў сапраўднасці не такія.**

**Жонка Давіда Мелхола, ратуючы яго ад ворагаў,**

прыбрала статую ў адзенне Давіда і паклала яе ў ложак, каб падумалі, што муж хворы і ляжыць у ложку. Так некаторыя прыкрываюцца знешнімі справамі, якія маюць дачыненне да рэлігійнасці, каб людзі думалі, што яны духоўныя і рэлігійныя; у сапраўднасці – гэта толькі статуя ці прывід рэлігійнасці. Праўдзівая і жывая рэлігійнасць мае на ўвазе любоў да Бога. Яна і ёсць па сутнасці нішто іншае, як любоў да Бога.

Душа чалавека атрымлівае ад Бога здольнасць рабіць дабро. Рэлігійнасць – найвышэйшая праява гэтай здольнасці.

Страусы ніколі не лётаюць, куры лётаюць, але не вельмі высока, цяжка і рэдка. Арлы, галубы, ластаўкі лётаюць заўсёды хутка і высока. Грэшнікі не імкнуцца ляцець да Бога, усе іх шляхі на зямлі і для зямлі. Людзі, якія робяць добрыя справы, але яшчэ не дасягнулі рэлігійнасці, сваімі добрымі справамі набліжаюцца да Бога, але – рэдка, павольна і цяжка, а людзі рэлігійныя ўздымаюцца да Бога часта, хутка і высока.

Любоў дае нам магчымасць практычна і заўсёды выконваць Божыя прыказанні, менавіта яна дапамагае рабіць гэта хутка і старанна. Той, хто не імкнецца выконваць усе Божыя прыказанні – не з'яўляецца ні добрым, ні рэлігійным, бо для таго, каб быць добрым, трэба рабіць справы любові, а для таго, каб быць рэлігійным, трэба мець вялікую жывасць і гатоўнасць да гэтых спраў.

І таму, што рэлігійнасць у значнай ступені з'яўляецца дасканалаю любоўю, яна не толькі робіць нас актыўнымі і стараннымі ў выкананні ўсіх прыказанняў, яна прымушае нас хутка ды з поўнаю гатоўнасцю рабіць такія добрыя справы, якія мы толькі можам зрабіць, нават тады, калі яны не

абавязковыя для нас, а толькі пажаданыя, гэта значыць – выконваць не толькі загады, але і парады. Падобна на тое, як чалавек, які толькі як паправіўся пасля хваробы і робіць адно тыя крокі, якія яму неабходныя, ды і тыя марудна і з цяжкасцю, так і грэшнік, які яшчэ не дасягнуў рэлігійнасці, імкнецца выконваць тое, што загадана Богам, але марудна і з намаганнямі. І падобна на тое, як зусім здаровы чалавек здольны не толькі хадзіць, але і бегаць, ды скакаць, гэтак і рэлігійны чалавек не толькі выконвае загады, але можа кіравацца таксама парадамі і вышэйшым натхненнем. Любоў і рэлігійнасць адрозніваюцца адно ад другога як агонь ад полымя. Любоў – гэта духоўны агонь. Калі яна разгараецца полымем, дык становіцца рэлігійнасцю. Рэлігійнасць нічога не дабаўляе да любові, акрамя таго, што яна робіць яе жывою, дзейнаснаю, заўсёднаю не толькі ў выкананні прыказанняў, але і ў выкананні парадаў і нябёсных натхненняў.

## Раздзел II

## УЛАСЦІВАСЦЬ І ДАСКАНАЛАСЦЬ РЭЛІГІЙНАСЦІ

Калі ізраільцяне былі ў дарозе да запаветнае зямлі, многія адгаворвалі іх ісці туды, кажучы, што там нездаровае паветра і там нельга доўга жыць, што мясцовыя жыхары глытаюць людзей, як мух. Якраз так, дарагая Філатэя, свецкія людзі запалохваюць тых, хто хоча ісці шляхам рэлігійнасці. Яны кажуць, быццам у рэлігійных людзей заўсёды злосныя, маркотныя і засмучаныя твары, маўляў, рэлігійнасць стварае меланхалічныя і невыносныя характары. І

падобна таму, як Ёзуа Навін і Халеў пратэставалі, сцвярджаючы, што запаветная зямля – добрая і прыгожая і што валоданне ёю прынясе радасць і шчасце, таксама і Святы Дух, вуснамі ўсіх Святых і Самога Пана, сведчыць пра тое, што рэлігійнае жыццё – гэта прыгожае і шчаслівае жыццё.

Свет бачыць, што рэлігійныя людзі пасцяцца, моляцца, вытрымліваюць зняважі, даглядаюць хворых, дапамагаюць бедным, раней устаюць, стрымваюць свой гнеў, перамагаюць дрэнныя страсці, адмаўляюць сабе ў пачуццёвых задавальненнях і здзяйсняюць іншыя рэлігійныя практыкаванні, якія здаюцца цяжкімі і суровымі, але свет не бачыць унутранай рэлігійнасці сэрца, якая ўсе гэтыя справы робіць прыемнымі, лёгкімі і жаданымі.

Паглядзі на пчол - яны знаходзяць у кмене горкі сок, а пераўтвараюць яго ў мёд, такая іх асаблівасць. Гэтак жа многа горычы ёсць у змаганьні з самім сабою, але ўся гэтая горыч пераўтвараецца ў асалоду і суцяшэнне. Агонь, мукі і мячы здаваліся мучанікам кветкамі і водарам, бо яны супрацьстаўлялі рэлігійнасць жорсткім мукам і самой смерці, тым больш рэлігійнасць можа ўпрыгожыць справы дабрадзейнасці.

Цукар робіць прыемнейшым смак няспелых пладоў і змягчае прысмак пераспелых. Рэлігійнасць – гэта нібы духоўны цукар. Яна аблягчае горыч непрыемных перажыванняў і прыносіць суцяшэнне. Яна знішчае смутак бедных і славалюбства багатых, адчай пагарджанага і пыхлівасць таго, хто карыстаецца пашанаю, сум таго, хто знаходзіцца ў адзіноце і няўважлівасць таго, хто знаходзіцца сярод людзей, яна дае цяпло ў халодную зіму і асвяжальную расу ў гарачае лета, яна дапамагае сэрцу чалавека амаль аднолькава

ўспрыймаць смутак і задавальненне і робіць аднолькава карыснымі гонар і ганьбу.

Паглядзі на лесвіцу Якуба: яна адлюстроўвае сабою рэлігійнае жыццё. З абодвух бакоў яна абгароджаная парэнчамі – гэта малітва і Сакраманты, на якія яна абапіраецца, прыступкі – гэта розныя ступені любові, па якіх душа ўзыходзіць ад аднае дабрадзейнасці да другой: то праз дзеянне спускаецца для дапамогі бліжняму, то праз малітву ўздымаецца да лучнасці з Богам у любові. Паглядзі, прашу цябе, на тых, хто знаходзяцца на лесвіцы. Гэта людзі з сэрцамі анёлаў або анёлы ў чалавечым целе. Яны ўсе здаюцца маладымі, бо яны поўныя духоўнай бадзёрасці і сілы. У іх ёсць крылы, каб лётаць, і яны ўзносяцца да Бога ў малітве, але ў іх таксама ёсць ногі, каб ісці да людзей і сумоўвіцца з імі. Твары іх радасныя і прыгожыя, іх галава, рукі і ногі – адкрытыя, таму што іх думкі, дзеянні і прыхільнасці маюць толькі адную мэту – дагадзіць Богу. Астатняя частка іх цела пакрытая лёгкім і прыгожым адзеннем, бо яны звязаныя са светам і свецкімі рэчамі, але злёгку дакранаюцца да іх, наколькі змушаюць абставіны, – гэткія рэлігійныя людзі. Павер мне, дарагая Філатэя, рэлігійнасць – гэта наймілейшае, найпрыемнейшае з усяго таго, што ёсць на свеце. Яна – каралева дабрадзейнасцяў, бо яна – дасканаласць любові. Калі любоў – зіхатлівы каштоўны камень, дык рэлігійнасць – само яго зіхаценне, калі любоў мае духмянасць, дык гэтая духмянасць з'яўляецца рэлігійнасцю, водарам, які падбадзёрвае людзей і радуе Анёлаў.

# Раздзел III

## РЭЛІГІЙНАСЦЬ МАГЧЫМАЯ ВА ЎСЯЛЯКІМ СТАНОВІШЧЫ І ПРЫ ЎСЯЛЯКІХ ЗАНЯТКАХ

Бог стварыў расліны і загадаў ім прыносіць плады паводле свайго роду. Гэтак сама Бог хоча і ад хрысціянаў, якія з'яўляюцца жывымі раслінамі Касцёла, каб яны давалі плады рэлігійнасці, кожны паводле сваіх здольнасцяў і схільнасцяў. У чалавека сямейнага, юнака, дзяўчыны, удаўца або ўдавы, асобы, якая працуе фізічна або разумова, таго, хто кіруе іншымі, ці таго, хто абслугоўвае, рэлігійнасць прыймае розныя формы.

Акрамя таго, яна павінна адпавядаць сілам, заняткам і абавязку кожнага чалавека. Падумай, Філатэя, што было б, калі б біскуп аддаліўся ў кляштар, а рамеснік праводзіў бы цэлыя дні ў касцёле, як законнік, а законнік прыймаў бы розных людзей, як біскуп. Ці не была б такая рэлігійнасць няправільнай, смешнаю і невыноснаю? Тым не менш, падобныя памылкі часта сустракаюцца, і людзі, што не ўмеюць або не хочуць адрозніць рэлігійнасць ад неўмеркаванасці, смяюцца з рэлігійнасці, якая не вінаватая ў гэтых непарадках. Памылкова лічыць, быццам рэлігійнасці не месца ў казармах для салдатаў, у майстэрні рамесніка, на прадпрыемствах, у сям'і, ва ўрадавых установах.

Правільна, Філатэя, што рэлігійнасці чыста кантэмпляцыйнай, кляштарнай там не месца. Але ёсць мноства іншых відаў рэлігійнасці, якія пасуюць тым, хто вядзе свецкае жыццё і прагне хрысціянскае

дасканаласці.

Абрахам, Ісаак, Якуб, Давід, Гіоб, Тобі, Сара, Рабека і Юдыт – вось узоры рэлігійнасці Старога Запавету. У Новым Запавеце – св. Юзэф, св. Лідзія, св. Крыспін былі надзвычай пабожнымі ў сваіх майстэрнях, св. Моніка, Аквіла і Прысціла ў сваіх сем'ях, Карніла, св. Себасцьян, св. Морыс – у войску, св. Канстанцін, св. Алена, св. Людовік, св. Эдуард – на каралеўскім пасадзе.

Адасабленне спрыяе ўдасканаленню, аднак былі і такія, якія не маглі дасягнуць дасканаласці ў адасабленні і дасягалі яе, знаходзячыся сярод людзей, у свецкай сумятні, якая, здавалася б, зусім не спрыяе ўдасканаленню. Лот, гаворыць св. Рыгор, заставаўся чыстым сярод разбэшчанага гораду і зграшыў, будучы ў адзіноце. Дзе б мы ні знаходзіліся, мы можам імкнуцца да дасканалага жыцця.

## Раздзел IV

### НЕАБХОДНА МЕЦЬ ДУХОЎНАГА КІРАЎНІКА, КАБ СТАЦЬ НА ШЛЯХ РЭЛІГІЙНАСЦІ І ДАЛЕЙ ІСЦІ ПА ІМ

Калі юны Тобій быў накіраваны ў Мідыйскія Рагі, ён сказаў: "Я зусім не ведаю туды дарогі". "Ідзі і знайдзі чалавека, які зможа паказаць табе дарогу", – адказаў бацька. Тое ж самае кажу і я табе, мая Філатэя. Хочаш ісці шляхам рэлігійнасці – адшукай чалавека, які пакажа табе дарогу. Няма іншага шляху, акрамя паслушэнства. Гэта многа разоў спраўджана рэлігійнымі людзьмі з даўніх часоў. Святая Тарэса, убачыўшы вялікае пакаянне Кацярыны Кардонскай, захацела наследаваць ёй. Але яе духоўны кіраўнік

казаў: "Бог чакае ад цябе не гераізму пакаяння, а гераізму паслушэнства". Многія добрыя душы для таго, каб ісці шляхам рэлігійнасці, падпарадкоўвалі сваю волю волі Божых Служыцеляў.

"Верны сябар, – кажа Святое Пісанне, – гэта моцная падтрымка. Той, хто яго знайшоў, знайшоў скарб. А хто баіцца Бога – такога сябра знаходзіць. Ён з'яўляецца скарбам мудрасці для нас у нашых хваляваннях, бедах і падзеннях, ён вылечвае нашыя сэрцы ад духоўных хваробаў, ён засцерагае нас ад злога. Хто зможа знайсці такога сябра? "Тыя, хто баяцца Бога", – адказвае мудрэц, гэта значыць, пакорныя асобы, якія імкнуцца да духоўнай дасканаласці. Так як ты імкнешся, Філатэя, адправіцца ў духоўнае падарожжа з добрым кіраўнікам, прасі Бога, каб Ён паслаў яго і не сумнявайся, што гэта збудзецца. Бог пашле табе таго, каго ты просіш, калі б нават Ён павінен быў бы паслаць табе Анёла. Давярай не яму і не яго чалавечым ведам, а Богу, які будзе дапамагаць табе праз гэтага чалавека, адчыні яму сваё сэрца, і тады тое, што ёсць у табе добрае, будзе спраўджана, а тое, што дрэннае – выпраўлена. Твой давер і павага да яго няхай будуць святымі, духоўнымі і шчырымі. Авіла казаў: "Выберы аднаго з тысячы", а я кажу – з дзесяці тысячаў, бо вельмі мала такіх людзей, якія на гэта здольныя. Гэты чалавек павінен спалучаць у сабе любоў, веды і мудрасць. Небяспечна даверыцца, калі адзін з гэтых трох элементаў адсутнічае. Калі ты адшукаеш такога кіраўніка з дапамогаю Бога, дык не шукай іншага, а з поўным даверам і пакорлівасцю выпраўляйся ў падарожжа, якое абавязкова будзе шчаслівым.

# Раздзел V

## ТРЭБА ПАЧЫНАЦЬ З АЧЫШЧЭННЯ ДУШЫ

"Кветкі паказаліся на зямлі, надыходзіць час ачышчэння", – кажа ў Песні песняў Божы жаніх. Кветкі нашага сэрца, Філатэя, – гэта нашыя добрыя жаданні. Як толькі яны з'яўляюцца, трэба ўзяць нож і абрэзаць усе непатрэбныя і змярцвелыя парасткі нашай душы. Калі дзяўчына-чужаземка выходзіла замуж за ізраільцяніна, яна здымала з сябе рабскае адзенне і ўпрыгожвала свае валасы. Гэтак і душа, якая хоча стаць Хрыстовай нявестай, мусіць скінуць з сябе адзенне старога чалавека і ўбрацца ў новае, пакінуўшы ўсе тое, што адхіляе яе ад Божае любові.

Ачышчэнне душы – пачатак нашага здароўя. У апостала Паўла гэтае ачышчэнне адбылося імгненна, як і ў многіх іншых: св. Кацярыны, св. Магдалены, св. Пелагеі і другіх. Такое ачышчэнне з'яўляецца выключным і цудоўным дарам Божае ласкі і мы не павінны на гэта разлічваць. Ачышчэнне, таксама як і звычайнае выздараўленне ад фізічных або душэўных хваробаў, наступае паступова, пакрысе. Анёлы на лесвіцы Якуба маюць крылы, аднак яны не лётаюць, але ўздымаюцца і апускаюцца па прыступках. Душа, якая ўздымаецца з цемры грэшнага жыцця да жыцця рэлігійнага, падобная на зару, якая, загараючыся на ўсходзе, не рассейвае начны змрок адразу, а робіць гэта паступова. Вядома, што выздараўленне бывае больш трывалае, калі адбываецца паступова. У гэтай справе, Філатэя, трэба быць мужнаю і цярплівою. Якую жаласлівую карціну

ўяўляюць з сябе душы, што, усведамляючы сваю недасканаласць і пачаўшы ісці шляхам рэлігійнасці, вельмі хутка губляюць цярпенне, трывожацца і нават паддаюцца спакусе кінуць усё і вярнуцца да ранейшага чыну жыцця. Але не меншую небяспеку ўяўляюць і тыя выпадкі, калі душа лічыць сябе ўжо ад першага дня ачышчанаю, дасканалаю і спрабуе лётаць, не адрасціўшы крылаў. Ачышчэнне нашае душы можа закончыцца толькі разам з нашым жыццём. Таму не будзем падманваць сябе, што мы ўжо сталі дасканалыя. Нашая дасканаласць заключаецца ў змаганні з недасканаласцю, а для таго, каб яе перамагчы, трэба спаткацца з ёю. Перамога не ў тым, каб яе не адчуваць, але ў тым, каб не паддавацца сваёй недасканаласці. Аднак, мы не будзем пераможаныя да тае пары, пакуль не страцім жыццё душы або мужнасць. Забіць душу можа толькі смяротны грэх. Нашая мэта зводзіцца да таго, каб не згубіць мужнасці. "Выбаў мяне, Пане, ад маладушша і адчаю", – кажа Давід. Гэтая духоўная вайна адрозніваецца тым, што мы не можам быць пераможаныя да таго часу, пакуль захаваем волю да барацьбы.

## Раздзел VI

## АБ ПЕРШЫМ АЧЫШЧЭННІ – АД СМЯРОТНЫХ ГРАХОЎ

Сродкам ачышчэння ад граху з'яўляецца Сакрамант Пакаяння. Падрыхтуй сваё сумленне да споведзі. Прыпомні ўсе свае грахі: ад пачатку свайго свядомага жыцця да цяперашняга часу, і калі ты не давяраеш сваёй памяці, запішы тое, што табе ўдалося прыпомніць. Праверыўшы такім чынам свае сумленне,

запалі ў сабе вялікую нянавісць да сваіх грахоў і шкадуй, што страціў Боскую ласку, страціў права да Неба, запісаўся на вечныя пякельныя мукі і адкінуў Божую любоў. Ты разумееш, Філатэя, я кажу тут пра споведзь, якая закранае ўсе жыццё ў цэлым, якая надзвычайна карысная на пачатку, таму я раю табе асабліва ўважліва паставіцца да яе. Часта бывае, што звычайная споведзь людзей, якія жывуць свецкім жыццём, мае мноства недахопаў, часта да яе вельмі дрэнна рыхтуюцца, чалавек прыходзіць да споведзі з таемным намерам вярнуцца зноў да граху, не хоча ўнікнуць абставінаў, не бярэцца выкарыстоўваць способы, якія дапамогуць яму выправіць сваё жыццё. Поўная споведзь заспакойвае нашае сэрца, абуджае добрыя намеры, дае магчымасць нашаму духоўнаму кіраўніку лепш зразумець нашае становішча і стварае магчымасць для яшчэ большага даверу пры наступнай споведзі. Маючы на ўвазе абнаўленне твайго сэрца і зварот твае волі да Бога шляхам рэлігійнага жыцця, мне здаецца, неабходна параіць табе такую поўную споведзь.

## Раздзел VII

### АБ ДРУГІМ АЧЫШЧЭННІ – АД ПРЫХІЛЬНАСЦІ ДА ГРАХУ

Усе ізраільцяне пакінулі Егіпецкую зямлю, але не ўсе пакінулі свае папярэднія звычкі і прыхільнасці, вось чаму некаторыя з іх, знаходзячыся ў пустэльні, шкадавалі аб мясе і агародніне, што яны елі ў Егіпце. Гэтаксама і тыя, што каюцца, даюць абяцанне не паўтараць граху, але захоўваюць цягу да яго, іх сэрца часамі ізноў звяртаецца назад, так, як гэта рабіла

жонка Лота, аддаляючыся ад Садома. Яны нагадваюць хворых, якім доктар забараніў есці дыню, таму што яна можа прынесці ім смяротную шкоду, аднак яны не пакідаюць жадання ўзяць яе ў рукі ды панюхаць і лічаць за шчасліўцаў тых, хто можа яе есці. Слабымі і палахлівымі аказваюцца грэшнікі, якія шкадуюць аб пакінутым граху; яны ўспамінаюць пра яго з задавальненнем і лічаць, што тыя, хто не адмовіўся ад яго, атрымліваюць задавальненне. Напрыклад, чалавек які імкнуўся да помсты, пакінуў свой намер пасля споведзі, але праз некаторы час мы знаходзім яго сярод сяброў, якім ён расказвае падрабязнасці свае сварбы, гаворачы пра тое, як бы ён адпомсціў свайму крыўдзіцелю, калі [illegible] не баяўся Бога, і які цяжкі Божы закон аб дараванні. Ах, каб толькі можна было адпомсціць! Хіба вы не бачыце, што хаця гэты чалавек і выйшаў з Егіпту, але ён не страціў смаку да яго страў. А вось жанчына, якая не прыняла незаконную любоў, але ўсё роўна хоча, каб яе акалялі і заляцаліся да яе мужчыны. Ах, шкада! У якой небяспецы знаходзяцца гэтыя людзі! О, Філатэя, для таго, каб ісці шляхам рэлігійнага жыцця, трэба не толькі пакінуць грахі, але і вырваць з свайго сэрца схільнасці да ўсяго, што прывядзе да граху. Гэтыя небяспечныя схільнасці могуць зрабіцца сталымі, і за імі заўсёды хаваецца небяспека новых падзенняў. Яны гэтак абцяжарваюць душу, што яна робіцца няздольнаю часта, хутка і старанна рабіць добрыя справы. А гэта ж складае сутнасць праўдзівае рэлігійнасці. Душы, якія выйшлі са стану граху, але маюць яшчэ да яго схільнасць і прыцягненне, падобныя, на мой погляд, да слабых людзей, што не хворыя ў сапраўднасці , але ўсе дзеянні якіх хваравітыя: яны ядуць, але не наядаюцца, спяць, але не

адпачываюць, смяюцца, але не радуюцца, і хутчэй цягнуцца, чым ідуць па дарозе жыцця. Усялякая добрая справа прыносіць гэтым душам такую стомленасць, што іх добрыя справы становяцца рэдкімі і няплённымі.

# Раздзел VIII

## СРОДКІ ДА ДРУГОГА АЧЫШЧЭННЯ

Першым момантам, які можа спрыяць гэтаму другому ачышчэнню з'яўляецца жывое і яснае ўяўленне пра вялікае зло, якое нясе з сабою грэх. Сапраўдны жаль за грахі, злучаны з сакрамантамі, ачышчае нас не толькі ад граху, але і ад прыхільнасці да яго. Калі мы не маем прыязнасці да каго-кольвек, дык мы стараемся ўнікаць яго таварыства, але, калі мы адчуваем нянавісць, дык мы не толькі адварочваемся ад тае асобы, якую мы ненавідзім, нам непрыемны нават яе партрэт, рэчы, якія ёй належаць, мы ўнікаем сустракацца нават з яе сваякамі або сябрамі. Гэтаксама, калі жаль за грахі павярхоўны – чалавек стараецца толькі ўнікнуць іх паўтарэння, а калі ж ён глыбокі і моцны – чалавек узненавідзіць не толькі сам грэх, але і ўсе пачуцці, учынкі ды акалічнасці, якія з ім звязаныя. Таму, Філатэя, неабходна ўзбудзіць жаль за грахі такі глыбокі, каб ён распаўсюджваўся на ўсё, што мае адносіны да граху. Марыя-Магдалена, пасля таго як навярнулася да Бога, не толькі страціла смак да граху, але і да задавальненняў, якія з ім звязаныя. Давід не толькі ўзненавідзеў сам грэх, але і ўсе шляхі, якія вядуць да яго. Вось, з чаго складаецца памаладзенне душы.

Каб прыйсці да гэтага, неабходна імкнуцца праз Божую ласку выкараніць са свайго сэрца прыхільнасць да граху.

Каб аблегчыць сабе гэтую працу, трэба сур'ёзна ўзважыць наступныя пытанні. Прадумвай іх па адным на дзень, лепей раніцай, а потым на працягу дня пераржоўвай розумам і пераварвай сэрцам. Каб навучыцца лепей разважаць – прачытай першыя раздзелы часткі II.

## Разважанне I

# ПРА СТВАРЭННЕ

Падрыхтоўка

1. Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Усвядом сабе, што Ён цябе бачыць і чуе. Прасі Бога, каб Ён асвяціў твой розум і тваё сэрца.

Разважанне

1. Усвядом, што колькі гадоў таму цябе не было на свеце. Дзе ж былі мы? Дзе ж была мая душа? Свет існуе так даўно, а нас не было, бо мы сапраўды былі ў небыцці.

2. Бог цябе вывеў з гэтага небыцця і стварыў цябе тым, чым ты з'яўляешся, хаця не чакаў ад цябе нейкае карысці. Ён учыніў гэта толькі праз сваю міласэрнасць.

3. Усвядом, якою годнасцю Бог надарыў цябе. Бо чалавек з'яўляецца найдасканалейшаю істотаю відочнага свету, здольнаю жыць вечна і ў еднасці з Богам.

Пачуцці і высновы

1. Скарыся перад Богам ад усяе глыбіні свае душы і паўтарай разам з псальмістам: "О Пане, існаванне маё – як нішто перад Табою. Як жа Ты ўспомніў пра мяне,

каб стварыць мяне. О, душа мая! Ты была ўлучаная ў адвечнае небыццё і яшчэ была б там цяпер, калі б Бог, ствараючы цябе, не вывеў цябе з небыцця і што б ты магла ў тым небыцці зрабіць?"

2. Падзякуй Богу: "О вялікі, вялікі Творца! Як я Табе абавязаны за тое, што вывеў мяне з майго небыцця, каб міласэрнасцю Сваёю стварыць мяне і зрабіць тым, чым я ёсць. І як я змагу праславіць Імя Тваё і аддзякаваць бязмежнай дабрыні Тваёй?

3. Як сорамна мне, о Божа, Творца мой! Замест таго, каб жыць у еднасці з Табою, служыць Табе і любіць, я дрэннымі схільнасцямі аддалялася ад Цябе, а злучаючыся з грахом, не аддавала Табе належнае пашаны, быццам Ты не быў маім Творцам.

4. Скарыся перад Боскаю веліччу "О, душа мая! Ведай, што Бог – Пан Твой, што ён цябе стварыў, а не ты стварыла сама сябе. О, Божа, я работа рук Тваіх. Пастанаўляю, што з сённяшняга дня не буду больш захапляцца сабою, бо я з'яўляюся нічым. Чаму ж зазнаешся зямля і попел? Чаму ж сапраўднае нішто ганарышся і ўзносішся? А таму для належнага паніжэння свае высакамернасці я буду гатовая зносіць прыніжэнні і выконваць учынкі пакоры. Хачу змяніць жыццё, вярнуцца да майго Творцы і быць вернаю свайму прызначэнню. Аддаю сябе на заўсёднае паслушэнства святой Боскае волі і выконваць яе буду паводле навук і парадаў майго Спаведніка".

Заканчэнне

1. Падзякуем Богу: "Багаславі, душа мая, Пана і ўсё, што ўва мне ёсць, багаславі Святое Імя Яго. Таму што дабрыня Яго вывела мяне з небыцця, а міласэрнаць Яго стварыла мяне"

2. Ахвяраванне

О, Пане і Божа Мой! Ахвярую Табе ўсю сутнасць

маю, якой Ты надарыў мяне. Ахвяруюся Табе з усім маім сэрцам і ўся аддаюся і прысвячаюся Табе.

3. Молімся: "О, Божа! Умацуй ува мне мае пачуцці і пастанаўленні. О, Пані Найсвяцейшая, аддаю мяне разам з усімі, за каго я павінна асабліва маліцца, міласэрнасці Твайго Боскага Сына". Даручы сябе ўсім Святым і Божым Анёлам. Маліся далей пасля кожнага разважання "Ойча наш...", "Вітай, Марыя..."

Заўвага. Сканчаючы разважанне, зрабі духоўны букецік з найважнейшых думак і пачуццяў, якія былі асноўнымі падчас развагаў нібы з духмяных кветак, каб водарам іх цешыцца і асвяжацца кожны час.

## Разважанне II

## ПРА МЭТУ, ДЗЕЛЯ ЯКОЙ МЫ СТВОРАНЫЯ

Падрыхтоўка

Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Прасі Яго аб ласцы, патрэбнай для належнага выканання гэтага разважання.

Разважанне

1. Бог стварыў цябе выключна праз сваю міласэрнасць. Ён даў табе розум, каб Яго пазнаваць, памяць – каб помніць Яго, волю – каб Яго любіць, уяўленне – каб уяўляць сабе Яго дабрадзействы, вочы – каб бачыць цуды Яго тварэння, язык – каб славіць Яго, а таксама іншыя здольнасці.

2. Калі мы зразумеем, для чаго мы створаныя і прыйшлі ў гэты свет, тады мы павінны адмовіцца ад усяго, што не адпавядае гэтай мэце, як ад непатрэбшчыны.

3. Падумай, якія няшчасныя людзі свету, што

жывуць, быццам яны былі створаныя адно дзеля таго, каб будаваць хаты, садзіць агароды, збіраць матэрыяльныя даброты і забаўляцца.

Пачуцці і высновы

1. "Пра што я думала, калі не думала пра Бога? Што я любіла, калі ў мяне не было любові да Бога? Я была поўная мітусні і служыла свету, які створаны для таго, каб служыць мне". Ці не адчуваеш ты агіды да чыну твайго папярэдняга жыцця: да бескарысных і марных думак, да непатрэбных успамінаў, да легкадумных і няверных сяброўстваў?

## Разважанне III

# АБ БОЖЫХ ДАБРАДЗЕЙСТВАХ

Падрыхтоўка

Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Прасі Яго аб ласцы, патрэбнай для карыснага выканання гэтага разважання.

Разважанне

Разгледзь тыя жыццёвыя даброты, якімі цябе надзяліў Бог.

1. Фізічныя: ёсць людзі з пакалечаным здароўем, інваліды, іншыя жывуць у занядбанні і ганьбе, або ў вялікай беднасці. Ты маеш добрае здароўе, усё неабходнае для жыцця, сяброў і г.д.

2. Паглядзі на даброты душэўныя: ёсць людзі, пазбаўленыя здольнасцяў, мовы, псіхічна хворыя, пазбаўленыя адукацыі. А Бог даў табе ўсё гэта.

3. Звярні ўвагу на духоўны дабрабыт: Ты – дзіця Касцёла. О, Філатэя, ты мела магчымасць з маладых гадоў пазнаваць Бога. Колькі натхнення, унутранага асвятлення ты атрымала! Як часта былі адпушчаныя

табе твае грахі. Колькі разоў ты была выратаваная ад небяспекі? Якія ўмовы былі створаныя за ўсе мінулыя гады для твайго духоўнага развіцця! Колькі разоў ты прыступала да Сакрамантаў.

Пачуцці і высновы.

1. Звярні ўвагу на Божую міласэрнасць: які літасцівы быў да цябе Бог. Колькі дабрадзействаў даў табе ў жыцці.

2. Звярні ўвагу на сваю няўдзячнасць: "Я не шанавала, Пане, Тваіх міласцяў, злоўжывала Тваімі дарамі і супрацьпастаўляла бездань мае няўдзячнасці бездані Тваёй міласэрнасці".

3. "Не будзь няверным і няўдзячным і надалей, маё сэрца. Як можаш ты, душа, заставацца абыякавай да ўсіх Божых міласцяў?"

4. Скіруй усю сваю ўвагу, о Філатэя, на тое, каб прызнаваць і пазнаваць Бога ўсімі тымі шляхамі, якія прапануе табе Касцёл.

"Так ёсць, о Пане, як найчасцей я буду звяртацца да малітвы і сакрамантаў. Ахвотна буду слухаць Божае слова і адданая буду натхненням і парадам, якія прыйдуць ад Цябе".

Заканчэнне

1. Падзякуй Богу, што выдзеліў святла да спазнання ўсялякіх Сваіх ласкаў і дароў і даў зразумець твае абавязкі.

Ахвяраванне

Ахвяруй Яму сваё сэрца і свае пастанаўленні. Прасі Бога, каб іх узмацніў і даў магчымасць іх верна выканаць. Праз заслугі мукі і смерці Хрыста Пана.

Маліся таксама да Найсвяцейшае Панны Марыі, Анёлаў і Панскіх Святых, каб маліліся за цябе

"Ойча наш...", "Вітай, Марыя..."

Зрабі духоўны букецік.

**Разважанне IV**

# АБ ГРАХУ

Падрыхтоўка

**Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Прасі Яго аб ласцы добрага разважання.**

Разважанне

1. Падумай пра той час, калі ты пачала грашыць, і пра тое, як памножыліся твае грахі з таго часу, як яны памнажаліся кожны дзень: грахі супраць Бога, бліжняга і самога сябе, грахі і ўчынкам, і словам, і жаданнем, і думкаю.

2. Падумай аб сваіх дрэнных схільнасцях, як часта ты ім паддавалася, і ты ўбачыш, што грахоў у цябе больш, чым валасоў на галаве, чым пяску ў моры.

3. Разгледзь асобна грэх няўдзячнасці Богу, які з'яўляецца галоўным грахом, распаўсюджаным на ўсе астатнія, які робіць іх яшчэ цяжэйшымі.

Колькі дароў даў табе Пан, і колькі з іх ты зрабіла бескарыснымі! Колькі разоў ты прыступала да Сакрамантаў, але дзе вынікі? Як ты да іх рыхтавалася? Колькі разоў Бог ішоў табе насустрач, каб выратаваць цябе, а ты столькі разоў адыходзіла ад Яго, каб загінуць.

Пачуцці і высновы

1. "Як стану я перад Табою, Пане? Я, поўная няўстойлівасці і няўдзячнасці. Ні адзін дзень майго жыцця не прайшоў без граху, ні адной здольнасці не засталося ў мяне, якую б я не сапсавала, не апаганіла. Я пагарджала дабрадзействамі майго Творцы і Крывёю свайго Збаўцы".

2. Прасі прабачэння, кінься да ног Пана, як блудны сын, як Марыя-Магдалена, як блудніца. "Пане, будзь міласцівы да мяне, грэшнай".

3. Вырашы палепшыць жыццё.

О, Езу, дапамажы мне Тваёю ласкаю, я ніколі больш, ніколі не вярнуся да граху. На жаль, залішне я грашыла. Няхай жа цяпер збрыджуся і ўзненавіджу грэх. Няхай усё аддам Табе, Ойча міласэрнасці! Хачу ў Табе жыць і ў Табе памерці.

4. Адважна паспавядаюся з мінулых грахоў, а ніводнага не затаю, а вызнаю ўсе грахі.

5. Пры дапамозе Божае ласкі буду старацца выкараніць усялякія мае злыя схільнасці, пачынаючы ад тых, якія мяне найбольш прыводзілі да граху.

6. З гэтай мэтаю я буду паступаць згодна з радай майго Спаведніка. А што б мне ні наказаў, і што б я ні магла выканаць, каб задаволіць за мае правіны Божую справядлівасць – усё гэта будзе здавацца для мяне замалым і як бы нічым.

Заканчэнне

1. Падзякуй Богу, што так цярпліва чакаў цябе і да такіх добрых пастановаў пабудзіў тваё сэрца.

2. Ахвяруй Яму сваё сэрца на іх выкананне.

3. Прасі Яго, каб умацніў цябе. Даручы сябе Найсвяцейшай Пані, Усім Святым і Анёлам Божым.

"Ойча наш...", "Вітай, Марыя..."

Зрабі духоўны букецік.

### Разважанне V

## АБ СМЕРЦІ

<u>Падрыхтоўка</u>

Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Прасі Яго

аб ласцы добрага разважання. Уяві сабе, што ты зломлены смяротнаю хваробаю, без надзеі на жыццё.

Разважанне

1. Невядомы дзень нашае смерці. Душа мая, наступіць дзень, калі ты развітаешся з целам. Калі гэта будзе? Зімою ці летам? У горадзе ці ў вёсцы? Удзень ці ўночы? Неспадзявана ці пасля папярэдняе падрыхтоўкі? Пасля хваробы ці няшчаснага выпадку? Ці будзеш ты мець час выспавядацца ці не? Ці будзе пры табе духоўны Айцец ці не? Мы нічога не ведаем пра ўсё гэтае. Мы дакладна ведаем толькі тое, што абавязкова памром і заўсёды раней, чым мы меркавалі.

2. Свет не будзе больш існаваць для нас, тады ўсе задавальненні, зямныя радасці, пустыя сімпатыі – усё гэта стане падобнае на воблака або здань. Ты ўбачыш, што ты пакідала Бога дзеля марнасці. Тады, наадварот, рэлігійнасць і добрыя справы здадуцца табе такімі прыемнымі і жаданымі: "Чаму я не ішла гэтым цудоўным шляхам?" – скажаш ты. Грахі, якія табе здаваліся малаважнымі, здадуцца падобнымі на горы, а твая рэлігійнасць – недастатковаю.

3. Падумай аб смутным разлучэнні душы са светам, з багаццем, задавальненнямі, сябрамі і суседзямі, з дзецьмі, з мужам, з жонкаю, з усімі тварэннямі і, нарэшце, з целам, якое стане брыдкім, бледным і змярцвелым.

4. Падумай, як паспяшаюцца хутчэй прыбраць і схаваць у зямлю тваё цела і не думаць пра цябе, як ты цяпер не думаеш пра іншых. "Вечны адпачынак дай ёй, Пане, няхай адпачывае ў супакоі", – скажуць людзі. І гэта ўсё. О, смерць, якая ты няміласцівая і няўмольная!

5. Падумай пра тое: выйшаўшы з цела, душа пойдзе направа або налева. Якім шляхам пойдзе твая

душа? Тым, пачатак якому быў пакладзены ў гэтым жыцці.

Пачуцці і высновы

1. Маліся: "Пане, дапамажы мне ў гэты страшны дзень. Няхай лепш іншыя гадзіны майго жыцця будуць сумнымі, але гэтую гадзіну зрабі спакойнаю і шчаслівую".

2. Я не хачу прывязвацца да цябе, свет, бо я не ведаю гадзіны, калі мушу цябе пакінуць. Дарагія сябры мае, я хачу любіць вас той святой любоўю, якая знаходзіцца ў вечнасці, я не хачу такога сяброўства, якое мусіць парвацца і знікнуць. Я хачу падрыхтавацца да гэтае гадзіны, паклапаціцца, каб пераход у іншы свет быў радасны.

3. Я вырашыла быць заўсёды гатоваю на гадзіну смерці і ўсім маім жыццём заслужыць сабе шчаслівую смерць. Хачу забяспечыць як найлепей стан майго сумлення і хачу да парадку прывесці мае справы, а менавіта...

Заканчэнне

1. Падзякуй Богу за тыя рашэнні, якімі Ён цябе натхніў.

2. Сардэчна ахвяруй іх Яму .

3. Зноў прасі, каб даў табе шчаслівую смерць праз заслугі Адзінароднага Сына свайго. Прасі аб дапамозе ў Божае Маці, Святых і Панскіх Анёлаў.

"Ойча наш", "Вітай, Марыя..."

Зрабі букецік духоўны.

## Разважанне VI

# АБ СУДЗЕ

Падрыхтоўка

Станем у пакоры перад Богам. Папросім Яго аб ласцы добрага разважання.

Разважанне

1. Калі прыйдзе гадзіна, прызначаная Богам для сканчэння свету, пасля многіх жахлівых перадвесцяў, у час якіх людзі будуць гінуць ад страху, вогненнае полымя ператворыць у попел усё аблічча зямлі.

2. Пасля вогненнага патопу ўсе людзі ўваскрэснуць на голас трубы Арханёла. Але, на жаль, у адных будуць целы слаўныя, у другіх – жахлівыя, агідныя.

3. З'явіцца Суддзя, абкружаны Анёламі і Арханёламі, на нябёсах з'явіцца крыж, зоркі, як сонца.

4. Гэты Вышэйшы суддзя паставіць добрых з правага боку, а благіх з левага, і яны будуць аддзеленыя адзін ад другога навекі.

5. Адкрыюцца Кнігі сумлення, і нішто не застанецца схаваным. Якая сумятня для адных, і якое суцяшэнне для другіх.

6. Выслухай апошні вырок благім: "Ідзіце, праклятыя, у вечны агонь, які падрыхтаваны д'яблу і слугам яго". Бог адрыне благіх ад Свайго аблічча. О, душа, які жахлівы праклён на ўсю вечнасць. Вечны агонь! Вечнасць мук, якая ты жахлівая!

7. Выслухай вырок добрым: "Ідзіце, – кажа Суддзя, – блаславёныя Айца Майго, прыміце Валадарства, якое падрыхтавана вам ад стварэння

свету". О, Божа, якое блаславенне, – гэтаму Валадарству не будзе канца!

Пачуцці і высновы

1. Задрыжы, душа мая, на ўспамін аб Судзе: "О Божа, хто ж мяне будзе ахоўваць у той страшны дзень, у які ад жаху і неба задрыжыць".

2. Узненавідзь грахі твае, бо толькі яны могуць стаць прычынаю асуджэння ў дзень страшнага Суда.

3. О, сама хачу сябе судзіць, каб не быць асуджанай! Загляну ў сваё сумленне, вызнаю мае правіны, прысягну направіцца і прасіць буду аб даравання ў Сакраманце Пакаяння, каб мне мой Суддзя цяпер даравау і тут, и ў дзень страшны не судзіў, не караў. Пайду да споведзі і буду выконваць тое, што мне парадзіць мой Спаведнік.

Заканчэнне

1. Падзякуй Богу, што даў табе спосаб аховы на той апошні дзень і даў табе час, патрэбны для шчырае направы.

2. Ахвяруй Богу тваё сэрца, просячы яго аб ласцы, патрэбнай для добрых учынкаў і направы.

3. Звярніся да Маці Божай, Анёлаў і Святых.

"Ойча наш...", "Вітай, Марыя..."

Зрабі духоўны букецік.

## Разважанне VII

# АБ ПЕКЛЕ

Падрыхтоўка

Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Прасі Яго аб ласцы добрага разважання. Уяві сабе вялікі горад – цёмны, пануры, які разгарэўся серкаю і смалою смярдзючаю, і напоўнены мноствам жыхароў,

замкнёных у тым горадзе.

Разважанне

1. Асуджаныя знаходзяцца ў пякельнай бездані, як у няшчасным горадзе. Яны церпяць невыносныя болі ва ўсім целе і пачуццях. Бо яны свае пачуцці і цела ўжывалі для граху – усе яны церпяць мукі. Вочы, якія кідалі злыя і фальшывыя погляды, будуць бачыць д'яблаў і пекла, вушы, якія любілі слухаць нячыстыя размовы, будуць вечна слухаць плач і нараканні.

2. Апрача ўсіх гэтых пакутаў ёсць яшчэ адна – самая цяжкая: яны ніколі не ўбачаць Божае хвалы. Для Абсалома больш цяжкім няшчасцем, чым выгнанне, было тое, што ён не мог бачыць твару свайго ўлюбёнага бацькі Давіда.

3. Уяві сабе вечнасць гэтых мукаў, якая сама праз сябе робіць пекла невыносным. Калі боль у вуху або пал ад ліхаманкі робіць кароткую ноч доўгаю і сумнаю, дык якою страшнаю здасца вечная ноч мукаў. Гэта будзе вечны нясконччаны адчай.

Пачуцці і высновы

1. Душа, прыйдзі ў жах ад слоў прарока Ісаі: Душа мая, ці хочаш ты жыць вечна сярод пажыральнага агню? Хіба ты хочаш пакінуць Бога твайго назаўжды?

2. Усвядом, што ты заслужыла пекла! Ах, і колькі разоў? Ах! Ад сягонняшняга дня я ўжо пайду другою дарогай. Бо не хачу ўпасці ў бездань пекла.

3. Я вырашыла з гэтай мэтаю зрабіць намаганне, каб адступіць ад таго смяротнага граху... Бо смяротны грэх, і толькі грэх, вядзе да пекла.

Заканчэнне

1. Падзякуй Богу за атрыманае святло на працягу гэтага разважання. Ахвяруй яму тваё сэрца.

2. Прасі Яго аб ласцы, каб магла пакінуць грэх. Звярніся да Найсвяцейшай Пані, Анёлаў і Святых.

"Ойча наш...", "Вітай, Марыя..."
Зрабі духоўны букецік.

## Разважанне VIII

# АБ РАІ

<u>Падрыхтоўка</u>

Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Прасі Яго аб ласцы, добрага разважання.

<u>Разважанне</u>

1. Уяві сабе прыгожую і ясную ноч і падумай, як прыемна бачыць неба і мноства зорак. Далучы да гэтага прыгажосць яснага дня і падумай, што ўсё гэтае хараство разам нішто, у параўнанні з хараством раю; якая каштоўная, якая жаданая і ўлюбёная гэтая краіна!

2. Паглядзі, якія прыгожыя і шматлікія жыхары гэтай шчаслівае краіны: мільёны мільёнаў Анёлаў, Херувімаў і Серафімаў, Апосталы, Мучанікі, Вызнаўцы, Панны, Святыя жанчыны – лік іх бязмежны, кожны з іх прыгажэй ад усяго свету.

3. Якімі яны павінны быць шчаслівымі, заўсёды знаходзячыся перад Божым абліччам і адчуваючы Яго прысутнасць. Яны падобныя да птушак, лётаюць і спяваюць заўсёды ў гэтай Боскай атмасферы, якая напаўняе іх неспасцігальнай радасцю. Кожная з іх спявае хвалу Тварцу. Яны навекі бласлаўляюць Творцу і Збаўцу, які, у сваю чаргу, бласлаўляе сваіх святых: "Блаславёныя вы, мае дарагія стварэнні, што служыце Мне і славіце Мяне вечна сваёю любоўю".

<u>Пачуцці і высновы</u>

1. Дзівіся і слаў нябесную Айчыну. Які ты прыгожы, нябесны Ерузалім, якія шчаслівыя твае

насельнікі!

2. Тваё сэрца мела так мала мужнасці і адварочвалася ад шляху, які вядзе ў гэтае жыллё славы. Спытай сябе: "Чаму я так аддалялася ад гэтага найвышэйшага шчасця? – Няшчасная, для марных і пустых задавальненняў ты гэтулькі разоў пакідала вечныя і бясконцыя радасці. Чаму я ставіла свае мізэрныя імкненні вышэй за гэтыя жаданыя даброты?" Імкніся да гэтага цудоўнага жыцця.

Заканчэнне

1. Дзякуй Пану Езусу

2. Ахвяруйся Богу

3. Прасі Яго аб дапамозе

Звярніся з просьбаю да Найсвяцейшае Панны, Анёлаў і Святых -

"Ойча наш...", "Вітай, Марыя..."

Зрабі духоўны букецік.

## Разважанне IX

# ВЫБАР

Падрыхтоўка

Стань у глыбокай пакоры перад Богам. Прасі Яго аб ласцы добрага выбару.

Разважанне

Уяві сябе сярод поля ў адзіноце са сваім Анёлам – ахоўнікам, як Тобій, калі ён ішоў у Раг, і няхай ён пакажа табе рай, адкрыты на нябёсах з усімі яго нябеснымі радасцямі, а ўнізе – адкрытае пекла, з усімі яго мукамі. Уяві сабе, што ты знаходзішся пасярэдзіне, паміж пеклам і раем і мусіш зрабіць выбар. Падумай, што ад выбару ў гэтым свеце залежыць твой лёс у вечнасці.

Ты вольная ў выбары, але Бог у сваёй

невычарпальнай міласэрнасці хоча, каб ты выбрала рай. Да гэтага ж пабуджае цябе і твой анёл-ахоўнік, які стараецца дапамагчы табе. Езус Хрыстус паглядае на цябе з нябеснае вышыні і кажа: "Ідзі да мяне, душа, у вечны супакой, насустрач бясконцым радасцям Маёй любові". Божая Маці звяртаецца да цябе: "Дачка мая, не адхілі закліку Майго Сына і Маіх уздыханняў, ідзі хутчэй да вечнага збаўлення".

Мільёны святых сэрцаў прызываюць, каб тваё сэрца далучылася да іх сяброўства і запэўніваюць цябе, што дарога да неба не такая цяжкая, як думае пра тое свет. "Смялей, – кажуць яны, – дарагая сяброўка, паглядзі на шлях рэлігійнасці, па ім мы ішлі і прыйшлі да такіх вялікіх радасцяў, якіх не ведае свет".

Уяві сабе, што ты адна сярод пустога поля, з правага боку ад цябе – твой добры анёл, а з левага - д'ябал на высокім троне з некалькімі ніжэйшымі духамі вакол яго. Перад імі натоўп людзей, якія дагаджаюць яму то адным грахом, то другім. Паглядзі на гэтых страшных прыдворных жахлівага караля – адныя з іх – поўныя нянавісці, зайздрасці, гневу, другія – задумваюць забойства, трэція – гоняцца за багаццем і славаю, многія сапсаваныя сваімі грубымі густамі і прыхільнасцямі. Паглядзі, у іх няма ўпыну, няма парадку, няма спакою, любоў іх фальшывая, яны пагарджаюць адзін другім. Табе будзе шкада гэтай няшчаснай краіны, у якой пануе жахлівы тыран.

Справа ты ўбачыш Езуса Хрыста на Крыжы, які моліцца за гэтых няшчасных, каб яны збавіліся ад страшнага тырана і кліча іх да Сябе. Цяпер глянь на цудоўную краіну рэлігійнасці. Ты ўбачыш Паннаў, якія чыстыя, як лілеі. Вось удовы – якія вядуць пакорнае жыццё, вось сем'і – жыццё якіх, поўнае любові і ўзаемнае павагі. Ты ўбачыш, як гэтыя рэлігійныя

душы злучаюць клопаты аб знешнім з клопатамі аб унутраным жыцці, любоў да сям'і з любоўю да нябеснага Жаніха. Усе яны прыслухоўваюцца да слоў Пана, якія глыбока западаюць у іх сэрцы. Іх радасць – прыгожая, спакойная і зладжаная, іх любоў аднаго да другога – святая і чыстая. Іх смутак не парушае настрою. Погляд Збаўцы іх суцяшае, і яны ўсе імкнуцца да Яго.

Ты ўжо адышла ад д'ябла і яго жудасных памагатых, дзякуючы тваім добрым пачуццям і імкненням, але ты яшчэ не далучылася да шчаслівага і святога таварыства святых, ты знаходзішся ўсё яшчэ паміж тым і другім.

Маці Божая, Святы Юзаф, святы Людвік, святая Моніка і сотні тысяч святых, якія жылі ў свеце, клічуць цябе і падбадзёрваюць. Укрыжаваны Пан кліча цябе па імені: "Прыйдзі да Мяне, і Я ўкараную цябе".

Выбар

1. О, свет, я ніколі больш не пайду пад тваім сцягам. Я назаўсёды пакіну тваю марнасць. О, каралеўства высакамернасці, о князь мукаў, дух пекла, я выракаюся цябе з ўсімі тваімі марнымі вялікасцямі, я пагарджаю ўсімі тваімі справамі.

2. Звярнуўшыся да Цябе, Езус, Кароль вечнай хвалы і шчасця, я аддаю Табе ўсю сваю душу і сэрца, я выбіраю Цябе раз і назаўсёды Каралём мае душы, я скараюся Твайму святому закону і Тваім Прыказанням.

3. О, найпрыгажэйшая Дзева, Каралева Нябесная, Цябе я выбіраю сваім правадыром, Табе прыношу сваё пакланенне.

4. Анёл мой ахоўнік, прывядзі мяне ў супольнасць Святых, не пакідай мяне да тых часоў, пакуль я не прыйду ў іх асяроддзе і не далучу свой голас да іх хору, які спявае вечна: "Хвала Табе, Езу Хрысце", "Ойча наш...", "Вітай, Марыя..."

# Раздзел IX

## СПОВЕДЗЬ ЗА ЎСЁ ПАПЯРЭДНЯЕ ЖЫЦЦЁ

Вось, дарагая Філатэя, тыя разважанні, якія абавязковыя для нашае мэты. Пасля іх ты зможаш смела ісці з пакораю да гэтай споведзі. Атрута скарпіёна небяспечная пры ўкусе. Але, калі тую ж атруту разбавіць у адпаведным складзе, яна становіцца лекамі супраць укусаў скарпіёна. Грэх, які з'яўляецца атрутным у моманты яго здзяйснення, у працэсе жалю становіцца выратавальным. Споведзь і жаль за грахі такія цудоўныя, што яны знішчаюць агіднасць граху. Фарызэй Сымон сказаў, што Магдалена – грэшніца, але Пан, бачачы яе жаль за грахі, кажа аб яе добрым учынку і аднаўленае любові да Бога. Калі мы будзем пакорныя, Філатэя, – мы будзем ненавідзець нашыя грахі, якія зневажаюць Бога, будзем ахвотна прызнавацца ў сваіх грахах – бо праз гэта праслаўляецца Бог.

Мы адчуваем палёгку, калі раскажам доктару пра тое, што ў нас баліць. Калі ты прыходзіш да споведзі, уяўляй сабе, што ты знаходзішся на Галгофе, каля падножжа Крыжа, на якім укрыжаваны Хрыстус. Адчыні ж сваё сэрца, каб ачысціць яго ад грахоў, бо наколькі сэрца вызваляецца ад грахоў, настолькі яно будзе здольным да прыняцця Божае ласкі. Кажы ўсё проста, шчыра, каб аблегчыць сваё сумленне. Затым выслухай перасцярогі і парады духоўнага кіраўніка. Слухаючы яго, ты слухаеш самога Пана Езуса, які сказаў: "Хто слухае вас – Мяне слухае".

# Раздзел X

## ТРЭБА АЧЫСЦІЦЦА І АД ПРЫХІЛЬНАСЦІ ДА КОЖНАГА ГРАХУ

Паводле таго, як наступае раніца і становіцца святлей – мы ясней бачым у люстэрку бруд і плямы на сваім твары. Таксама, па меры таго, як унутранае святло Святога Духа пачынае асвятляць нашае сумленне, мы ясней і выразней бачым нашыя грахі, а таксама ўсе нашыя недахопы і схільнасці, якія замінаюць нам дасягнуць праўдзівае рэлігійнасці. І тое самае святло, якое дапамагае нам убачыць нашую недасканаласць, пабуджае нас да таго, каб ачышчацца і вызваляцца ад грахоў. Быць зусім чыстымі ад грахоў мы не можам, або, ва ўсякім выпадку, такое становішча не можа цягнуцца доўга, але мы можам не мець да іх ніякае прыхільнасці. Напрыклад, адна справа, калі чалавек падмануў каго-небудзь, жартуючы, у якім-кольвек глупстве, другая, калі ён звыкся падманваць і гэта прыносіць яму задавальненне.

Грэх заўсёды непрыемны Богу, якім бы малым ён ні быў. Прыхільнасць да любога граху заўсёды будзе азначаць наўмыснае процідзеенне Божай волі. Ці магчыма, каб добрая душа не толькі вырашала рабіць тое, што непрыемна Богу, але і рабіла гэта наўмысна. Гэтыя схільнасці, Філатэя, проста процілеглыя рэлігійнасці. Яны аслабляюць дух, спыняюць доступ Боскім уцехам, адчыняюць дзверы спакусам. Калі яны не забіваюць душы, дык робяць яе хвораю.

Пчала, трапіўшы ў павуціннe, не гіне, але, калі

яна надоўга заблытваецца ў сіле, яна траціць здольнасць выраблядь мёд. Так і душа можа ачысціцца ад многіх грахоў, калі ў ёй будзе жаль за грахі. Але, калі яна мае прыхільнасць да якога-кольвек, хоць бы і нязначнага граху, яна траціць здольнасць да дзейснага рэлігійнага жыцця. Невялікая хлусня, празмернасць у словах, у жартах, у адзенні, у забавах – гэта тое духоўнае павуцінне, якое заблытвае нашую свядомасць. І мы мусім імкнуцца вызваліцца з яго, як імкнуцца пчолы выпаўзці з павуціння, але, калі мы прывязваемся да гэтых сваіх недахопаў, калі мы даем ім доступ у нашае сэрца і нават спрабуем іх захаваць і памножыць, дык мы неўзабаве заўважым, як сканчаецца ў нас мёд духоўнага жыцця і вулей нашае душы аказваецца атрутным і апусцелым.

# Раздзел XI

## ТРЭБА ВЫЗВАЛІЦЦА АД СХІЛЬНАСЦІ ДА БЕСКАРЫСНЫХ І НЕБЯСПЕЧНЫХ РЭЧАЎ

Гульні, танцы, гасціны, кіно не з'яўляюцца грэшнымі самі па сабе, але яны становяцца такімі ад злоўжывання, і схільнасць да іх небяспечная для душы. Калі мы дамо вырасці ў нашым сэрцы гэтым марным схільнасцям – яно будзе мець малую здольнасць да рэлігійнага жыцця.

Старажытныя назарэі не толькі ўнікалі ап'янення, але баяліся нават пакаштаваць ап'янільныя напіткі, каб смак іх не стаў для іх прываблівым. Я не кажу, што трэба зусім адмовіцца ад карыстання гэтымі рэчамі, але трэба быць надзвычай асцярожным, бо ўсялякая схільнасць да іх

разбурае рэлігійнасць. Алень, калі з'есць вельмі шмат дзікіх ягад, хаваецца ў кусты, бо ён робіцца няздольным уцячы ад небяспекі. Сэрца чалавека, напоўненае бескарыснымі, павярхоўнымі і небяспечнымі звычкамі і схільнасцямі, не можа няўхільна і бесперашкодна імкнуцца да Бога.

Вось чаму, дарагая Філатэя, неабходна вызваліцца ад усіх схільнасцяў, якія, як бы і не супярэчаць рэлігійнасці, але ў сапраўднасці заўсёды небяспечныя і разбуральныя.

# Раздзел XII

## ТРЭБА АЧЫСЦІЦЦА АД ДРЭННЫХ СХІЛЬНАСЦЯЎ

Ёсць у нас такія схільнасці, Філатэя, якія з'яўляюцца натуральнымі для кожнага, яны не могуць лічыцца за грахі ў вузкім сэнсе гэтага слова, але яны з'яўляюцца недахопамі. Такая, напрыклад, схільнасць да смутку і шкадаванне мінулага. Адныя людзі ад прыроды легкадумныя, другія – суровыя, трэція – запальчывыя, чацвёртыя – нецярплівыя да поглядаў іншых. Вельмі мала людзей, якія б не мелі ніякіх недахопаў. Чалавек можа змагацца з імі, выпраўляць іх і нават наогул, ад іх вызваліцца, і я кажу табе, Філатэя, што гэта неабходна зрабіць. Людзі знайшлі спосаб ператвараць горкі міндаль у салодкі. Чаму ж нам не супрацьпаставіць сваім дрэнным схільнасцям супрацьлеглыя ім, добрыя? Нават вельмі добры ад прыроды характар можа быць сапсаваны дрэннымі звычкамі. І няма такога дрэннага характару, які пры спрыянні Божае ласкі і пры дастатковым намаганні не стаў бы добрым. Ёсць сродкі ачысціцца

**ад небяспечных звычак, недахопаў і схільнасці да граху. Аб іх мы пагаворым далей.**

**Дай табе Бог стараннасці неадступна працаваць у гэтым кірунку на працягу ўсяго твайго жыцця.**

# ЧасткаII

## *САКРАМАНТЫ І МАЛІТВА, ЯК АСНОЎНЫЯ СРОДКІ НАБЛІЖЭННЯ ДА БОГА*

## Раздзел I

### НЕАБХОДНАСЦЬ РАЗВАЖАННЯ І МАЛІТВЫ

**1. Рэлігійныя разважанні праясняюць нашую думку і асвячаюць яе Божым светам, а нашую волю накіроўваюць да нябеснае любові. Нішто так не ачышчае наш розум ад невуцтва, і нашую волю ад непатрэбных схільнасцяў, як яны. Гэта святая вада, над струменямі якой пачынаюць зноў зелянець парасткі нашых добрых прагненняў, душа ачышчаецца ад сваей недасканаласці, і сэрца ад сваіх неўмеркаваных жаданняў.**

**2. Асабліва раю табе разважаць аб жыцці і муках Пана Езуса Хрыста. Чым часцей ты будзеш думаць пра Яго, тым больш душа твая будзе напаўняцца Ім і ты будзеш вучыцца быць падобнай да Яго. Ён – свет зямлі, у Ім, праз Яго і дзеля Яго мы павінныя быць асвечанымі промнямі. Ён – дрэва жыцця, да якога мы імкнемся і ў засені якога знаходзім супакой. Ён – калодзеж Якуба, вада якога змывае ўсе нашыя грахі. Дзеці вучацца гаварыць, слухаючы словы сваёй маці, і стараюцца лепятаць ёй у адказ. І мы, знаходзячыся ў думках сваіх паблізу Збаўцы і ўважліва вывучаючы Яго словы, учынкі і пачуцці, вучымся, з дапамогаю Яго ласкі, гаварыць, дзейнічаць і жыць, як Ён. Павер мне, Філатэя, толькі гэтыя дзверы вядуць нас да Бога**

Айца. Таксама, як люстэрка не валодала б здольнасцю адлюстравання, калі б не было замацаванае на свінцы, гак і Боства не было б даступнае нам тут на зямлі, калі б не было злучанае з чалавечнасцю нашага Збаўцы, жыццё, мукі і смерць Якога - найбольш неабходны, блізкі і жыццёвы прадмет для нашых разважанняў. Не выпадкова Збаўца названы "Хлебам жывым, які з неба сыйшоў".Падобна таму, як мы ўжываем штодзённа хлеб, так мы павінныя ў кожнай нашай малітве і нашай справе думкай і сэрцам бачыць, шукаць і адчуць Езуса. Найлепш трэба разважаць пра гэта, устаўшы пасля сну, калі розум яшчэ свежы пасля начнога адпачынку.

3. Калі для цябе гэта мажліва - праводзь гэты час у касцёле, дзе ніхто не будзе адцягваць тваю ўвагу або турбаваць цябе. Кожную малітву пачынай з таго, што стань у глыбокай пакоры перад Богам, і гэтага правіла не забывай ніколі, бо хутка адчуеш, наколькі гэта карысна. Прачытай з увагаю "Ойча наш", "Вітай Марыя" і "Веру ў Бога Айца".

4. Малітва Пана, Анельскае прывітанне і Апастольскі Склад веры лепш за ўсё настрояць душу нават у тым выпадку, калі ты не будзеш мець часу прачытаць усе ўстаноўленыя малітвы, замяняючы іх сканцэнтраванай унутранай малітвай.

5. Кожнае слова малітвы ты павінна дасканала разумець, каб магла насычацца дзіўным і поўным слодычы значэннем гэтых святых малітваў, якія трэба прамаўляць з паглыбленнем думкі і сэрца ў іх значэнні. І не адгаворвай іх спяшаючыся, каб паспець больш сказаць, а толькі - з увагаю, каб прамаўляць сардэчней. Бо адна "Ойча наш", прамоўленая з пачуццём, мае большае значэнне, чым многа малітваў, сказаных наспех.

6. Ружанец – вельмі карысны спосаб малітвы, калі толькі прамаўляць яго належным чынам; гэтаму мы можам навучыцца з кніжак.

7. Вельмі добра казаць Літанне да Пана Езуса, да Найсвяцейшай Панны і да ўсіх Святых і ўсялякія іншыя малітвы, змешчаныя ў кнігах да набажэнства.

8. А калі падчас вуснай малітвы ты адчуеш у сэрцы жаданне да малітвы шляхам разважанняў, не супраціўляйся гэтаму жаданню, а пускай за ім спакойна твой розум і сэрца, ужо надта не трывожачыся аб заканчэнні вусных малітваў, якія сабе меркавала адгаварыць, таму што малітва шляхам разважанняў, якая заняла іх месца, будзе мілейшая Богу, а душы тваёй карыснейшая.

9. Калі па якой-небудзь сур'ёзнай прычыне не ўдалося прысвяціць ранішай час на разважанне, адкладзі яго на якую-небудзь больш познюю гадзіну або замяні гэтыя разважанні чытаннем якой-небудзь рэлігійнай кнігі і пастарайся выправіць сваю памылку на наступны дзень.

## Раздзел II

### ЯК ПАДРЫХТАВАЦЬ СЯБЕ ДА ГЭТЫХ ЗАНЯТКАЎ

Можа быць, ты не ведаеш, Філатэя, якім спосабам трэба разважаць, бо ў наш час мала хто ведае аб гэтым. Я дам табе кароткі і просты спосаб, які дапаможа табе, перш чым ты пазнаёмішся з адпаведнымі кнігамі. Я звяртаю тваю ўвагу перш за ўсё на два моманты:

1. Неабходна адчуць сябе ў Божай прысутнасці.
2. Неабходна прасіць Божае дапамогі.

Для выканання першай задачы я раю звярнуцца да наступных асноўных сродкаў:

1 - падумай аб Божай усюдыіснасці. Бог ёсць паўсюль, няма такога месца або такой рэчы ў свеце, дзе б Ён не прысутнічаў. Падобна таму, як птушка, куды б яна ні паляцела – усюды знаходзіць паветра, таксама, дзе б мы ні былі, куда б ні пайшлі – паўсюль Бог прысутнічае. Гэта ісціна вядомая ўсім, але ніхто не задумваецца пра гэта з дастатковаю ўвагаю. Сляпы можа не бачыць, што каля яго знаходзіцца які-небудзь вядомы чалавек, але ён будзе ўважлівы да сваіх паводзінаў, калі яго аб гэтым папярэдзіць. Аднак, можа здарыцца і так, што не бачачы яго, ён хутка забудзе аб гэтым папярэджанні і не будзе адносіцца з належнаю павагаю да таго, хто тут прысутнічае.

На жаль, Філатэя, мы часта не толькі не бачым і не адчуваем усюдыіснага Бога, але забываем аб тых папярэджаннях, якія дае нам наша вера. Мы забываем аб гэтым і паводзім сябе так, як бы Бог быў далёка ад нас. Мы ведаем, што Бог прысутнічае паўсюль і ва ўсім, але, забываючы аб гэтым, робім так, як бы мы гэтага зусім і не ведалі. Таму, перш чым пачаць малітву, трэба скіраваць увагу душы на Божую ўсюдыіснасць. Давід так думаў і бачыў, калі сказаў: "Ці ўзыйду я на неба –Ты, Пане, там, ці спушчуся я ў нетры зямлі – і там я знайду Цябе".

Якуб, убачыўшы свяшчэнную лесвіцу, сказаў: "О, якое ж гэтае страшнае месца! Бог тут сапраўды ёсць, а я не ведаў". Ён хацеў сказаць, што забыўся аб гэтым, хоць добра ведаў, што Бог ёсць паўсюль і ва ўсім.

Прыступаючы да малітвы, трэба сказаць сабе: "Сэрца маё! Бог сапраўды тут".

Другі сродак усведамлення Божае прысутнасці заключаецца ў тым, каб падумаць, што Бог не толькі

прысутнічае ва ўсялякім месцы, дзе б ты ні была, але, што Ён асабліва прысутнічае ў тваім сэрцы, у глыбіні тваёй душы, ажыцяўляючы і адухаўляючы яе Сваёй прысутнасцю, што Ён з'яўляецца сэрцам твайго сэрца і душою тваёй душы. Таксама, як душа напаўняе ўсю нашую сутнасць, але бліжэй за ўсё знаходзіцца да нашага сэрца, так і Бог, знаходзячыся ва ўсіх рэчах, бліжэй усяго да нашае душы. Таму Давід называе Бога – Богам свайго сэрца. І апостал Павел сказаў, што ў Богу мы жывем, рухаемся і існуем. Маючы гэта на ўвазе, ты будзеш з асаблівай увагаю адносіцца да свайго сэрца, у якім Бог прысутнічае асабліва блізка і непасрэдна.

Трэці сродак заключаецца ў тым, што трэба падумаць пра тое, што наш Збаўца ў сваёй чалавечнасці бачыць кожнага чалавека свету, а асабліва хрысціянаў, якія з'яўляюцца Яго дзецьмі, і асаблівую ўвагу звяртае на тых, хто моліцца. Гэта не простае ўяўленне, а чыстая праўда. Ён глядзіць на нас у той час, калі мы не бачым Яго.

Чацвёрты сродак заключаецца ў тым, каб уявіць сабе Збаўцу такім, якім Ён быў на зямлі, так, як мы заўжды ўяўляем сабе нашых сяброў, гаворачы пра іх: "Я ясна ўяўляю сабе, што той ці другі думае або робіць".

Калі мы знаходзімся перад святым алтаром, мы непасрэдна стаім перад Збаўцам, які закрыты ў Святых Дарах, як бы за заслонай. Усімі гэтымі сродкамі мы павінны заўжды карыстацца, каб не згубіць усведамлення Божае прысутнасці.

# Раздзел III

## ПРОСЬБА ДА БОГА АБ ДАПАМОЗЕ, ЯКАЯ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ДРУГІМ КАМПАНЕНТАМ ПАДРЫХТОЎКІ

**Гэтую просьбу рабі наступным чынам. Душа твая, пачуўшы прысутнасць Бога, няхай схіляецца з найглыбейшай пашанаю перад Яго Веліччу. Потым з даверам і надзеяй, памятаючы пра бясконцую Божую дабрыню і ведаючы, што Бог гэтага хоча, прасі Яго аб ласцы, каб гэтае разважанне пайшло на павелічэнне Божай хвалы і для больш адданае службы Яго Божай Велічы.**

**А калі хочаш, можаш да гэтага ўжыць кароткія і гарачыя словы, якімі з'яўляюцца, напрыклад, словы караля Давіда: "Не адхіляй мяне, о Божа, ад аблічча Твайго і Духа Святога Твайго не забірай ад мяне – аблічча Тваё распрамяні над слугою Тваім, навучы мяне Тваёй святасці. Дай мне разуменне, і закон Твой я спасцігаць буду і думаць над ім усім сэрцам маім. Я слуга Твой, дай жа мне духу Твайго", – і таму падобнымі словамі.**

**Добра таксама звярнуцца да Анёла Ахоўніка і Святых. І так, напрыклад, хочучы разважаць аб смерці Езуса Хрыста, мы можам звярнуцца да Найсвяцейшай Пані, Святога Яна, Святой Магдалены і Добрага разбойніка, каб атрымаць тыя самыя пачуцці і ўзрушэнні сэрца, якія яны там перажылі. У разважанні над уласнай смерцю можаш звярнуцца да Анёла Ахоўніка, які будзе ёй сведкаю, каб ён натхніў цябе адпаведнымі думкамі.**

# Раздзел IV

## АБ УЯЎЛЕННІ ПРАДМЕТА, НАД ЯКІМ БУДЗЕМ РАЗВАЖАЦЬ

**Калі ты разважаеш аб муках і смерці Збаўцы, выразней уяві сабе тыя месцы, дзе гэта адбывалася, так, як аб гэтым апавядаюць евангелісты. Малітоўна пакліч тых, хто прысутнічаў на Галгофе: Божую Маці, апостала Яна, Магдалену, сотніка Лонгіна. Яны перададуць табе тыя пачуцці, якія яны тады адчувалі.**

**Калі мы разважаем аб больш абстрактных прадметах, як напрыклад: аб Божай велічы, аб мэце жыцця чалавека, аб дасканаласці дабрадзейнасцяў – такая канкрэтызацыя немагчымая. Аднак і тут мы можам абапірацца на канкрэтныя вобразы, падобныя прыклады. Гэта неабходна для таго, каб наша думка не разбеглася ў бакі. Так мы садзім птушку ў клетку, каб лепей яе разглядзець, або прывязваем сокала, каб ён сядзеў нерухома. Некаторыя скажуць, што дастаткова толькі веры і чыста духоўнага ўяўлення аб яе таямніцах. Але для пачынаючых гэта зацяжка. Я раю табе, Філатэя, заставайся ўнізе, у даліне, пакуль сам Бог не ўзніме цябе вышэй.**

## Раздзел V

## ДРУГАЯ ЧАСТКА РАЗВАЖАННЯ

**Мэта развaжання аб духоўных прадметах - не вучонасць, не развага, але толькі ўмацаванне ў дабрадзейнасці і любові да Бога.**

**Замацаваўшы свае думкі і пачуцці і накіраваўшы іх на вызначаны прадмет, ты будзеш разглядаць яго, наколькі гэта даступна для цябе, робячы так, як пчолы, якія не пакідаюць кветку, пакуль не збяруць увесь мёд, які яны толькі змогуць у ёй знайсці. Толькі рабі гэта спакойна і не спяшаючыся.**

## Раздзел VI

## ТРЭЦЯЯ ЧАСТКА РАЗВАЖАННЯ

**Кожнае разважанне ўзбуджае нашую волю, выклікаючы ў ёй добрыя жаданні і памкненні: любоў да Бога і бліжняга, жаданне Неба і Нябеснай хвалы, боязь, каб не зняважыць Бога, нянавісць да граху, упэўненасць у Божай міласэрнасці , сорам за сваё былое жыццё ды многія іншыя.**

**Гэтыя агульныя пачуцці і памкненні неабходна звесці да вызначаных асабістых канкрэтных рашэнняў,якія закранаюць тваё жыццё, тваё выпраўленне. Напрыклад: першае слова Пана Езуса на Крыжы, несумненна, выкліча ў цябе жаданне прабачыць ворагам і любіць іх. Але і гэтага будзе недастаткова, калі ты не прыймеш адпаведнага рашэння, напрыклад: " Я не буду больш абурацца на**

злыя словы іншых людзей, сказаныя пра мяне, не буду зважаць на знявагі і пагарду да мяне іншых асобаў. Я буду старацца схіліць іх да лепшых пачуццяў", і так далей. Такім чынам, Філатэя, табе лягчэй будзе выпраўляць твае памылкі.

## Раздзел VII

### ЗАКАНЧЭННЕ І ДУХОЎНЫ БУКЕЦІК

Падзякуй Богу за ўсе свае пачуцці і рашэнні, да якіх ты прыйшла. Прасі благаславення на ўсе твае дзеянні і рашэнні і сілы на іх выкананне.

Маліся за Касцёл і яго Пастыраў, за родных і сяброў, чытай "Ойча наш" і "Вітай Марыя", – самыя неабходныя малітвы, абавязковыя для ўсіх вернікаў.

Той, хто гуляе па садзе, дзе расце мноства прыгожых кветак, заўжды хоча ўзяць з сабою хоць некалькі кветачак, каб не разлучацца з імі і ўдыхаць іх водар на працягу ўсяго дня.

Так і душа, пасля ўсіх малітоўных разважанняў, імкнецца выбраць з іх два ці тры, па свайму густу, тыя, якія найбольш блізкія ёй, каб духоўна дыхаць імі і помніць аб іх на працягу ўсяго дня. Вось што я называю сабраць маленькі букецік рэлігійнасці.

## Раздзел VIII

### НЕАБХОДНЫЯ ДАДАТКІ

Асабліва неабходна, каб ты ажыццявіла самым старанным чынам тыя рашэнні, якія былі табою прынятыя ў выніку разважання. Вось у чым плады

**разважання, без якіх яны не толькі бескарысныя, але і шкодныя.**

**Разважанні, якія не знаходзяць ажыццяўлення, толькі расслабляюць душу, нам здаецца, што мы такія і ёсць, якімі мы вырашылі быць. Але калі рашэнні не выконваюцца, яны становяцца пустымі і небяспечнымі, таму патрэбна, чаго б гэта ні каштавала, выконваць іх і шукаць лепшых ці горшых выпадкаў для іх ажыццяўлення. Напрыклад, я вырашыў лагоднасцю ўздзейнічаць на тых, хто мяне зневажае, я пачынаю ў той самы дзень шукаць выпадку сустрэцца з імі і ласкава іх прывітаць, а калі я не маю магчымасці сустрэцца з імі, дык ва ўсялякім выпадку буду добра аб іх адклікацца і маліцца за іх.**

# Раздзел IX

## НЕКАТОРЫЯ КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ, ЯКІЯ ЗАКРАНАЮЦЬ РАЗВАЖАННІ

**Калі ты скончыла малітву і разважанні, старайся не губляць увагі, захавай цішыню ў сэрцы, хоць бы на працягу некаторага часу. Уяві сабе, што ты нясеш у руках пасудзіну з каштоўнай вадкасцю. Ты будзеш ісці не спяшаючыся, не аглядваючыся па баках, каб не разліць ніводнай кроплі. Таксама, калі ты сустрэнеш каго-небудзь і павінна будзеш пагаварыць з ім, ты будзеш асабліва беражліва захоўваць у сэрцы тыя плады рэлігійнасці, якія ты сабрала. Трэба навучыцца спакойна пераходзіць ад малітвы і разважанняў да паўсядзённай працы і абавязкаў. Гэты пераход павінен адбывацца ў духу пакоры і рэлігійнасці, бо тое і другое**

з'яўляецца выкананнем Божае волі.

Калі ты адчуваеш, што ў цябе няма ніякага прыцягнення да разважанняў, што ты не можаш настроіць сябе і сэрца застаецца глухім і халодным, усведамі сваю нягоднасць, прасі дапамогі ў Бога і ў святых і не адступай, паўтараючы словы Якуба: Я не адпушчу Цябе, пакуль Ты не дасі мне Свайго благаславення, або словы жанчыны кананеянкі: I сабакі ядуць крошкі, якія падаюць са стала гаспадароў сваіх. Пачні чытаць рэлігійную кнігу, якая дапаможа ажывіць твае святыя пачуцці. Стань на калені, цалуй Крыж, калі ты знаходзішся ў адзіноце. Калі сэрца і пасля гэтага не сагрэецца - не хвалюйся і працягвай, хоць бы знешне, захоўваць паводзіны і справы рэлігійнасці.

Калі ж Бог пажадае падтрымаць нас і даць нам святое натхненне і ўнутранае суцяшэнне – гэта будзе для нас вялікай радасцю, але, калі Яму гэта не пажадана, і Ён як бы не заўважае нас – мы не павінны аддаляцца ад Яго, мы павінны застацца і захаваць спакой і цярплівасць ва ўпэўненасці, што Ён дасць нам суцяшэнне ў наступны раз. I калі гэта не збудзецца, Філатэя, задаволімся ўсведамленнем, што тое, што мы знаходзімся каля Яго, само па сабе для нас павінна быць суцяшэннем.

## Раздзел X

## РАНІШНІЯ ДУХОЎНЫЯ ПРАКТЫКАВАННІ

Раніцай падзякуй Богу за тое, што Ён захаваў цябе ў папярэднюю ноч. Прасі прабачэння, калі зграшыла ў чым-небудзь. Падумай аб тым, як лепей выкарыстаць гэты дзень для падрыхтоўкі да вечнасці.

Падумай аб тым, якія справы і абставіны чакаюць цябе на працягу гэтага дня, як выкарыстаць іх для таго, каб лепей служыць Богу. Якія спакусы з'яўляюцца найбольш верагоднымі для цябе пры гэтых абставінах, напрыклад, спакуса злосці або ганарлівасці, або іншыя парушэнні загадаў. Падрыхтуйся да таго, каб найлепшым чынам выкарыстаць усе сродкі, якія дапамогуць табе служыць Богу і ўзрастаць у рэлігійнасці. Старайся пазбягаць усяго таго, ■ таксама змагацца і перамагаць усё тое, што пярэчыць справе выратавання і Божай славе. Недастаткова прыняць рашэнне, неабходна падрыхтаваць сродкі, якія дадуць магчымасць яго выканаць. Так, напрыклад, калі мне трэба будзе на працягу дня мець справу з гняўлівым і запальчывым чалавекам, я буду старацца не толькі не дапускаць у сабе ў адказ падобнае пачуццё, але пастараюся папярэдзіць успышкі яго злосці лагоднасцю або прыйсці да яго ў суправаджэнні такіх асоб, прысутнасць якіх стрымлівае яго. Калі я хачу наведаць хворага, дык загадзя падумаю аб той карысці і супакаеннях, якія я магла бы яму прынесці, і выберу падыходзячы час для яго наведвання. Пакарыся перад Богам, усведамляючы, што без Яго дапамогі ты не ў сіле ні зрабіць дабро, ні ўстрымацца ад зла. Прасі Бога, каб Ён навучыў цябе і дапамог служыць Яму. Закліч Божую Маці, свайго Анёла і святых. Усё гэта трэба зрабіць жвава і хутка, перш чым ты выйдзеш з пакою, тады ўсе справы твайго дня будуць агорнутыя Божым блаславеннем. Ніколі не забывай зрабіць гэта, Філатэя, прашу цябе.

# Раздзел XI

## ВЯЧЭРНІЯ ДУХОЎНЫЯ ПРАКТЫКАВАННІ І РАХУНАК СУМЛЕННЯ

**Выберы вольную хвіліну ўвечары, каб падзякаваць Богу за прамінулы дзень, каб падзякаваць за тое, што Ён захаваў цябе. Успомні свае справы, заняткі і сустрэчы на працягу дня. Калі табе ўдалося зрабіць што-небудзь добрае, падзякуй Богу. Калі наадварот, ты зрабіла блага́ словам, справаю або думкаю – прасі прабачэння ў Бога і прыймі рашэнне паспавядацца ў сваіх грахах пры першай магчымасці. Даручы Божай волі сябе, сваё цела і душу, сваіх родных і сяброў, Касцёл. Прасі Божую Маці, Святых і Анёла-Ахоўніка маліцца за нас і з Божым бласлаўленнем ідзі адпачываць.**

**Ніколі не забывай рабіць гэта ні раніцай, ні ўвечары, так як ранішнім маленнем ты адчыняеш вокны тваёй душы Сонцу Праўды, а вячэрнім ты закрываеш іх для цемры пекла.**

# Раздзел XII

## АБ ДУХОЎНЫМ СКАНЦЭНТРАВАННІ

**У гэтай главе мы пагаворым аб адным з самых надзейных сродкаў духоўнага развіцця. На працягу дня старайся як мага часцей думаць пра тое, што ты стаіш перад Богам, што Бог заўсёды бачыць цябе , што Ён сочыць за табой з бясконцай любоўю. Маліся,**

напрыклад, такім чынам: "Чаму я не заўсёды звяртаю свой погляд на Цябе, тады як Ты заўсёды глядзіш на мяне? Чаму я так мала думаю пра Цябе? Дзе ж мы знаходзімся з табою, душа мая, калі мы аддаляемся ад Бога?" Птушкі маюць гнёзды, куды яны могуць схавацца, алень хаваецца ў засені дрэў. І наша сэрца, о Філатэя, павіннае кожны дзень шукаць сабе спакой; пашукаем гэтае месца! Можа быць гэта будзе Галгофа, можа гэта будуць раны нашага Збаўцы або другое месца, якое звязана з Яго жыццём. Там мы знойдзем суцяшэнне ад усіх знешніх спраў, там будзе нашая трываласць, якая захавае нас ад спакусаў. Блаславёная тая душа, якая з гарачаю шчырасцю скажа Пану: "Ты мой прытулак, Ты мая абарона, Ты мая надзея ад віхуры і ахалода ад горычы". Помні, Філатэя, неабходна як можна часцей хавацца ў адасабленні свайго сэрца, у той самы час, калі фізічна ты знаходзішся сярод размоваў і спраў.

Гэтае духоўнае адасабленне не можа быць парушанае мноствам акаляючых нас людзей, таму што яны акружаюць толькі нашае цела, але не нашае сэрца, і сэрца павінна заставацца ў адзіноце перад аблiччам Адзінага Бога. Так рабіў кароль Давід сярод мноства спраў і абавязкаў, і пра гэта ён гаворыць у сваіх псальмах: Пане, заўжды я з Табою. Заўжды я бачу перад сабою майго Бога і ўзнімаю погляд мой да Цябе, нябесны Божа. Погляд мой заўжды звернуты да Бога. І на самай справе, не часта наша размова настолькі сур'езная, каб нельга было сэрцам адыйсці ў адасабленне з Богам. Бацька і маці Святой Кацярыны Сіенскай рабілі так, каб у яе не было месца і часу для малітвы і разважанняў. Пан Езус дапамог ёй стварыць маленькі храм у сваёй душы, у якім яна сярод мноства штодзённых спраў знаходзіла святое адасабленне

сэрца. Калі людзі непакоілі яе, яна не адчувала ніякога неспакою, яна хавалася ў сваім унутраным сховішчы, дзе знаходзіла суцяшэнне ў духоўных стасунках з нябесным сваім Жаніхом. Сваім духоўным дзецям яна раіла стварыць такое ж сховішча ў сваім сэрцы і заставацца ў ім.

Такім чынам, няхай розум твой часам увойдзе ў сярэдзіну твайго сэрца, і, аддаліўшыся ад людзей, душа будзе ў больш цеснай сувязі з Богам, як гаварыў Давід: Я стаў падобны на пелікана ў пушчы і на саву ў пустэчы, і на вераб'я пад дахам. Словы гэтыя даслоўна азначаюць, што вялікі кароль праводзіў немалы час у адзіноце, разважаючы з Богам. У рэлігійным жыцці маем тры дасканалыя сховішчы, як тры пустэчы, дзе можам быць у адзіноце з Хрыстом:

Першае – на гары Галгофе, дзе Хрыстус быў як пелікан у пушчы, ажыўляючы Крывёю сваёю Сваіх памерлых дзяцей. Другое – у Бэтлеемскай стаенцы, дзе ў нараджэнні сваім Хрыстус быў як воран на пустэчы, які плакаў над нашымі грахамі. Трэцяе – на Гары ўзыходжання ў неба Хрыста Пана, дзе Ён быў, як верабей, пырхаючы ў небе, якое для зямлі з'яўляецца як бы страхою. Гэта тры месцы, дзе мы можам адасобіцца сярод тлуму і цяжкасцяў. Калі адзін рэлігійны чалавек доўга не быў дома, верная яму жонка паслала пасыльнага запытацца аб здароўі мужа. Муж адказаў: "Я здаровы, любімая жонка, а калі хочаш мяне ўбачыць, дык шукай мяне ў ранах Найсаладзейшага Сэрца нашага Езуса, бо там ёсць жыллё маё і там мяне знойдзеш. Інакш дарма мяне шукала б". Гэты чалавек быў сапраўдны хрысціянін.

# Раздзел XIII

## УЗДЫХАННІ І ЎЗНЁСЛЫЯ АКТЫ ДА БОГА І ДОБРЫЯ ДУМКІ

**Адасабляецца ў Богу той, хто імкнецца да Яго. Імкненне да Бога і духоўнае адасабленне садзейнічаюць адно другому.**

**Звяртайся да Бога як мага часцей, Філатэя, кліч Яго на дапамогу, у думках падай да падножжа Крыжа; няхай твой унутраны погляд будзе звернуты да Яго любові і міласэрнасці. Няхай любоў Бога будзе для цябе сцягам, які ты ўзняла ў сваім сэрцы, няхай яна будзе для цябе падобная на кветнік прыгожых кветак, водар якіх ты ўдыхаеш поўнымі грудзьмі. Павер, Філатэя, што ўсе гэтыя пачуцці не будуць замінаць табе ў тваіх справах і занятках, насупраць, яны будуць дадаваць табе сілы і бадзёрасці ва ўсім, і ты будзеш падобная на спадарожніка, які спыніўся на хвіліну, каб яшчэ смялей і больш упэўнена працягваць шлях. Якімі словамі ты будзеш выяўляць тыя пачуцці, што цябе ахопліваюць, не мае вялікага значэння. Словы, якія асабліва могуць задаволіць сэрца, мы знаходзім у псальмах Давіда, у "Песні Песняў" і ў многіх духоўных спевах.**

**Чалавеку ўласціва, калі ён што-небудзь асабліва любіць, ён у сваіх думках і словах заўсёды звяртаецца да прадмета сваей любові. Тыя, хто любяць Бога, ніколі не пакідаюць думаць пра Яго, імкнуцца да Яго, тужаць аб Ім і, наколькі гэта магчыма, захоўваюць у сваім сэрцы святое імя Езуса. Увесь свет, усё створанае гаворыць ім толькі пра Божую славу. Няма ніводнага стварэння, якое б не нагадвала ім аб славе Творцы. Як**

гаворыць святы Аўгустын: "Ва ўсім свеце няма нічога, што б не гаварыла ім нямым, але зразумелым сэрцу языком аб Божай велічы. Усе рэчы выклікаюць у іх добрыя думкі, якія ўмацоўваюць у іх імкненне да Бога".

Вось некалькі прыкладаў. Святы Рыгор, біскуп, расказвае пра сябе наступнае. Аднойчы ён прагульваўся па беразе мора і назіраў, як марскія хвалі, набягаючы на бераг, пакідалі там ракавіны, сцяблінкі траў, маленькіх рыбак, адкіды, якія мора як бы выкідвала на сушу. Наступныя хвалі, набягаючы на бераг, як бы злізвалі ўсё гэтае і неслі назад у мора. У той жа час навакольныя скалы стаялі спакойна і непахісна, колькі б ні біліся аб іх марскія хвалі. Назіраючы за ўсім гэтым, святы Рыгор разважаў так: "Слабыя людзі падобныя да ракушак і сцяблінак траў: іх унутраны стан цалкам залежыць ад прыліваў і адліваў, гэта значыць, ад засмучэнняў або радасцяў, якія ім сустракаюцца ў жыцці, яны залежаць ад змены ветру, хваляў і лёсу. Моцныя і смелыя застаюцца непахіснымі, нягледзячы на буры, якія б ім ні сустракаліся ў жыцці, яны не ўсхвалююцца і " ад шуму водаў многіх ". Псальміст Давід гаворыць: "Пане, выратуй мяне. Воды марскія падняліся і набліжаюцца да маёй шыі. Пане, выбаў мяне ад глыбокіх водаў, я апушчаны ў глыб мора і гіну ў бездані".

Святы Ансэльм зрабіў наступныя назіранні: Некалі заяц, ратуючыся ад наганяючых яго сабак, падбег да яго і схаваўся каля ног яго каня, шукаючы выратавання ад смяротнай небяспекі, сабакі не асмеліліся накінуцца на зайца, бачачы яго пад такой аховаю. Усе, хто стаяў вакол, засмяяліся ад здзіўлення. Але Ансэльм сказаў: "Вы смеяцеся, але беднаму звярку не да смеху. Ворагі нашага збаўлення ўсё жыццё пераследуюць нашую душу, на ўсіх перакрыжаваннях

спакушаюць яе рознымі відамі граху і чакаюць таго моманту, калі загоняць яе ў вузкую цясніну смерці, каб паглынуць яе. У страху шукае яна дапамогі і абароны, а ворагі, бачачы яе ў такім становішчы, толькі смяюцца і кпяць над ёю".

Многія дзівіліся, што Канстанцін Вялікі перапісваўся са Святым Антоніем, які быў простым законнікам. "Не здзіўляйцеся, сказаў Святы, што чалавек піша лісты чалавеку. Дзівіцеся, што Спрадвечны Бог даў смертным людзям пісаны закон і гаварыў з імі твар у твар у Асобе свайго Сына".

Святы Францішак, убачыўшы адзінокую авечку ў статку казлоў, сказаў свайму спадарожніку: "Паглядзі на гэтую пакорлівую авечку сярод казлоў. Такім жа пакорлівым і ціхім быў наш Пан Езус сярод фарысеяў". Францішак Борджыя, адпраўляючыся на паляванне, назіраў, як сокал спакойна сядае на руку паляўнічага і даецца завязаць вочы, у той час, як людзі аказваюцца непаслухмянымі ў адносінах да Божых загадаў. Святы Васіль Вялікі гаварыў, што ружа, якая расце сярод калючак, павінна прыпамінаць людзям пра наступнае: "Самае прыемнае ў гэтым свеце, о смяротныя, змешанае з сумам. За весялосцю ўслед ідзе жаль, за вяселлем - удаўство, за славаю - ганьба, за ўцехаю - расчараванне, за здароўем - хваробы. Прыгожая кветка ружа, але яна нагадвае мне аб маіх грахах, у выніку якіх зямля і маё жыццё асуджаныя на церні". Адна рэлігійная душа ўбачыла, як на роўнай паверхні вады адбівалася зорнае неба ў ціхую ноч. "О, Божа, – усклікнула яна, – усе гэтыя прыгожыя зоркі апынуцца ў мяне пад нагамі, калі я прыйду ў Твае святыя палацы". І так, як нябесныя зоркі адлюстроўваюцца ў вадаёмах, так і душы людзей на небе адлюстроўваюцца ў чыстых крыніцах Божае

любові. I другі рэлігійны чалавек, глянуўшы на хуткаплынную раку, сказаў: "Так і душа не знойдзе сабе спакою, пакуль не зліецца з морам Божае любові".

Святая Францішка, укленчыўшы для малітвы ў лесе каля ручая, сказала: "Чыстыя і ціхія струменьчыкі гэтага ручая прыпамінаюць аб струменях Божае ласкі". Адзін святы, убачыўшы квітнеючае дрэва, сказаў: "Чаму ў прыгожым садзе Касцёла толькі на маім дрэве няма кветак?" Другі, убачыўшы, як птушка сабрала пад крылы сваіх птушанятаў, уздыхнуў: "Пане, захавай мяне пад крыламі Тваімі." Трэці, глянуўшы на кветкі, якія павярнуліся насустрач сонцу, усклікнуў: "Пане, калі ж я павярну душу маю да Цябе?" Убачыўшы анюціны вочкі, якія вельмі прыгожыя, але пазбаўленыя паху, ён сказаў: "Так і ў мяне: многа прыгожых слоў, але справы мае не маюць у сабе рэлігійнага водару".

Вось як можна, Філатэя, з уражанняў акаляючага свету здабыць карысныя для душы думкі. Няшчасныя тыя, хто ў сваёй свядомасці разлучае тварэнні ад іх Творцы і злучае іх з грахом. Шчаслівыя тыя, каму ўвесь створаны свет абвяшчае Божую славу. Святы Рыгор гаворыць: "Я прывык з усяго здабываць духоўную карысць". Гэтае рэлігійнае адасабленне і кароткія роздумы аб наваколлі з'яўляюцца вялікімі справамі рэлігійнасці. Яны могуць замяніць некаторыя іншыя віды рэлігійных спраў, але, калі яны адсутнічаюць, дык няма такіх сродкаў, якія б маглі іх замяніць. Без іх духоўнае жыццё становіцца немагчымым, а дзейснае - вельмі недасканалым. Без іх адпачынак стане бяздзейнасцю, а праца – марнасцю. Вось чаму я прашу цябе палюбіць іх усім сэрцам і ніколі з імі не разлучацца.

# Раздзел XIV

## АБ СВЯТОЙ ІМШЫ І АБ ТЫМ, ЯК ТРЭБА ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ЁЙ

**Гаворачы аб справах рэлігійнасці, я яшчэ не закранаў самага галоўнага, самага святога, таго, што складае святое святых хрысціянскага Касцёла – аб Святой Імшы. Святая Імша – сэрца хрысціянскае веры, душа рэлігійнасці, нявыказаная таямніца, якая ахоплівае таямніцу Божае любові, праз якую Бог рэальна сутыкаецца з намі, перадаючы нам дары Сваёй міласці і ласкі. Малітва ў спалучэнні з гэтаю Ахвярай мае непараўнальную сілу. Дзякуючы гэтай Ахвяры, душа напаўняецца нябеснымі дарамі і незвычайнымі духоўнымі водарамі. Прыкладзі ўсе намаганні да таго, каб як мага часцей прысутнічаць на Імшы, дзе Касцёл складае бяскроўную ахвяру за цябе і за ўсіх. У ёй удзельнічаюць мноства анёлаў. Касцёл ваюючы злучаецца з Касцёлам трыумфуючым. Калі ты не маеш магчымасці быць у касцёле на Імшы, старайся прысутнічаць там духоўна. Старайся ўнутрана перажыць тое, што ты перажываеш, знаходзячыся ў касцёле і з'яднайся, такім чынам, з усімі хрысціянамі. З пакораю і глыбокай пашанаю прымі блаславенне, якое Пан Бог дае праз Сваіх служыцеляў.**

# Раздзел XV

## ІНШЫЯ КАСЦЁЛЬНЫЯ НАБАЖЭНСТВЫ І РЭЛІГІЙНЫЯ АБ'ЯДНАННІ

**Акрамя таго, калі ёсць магчымасць, трэба прысутнічаць на іншых касцёльных набажэнствах. У касцёльных набажэнствах змяшчаецца вялікая карысць і суцяшэнне. Там, дзе гэта магчыма, уступі ў рэлігійнае таварыства, якое хоць і не абавязковае, але рэкамендуецца для духоўнага выхавання. Заўсёды карысна аб'яднацца з другімі для выканання добрых намераў. Бог праслаўляецца пры аб'яднанні бліжніх. Мы павінны быць карысныя адзін другому добрым прыкладам, аб'ядноўваючы свае пачуцці і намеры для Божае славы, і садзейнічаць адзін другому на шляху ўдасканалення.**

# Раздзел XVI

## АБ НАБАЖЭНСТВЕ ДА СВЯТЫХ

**Нашая сувязь з Богам можа быць не толькі непасрэднай. Бог часта звяртаецца да людзей праз анёлаў і святых, для нас яны таксама пасрэднікі, якія заступаюцца за нас перад Богам, і мы павінныя прасіць іх аб гэтым. Далучым, мая Філатэя, нашыя сэрцы да гэтых нябесных духаў і душаў блаславёных. Як птушаняты салаўя вучацца спяваць ад дарослых салаўёў, так і мы лепш навучымся маліцца і славіць Бога з дапамогаю бесцялесных духаў і святых душаў. Асабліва маліся да Найсвяцейшай і Праслаўленай Божай Маці. Будзем звяртацца да яе ў кожнай справе, як**

малыя дзеці да сваёй маці, выклікаць Яе мацярынскую любоў, старацца пераймаць яе дабрадзейнасці. Будзь блізкай да анёлаў, каб адчуць іх нябесную прысутнасць у розныя моманты свайго жыцця, звяртайся да свайго анёла-ахоўніка і да анёлаў-ахоўнікаў тваіх блізкіх, шукай іх дапамогі ў справах не толькі рэлігійных, але і свецкіх, каб яны былі ўдзельнікамі ў тваіх намерах. Выберы сабе святых, якія табе асабліва блізкія, якім бы ты хацела наследаваць, да якіх ты звяртаешся з асаблівым даверам. З тым святым, імя якога ты носіш, ты асабліва блізка звязаная з дня твайго хрышчэння.

# Раздзел XVII

## ЯК ЧЫТАЦЬ І СЛУХАЦЬ СВЯТОЕ ПІСАННЕ

Будзь верная Божаму слову. Заўсёды стаўся да яго з глыбокай пашанаю – ці чуеш ты яго пад час набажэнства ў касцёле, пад час казання, пры хатнім чытанні з тваімі роднымі і духоўнымі сябрамі, або калі чытаеш сама сабе. Усё пачутае або прачытанае табой "захоўвай у сэрцы сваім", так як гэта рабіла Божая Маці. Помні, што Пан Бог прыймае словы нашых малітваў суадносна таму, як мы прыймаем словы Святога Пісання.

Чытай рэлігійныя кнігі так, як бы той ці іншы святы пісаў іх асабіста табе, каб паказаць табе дарогу жыцця і натхніць цябе на гэтую дарогу. Чытай Жыцці Святых, у якіх, як у люстэрку, адлюстравана хрысціянскае жыццё і падумай аб тым, як спалучаць іх прыклад з абставінамі твайго жыцця.

Хоць людзі, якія жывуць у свеце, не могуць у

дакладнасці наследаваць справы святых, але наследаваць іх да вядомай ступені можа кожны. Адасабленне пустэльнікаў можна наследаваць праз духоўнае адасабленне, аб якім мы гаварылі і будзем шмат гаварыць, убоства – пэўнай мерай адмаўлення ад жыццёвых выгодаў. Ёсць святыя, жыццё якіх дае асабліва блізкі прыклад для нашага жыцця і паводзінаў. Ёсць і такія, якімі мы больш захапляемся, чым можам імкнуцца да іхняга наследавання. Аднак і яны абуджаюць у нас імкненне і любоў да Бога.

## Раздзел XVIII

### ЯК ТРЭБА ПРЫЙМАЦЬ НАТХНЕННІ

Пад духоўнымі натхненнямі мы разумеем усе ўнутраныя ўзрушэнні душы, мукі сумлення, асвячэнні, пазнанні, якія Бог пасылае нам для таго, каб нас накіраваць, прыцягнуць, абудзіць да Святых дабрадзейнасцяў, да нябеснае любові, да добрых рашэнняў, карацей, да ўсяго таго, што прыводзіць нас да вечнага шчасця. А гэта Пан Езус, Нябесны Жаніх душы, стукае ў дзверы да нявесты. Ён хоча разбудзіць яе, калі яна спіць, паклікаць яе, калі яна адсутнічае, запрасіць яе ў свой цудоўны сад слухаць ласкавыя песні. Душа павінна пачуць Божы заклік і адказаць на яго.

Ёсць тры ступені дабрадзейнасці, як і тры ступені граху, па якіх можна спусціцца: спакушэнне, упадабненне і згода. Ступені дабрадзейнасці, па якіх можна падняцца: натхненне, супрацьлеглае спакушэнню, упадабненне ў дабрадзейнасці, супрацьлеглае ўпадабненню ў граху, і згода з натхненнем, супрацьлеглая згодзе са спакусай. Калі

натхненне працягваецца ўсё жыццё, але мы яго не прыймаем, мы толькі абражаем Бога, так як габрэі, якіх Бог заклікаў на працягу сарака гадоў, не знаходзячы ў іх водгуку. Яны не слухалі Боскага звароту і Бог сказаў ім: "Вы не ўвойдзеце ў мой супакой".

Калі чалавек палюбіць Божыя натхненні – гэта ўжо крок па шляху да згоды, і гэта прыемна Богу, таму што гэта ўжо схіляе чалавека да згоды. Аднак, толькі згода з'яўляецца актам дабрадзейнасці. Таму што, калі мы палюбілі гэтыя натхненні, але не згодзімся з імі, – гэта будзе абраза, якая мяжуе з няўдзячнасцю і пагардаю. Так было з жаніхом, які, нарэшце, пачуў голас сваёй любай, але яна не адчыніла яму дзверы. Зняважаны, Ён пакінуў яе назаўсёды. Вырашы, Філатэя, прыймаць усім сэрцам тыя натхненні, якія Богу пажадана табе паслаць. Прыймі іх, як пасланнікаў Нябеснага Караля, які хоча заключыць з табой саюз. Згаджайся з імі, але няхай твая згода будзе поўная, моцная і пастаянная. Але перш чым згадзіцца, парайся са сваім духоўным кіраўніком. Натхненні бываюць праўдзівыя і падманныя, якія часта падсоўвае вораг (злы дух), каб падмануць даверлівую душу, чаго ніколі не зробіцца, калі ты будзеш з пакораю звяртацца да духоўнага кіраўніка.

Пасля таго, як ёсць згода, трэба выканаць тое, што вынікае з яе. Мець згоду ў сэрцы і не імкнуцца выканаць абацянае ў сваім жыцці – усё роўна, што пасадзіць вінаграднік, не імкнучыся да таго, каб ён прынёс плады. Табе дапамогуць і тут тыя ранішнія духоўныя практыкаванні і духоўнае адасабленне, аб якім я ўжо гаварыў. Такім чынам, мы падрыхтоўваемся не толькі ўвогуле, але і канкрэтна да таго, каб зрабіць што-небудзь канкрэтна добрае.

# Раздзел XIX

## АБ СВЯТОЙ СПОВЕДЗІ

**Збаўца даў Свайму Касцёлу Сакрамант Пакаяння, які ачышчае нас ад усіх нашых грахоў. Ніколі не дазваляй, Філатэя, каб тваё сэрца захоўвала ў сабе заразу граху, бо ў нас ёсць супраць яе гатовы і даступны сродак. Душа павінная, як мага хутчэй, ачысціцца ад здзейсненага граху, каб зноў стаць чыстай у Божых вачах. Чаму ж так здараецца, што мы паміраем духоўнай смерцю, маючы такія дзейсныя лекі? Кожны тыдзень старанна і пакорна спавядайся, таму што споведзь дае нам не толькі адпушчэнне грахоў, але і сілу для таго, каб пазбягаць іх у будучым, і Боскую ласку для таго, каб знішчыць іх вынікі. Такім чынам, споведзь адначасова заключае ў сабе дабрадзейнасці: пакоры, паслушэнства, прастаты і любові. Няхай табе заўсёды будуць непрыемнымі твае грахі, якімі малымі яны б ні былі, май моцную рашучасць не дапускаць іх у будучым. Спавядайся, пазбягаючы агульных формулаў, як гэта робяць многія, гаворачы: "Я не любіла Бога як трэба, не любіла сваіх бліжніх як трэба было любіць, не малілася з пабожнасцю" і гэтак далей. Гаворачы так, ты не гаворыш нічога, што раскрывала бы стан твайго сумлення, тваёй душы, таму што ўсе людзі на зямлі маглі бы сказаць тое самае. Паглядзі, у чым ты саграшыла, у чым абвінавачвае цябе тваё сумленне і раскажы аб гэтым зусім проста. Напрыклад: "Я ведаю аднаго беднага чалавека, якому я магла б дапамагчы і якога магла б суцешыць, але я не зрабіла гэтага з-за непрыхільнасці да яго або па чэрствасці сэрца, або па нядбайнасці". Калі для цябе**

вядомая прычына твайго ўчынку, дык не гавары агульна: "Я недастаткова любіла бліжніх". Не абвінавачвай сябе ў тым, што ты недастаткова адданая Богу, але раскажы канкрэтна аб тых забавах, якія цябе найбольш займалі, аб тым, што ты не знаходзіла месца, часу, або настрою для малітвы, словам, скажы аб тым, што табе замінала, але не звяртайся да абагульненняў, ад якіх споведзь ні цёплая і ні халодная. Не абмяжоўвайся паведамленнем аб грахах, але раскажы аб тых матывах, якія кіравалі табой пры здзяйсненні таго ці іншага ўчынку. Напрыклад, недастаткова сказаць, што ты падманула тую ці другую асобу, але скажы, ці зрабіла ты гэта з-за славалюбства, ці для самаапраўдання, ці для задавальнення, ці з-за ўпартасці. Раскажы, ці даўно ты маеш схільнасць да такога граху – гэта мае вельмі вялікае значэнне.

Такім чынам, патрэбна гаварыць аб фактах, матывах і працягласці нашых грахоў. Трэба, каб духоўны доктар добра ведаў тую хваробу, ад якой ты хочаш вылечыцца. Раскажы ўсё тое, што неабходна, каб зразумець якасць твайго ўчынку. Напрыклад, што было прычынаю тваёй злосці або чаму ты падтрымала каго-небудзь у яго дрэнных схільнасцях. Так, напрыклад, можа быць я раззлавалася на чалавека не за яго справы або словы, якія я лёгка даравала б другому, але таму, што ён сам мне непрыемны. І калі ты можаш даць яшчэ больш дакладныя тлумачэнні – гэта будзе карысна, таму што, такім чынам, мы адшукваем у сабе не толькі дрэнныя ўчынкі, але і дрэнныя звычкі, схільнасці, якія і з'яўляюцца карэннем граху. Аднак, трэба не адкрываць, наколькі магчыма, тых, хто быў тваім саўдзельнікам.

Беражыся вялікай колькасці грахоў, якія часта неадчувальна пранікаюць у нашае сэрца, старайся ад

іх пазбавіцца.

Старайся выбраць сабе духоўнага кіраўніка, не мяняй яго, час ад часу расказвай яму аб сваім настроі, схільнасцях. Напрыклад, табой авалодала туга або смутак, або прага забаваў і свецкіх уцехаў, або неспакой у сувязі з нейкай матэрыяльнай ці гаспадарчай справай.

## Раздзел XX

### АБ ЧАСТАЙ СВЯТОЙ КАМУНІІ

Збаўца даў нам Найсвяцейшы Сакрамант Эўхарыстыі, які рэальна заключае ў сабе Яго Цела і Кроў, каб той, хто спажывае Яго Цела і п'е Яго Кроў, меў вечнае жыццё. Таму той, хто часта і з глыбокай пашанай прыступае да гэтага Сакраманту, умацоўвае жыццё і здароўе сваёй душы і становіцца амаль недаступным для дрэнных пачуццяў. І калі людзі ў раі не ведалі цялеснай смерці, спажываючы плады дрэва жыцця, дык святы Сакрамант Эўхарыстыі такім самым чынам захоўвае ад духоўнае смерці.

## Раздзел XXI

### ЯК ПРЫСТУПАЦЬ ДА САКРАМАНТУ СВЯТОЙ КАМУНІІ

Падрыхтавацца да прыняцца Святой Камуніі трэба заўчасна. Напярэдадні кладзіся раней спаць, каб устаць як мага раней. Калі прачнешся ноччу, паўтарай якія-небудзь любімыя словы малітваў або песняў, якія настрояць тваю душу нават пад час сну. Раніцай

прачынайся з вялікай радасцю, думаючы аб тым, што цябе чакае. Пасля споведзі падыходзь да Божага Стала і сказаўшы: "Пане, я не варты, каб Ты прыйшоў да мяне...", не рухай больш ні галавой, ні вуснамі. Прыймі Святую Камунію з вераю, надзеяй і любоўю. Так як пчала раніцай збірае з кветак кроплі нябеснае расы і лепшыя водары зямлі, пераўтварае іх у мёд і прыносіць да сябе ў вулей, так і святар бярэ з алтара Цела і Кроў Божага Сына, які зыйшоў на зямлю, як раса на руно, Сына Дзевы, які, як кветка, вырас з зямлі чалавецтва. Прыймі Яго як мага лепш і аддай хвалу Каралю нашага збаўлення. Прыймі з любоўю тое, што дарує Божая любоў. Старайся ўзрастаць і ўмацоўвацца ў Божае любові. Калі свецкія людзі спытаюць цябе, чаму ты так часта прыймаеш Камунію, адкажы ім: "Для таго, каб ачысціцца ад грахоў, для таго, каб атрымаць апору ў сваёй слабасці, для таго, каб знайсці заспакаенне ў сваіх засмучэннях, для таго, каб навучыцца любіць Бога". Скажы ім, што часта прыймаць Камунію і быць у споведзі трэба двум катэгорыям людзей: дасканалым, бо ім трэба быць як мага бліжэй да крыніцы дасканаласці, і недасканалым, для таго, каб яны маглі ўдасканальвацца; моцным, для таго, каб не слабець, а слабым, для таго, каб стаць моцнымі, здаровым - каб не хварэць, хворым - каб атрымаць здароўе. Скажы, што ты недасканалая, слабая і хворая, а тут - крыніца дасканаласці, здароўя і сілы. Скажы, што часта прыступаць да Камуніі павінны і людзі, мала занятыя справамі, таму што яны маюць для гэтага магчымасць і тыя, хто вельмі занятыя справамі, таму што яны маюць у гэтым неабходнасць. Той, хто многа і цяжка працуе, павінен атрымаць больш ежы. Скажы, што ты часта прыймаеш Камунію для таго, каб навучыцца гэта рабіць. Чалавек дрэнна ўмее

рабіць тое, што ён робіць рэдка. Зайцы становяцца белымі зімой, калі яны акружаныя з усіх бакоў белым покрывам снегу; і ты, чым бліжэй будзеш да Таго, Хто заключае ў Сабе чысціню, прыгажосць і дабро, тым прыгажэй, дабрэй і чысцей будзеш рабіцца.

# ЧАСТКА III

## *ДУМКІ АБ ПРАКТЫКАВАННІ Ў ДАБРАДЗЕЙНАСЦЯХ*

## Раздзел I

### ВІДЫ ДАБРАДЗЕЙНАСЦЯЎ

**Каралева пчолаў вылятае ў поле не інакш, як абкружаная ўсім сваім маленькім народам. Таксама хрысціянская любоў ніколі не заходзіць у сэрца чалавека без суправаджэння цэлай світы дабрадзейнасцяў, якія яна пускае ў справу па меры неабходнасці, як палкаводзец сваё войска. Яна ніколі не высылае іх усе адразу, а паступова, у любы час і ў любым месцы. Праведнік, як дрэва, пасаджанае ля патокаў водаў, якое прыносіць плод свой у час свой, гаворыць псальміст, таму што любоў арашае душы людзей і ў іх у належны час расцвітаюць справы дабрадзейнасцяў. Прыемная музыка можа стаць нязноснаю ў дні жалобы, – гаворыцца ў Кнізе Прыпавесцяў. Памыляюцца тыя, якія пачаўшы практыкавацца ў якой-небудзь дабрадзейнасці, стараюцца прымяняць яе паўсюль, ва ўсіх справах і пад час усіх сустрэчаў. Яны прыпамінаюць тых мудрацоў старажытнасці, якія або заўсёды плакалі, або заўсёды смяяліся. Такія людзі робяць яшчэ горш, калі асуджаюць і крытыкуюць іншых. Трэба плакаць з тымі, хто плача, і радавацца з тымі, хто радуецца, – гаворыць апостал Павел, і любоў доўга церпіць, яна міласэрная, усё пакрывае, на ўсё спадзяецца, усяму**

верыць, усё пераносіць.

Аднак, ёсць такія дабрадзейнасці, якія маюць усеагульнае прымяненне, якія дзейнічаюць не толькі самі па сабе, але і ўплываюць на ўсе другія справы і дабрадзейнасці. Такія якасці, як высакароднасць і велікадушнасць мы ўжываем не часта. Тады як лагоднасць, цярпенне, сумленнасць і пакора – гэта такія якасці, якімі павінны быць афарбаваныя ўсе справы нашага жыцця.

Ёсць дабрадзейнасці, якія здаюцца больш прывабнымі, але выкарыстанне іх менш неабходнае. Цукар – прыемней солі, аднак соль важней і ўжываецца намнога часцей. Таму трэба звяртаць асаблівую ўвагу на тыя дабрадзейнасці, якія нам заўсёды неабходныя. Мы павінны клапаціцца аб тым, што з'яўляецца нашым абавязкам, а не аб тым, што нам падабаецца. Адна дзяўчына залішне захапілася аскетызмам, бо гэта прыносіла ёй задавальненне. Аднак яна рабіла няправільна, таму што павінна была перш за ўсё кіравацца парадамі свайго духоўнага кіраўніка. Блажэнны Геранім прызнаў яе паводзіны вартымі вымовы, таму што яна захапілася празмернымі подзвігамі, насуперак парадам духоўнага кіраўніка.

Апосталы былі прызваныя прапаведаваць Евангелле, а не аказваць дапамогу бедным, хоць гэта і магло ім быць прыемнейшым. Пры розных становішчах у грамадстве асаблівае значэнне могуць мець розныя дабрадзейнасці. Адныя патрэбныя біскупу, другія каралю, трэція жаўнеру. Адныя маюць асаблівае значэнне для ўдавы, другія для замужняй жанчыны. І хоць усе павінныя мець усе дабрадзейнасці, але не ў аднолькавай ступені павінныя імі карыстацца, а кожны, улічваючы той спосаб

жыцця, да якога ён закліканы. Сярод тых дабрадзейнасцяў, якія адносяцца непасрэдна да нашых абавязкаў, мы павінныя аддаваць перавагу больш дасканалым, а не тым, якія найбольш кідаюцца ў вочы. Каметы звычайна здаюцца нам большымі, чым зоркі. У нашым зрокавым полі яны займаюць значна большае месца, аднак, на самой справе, іх нельга нават параўнаць з зоркамі. Яны нам здаюцца большымі толькі таму, што яны знаходзяцца бліжэй і больш кідаюцца ў вочы. Таксама і некаторыя дабрадзейнасці, якія як бы бліжэй да нас, адчувальней, матэрыяльней, таму ім звычайна аддаюць перавагу, яны карыстаюцца большай пашанай. Так, напрыклад, матэрыяльную дапамогу цэняць больш, чым духоўную. Пост, нашэнне валасяніцы і другія практыкаванні, калі чалавек перамагае сваё цела, ставяць вышэй, чым пакорлівасць, якая на самой справе больш каштоўная. Таму, Філатэя, выбірай сапраўды каштоўныя дабрадзейнасці, а не тыя, якія выклікаюць найбольшую павагу, больш дасканалыя, а не тыя, якія здаюцца найбольш прывабнымі. Трэба паставіць перад сабой мэту асабліва практыкавацца ў адным відзе дабрадзейнасці, не для таго, аднак, каб пакінуць усе астатнія, але каб душа была занятая і дзейнасць яе была ўпарадкаваная. Святы Ян, біскуп Александрыі, убачыў аднойчы ў аб'яўленні прыгожую маладую дзяўчыну, якая свяцілася, як сонца, і была прыбраная ў каштоўнасці, як каралева, а на галаве мела вянок з лісцяў масліны. Яна сказала: "Я старэйшая дачка караля, калі ты хочаш быць маім сябрам, ідзі са мною разам да караля". Ён даведаўся, што імя яе было "міласэрнасць да бедных". Пасля гэтага ён цалкам прысвяціў сябе справам міласэрнасці і стаў вядомым

пад іменем Яна Міласцівага.

Яўлог з Александрыі, жадаючы паслужыць Богу, але не маючы магчымасці паступіць да каго-небудзь у паслушэнства або пайсці ў адасабленне, узяў да сябе пракажонага, каб такім чынам практыкавацца ў міласэрнасці і самаадрачэнні. Кацярына Генуэзская, аўдавеўшы, прысвяціла сябе клопатам аб хворых. Адна дзяўчына, жадаючы практыкавацца ў цярпенні, па ўказанню святога Афанасія, узяла да сябе бедную ўдаву, злую і невыносную, якая пастаянна сварылася на добрую дзяўчыну, і тым самым, давала ёй магчымасць з годнасцю практыкавацца ў пакорлівасці і памяркоўнасці. Такім чынам, людзі, якія імкнуцца служыць Богу, выконваюць розныя ўчынкі рэлігійнасці: адныя клапоцяцца пра хворых, другія дапамагаюць бедным, трэція распаўсюджваюць хрысціянскае вучэнне сярод людзей, чацвёртыя – дапамагаюць упадлым і тым, хто заблудзіў, пятыя – упрыгожваюць касцёлы і алтары, шостыя – ставяць сваёй мэтай усталёўваць мір і згоду паміж людзьмі. Усе гэтыя людзі як вышывальшчыцы, якія на розны фон накладваюць разнастайныя шаўковыя ніткі: залатыя і сярэбраныя, каб адлюстраваць разнастайныя прыгожыя кветкі. Гэтыя рэлігійныя душы, абраўшы які-небудзь абавязак рэлігійнасці, карыстаюцца ім, як фонам для сваёй духоўнай вышыўкі. У далейшым гэты фон будзе расквечаны кветкамі ўсіх другіх дабрадзейнасцяў. Аднак, дзякуючы агульнаму фону, у гэтай вышыўцы будзе больш адзінства і парадку, і душа будзе падобная да адзення з цудоўнай тканіны, якая ўпрыгожаная разнастайнай і ўмелай вышыўкай. Калі нам уласцівы які-небудзь недахоп, дык неабходна, наколькі магчыма, ажыццяўляць супрацьлеглую яму

дабрадзейнасць, звязваючы з ёю ўсе астатнія. Такім шляхам мы пераможам свайго ворага і не дамо яму захапіць іншыя часткі нашай душы!

Калі мяне пераможа ганарлівасць або злосць, я павінен ва ўсім схіліцца ў бок пакоры і лагоднасці, дзеля гэтага я буду выкарыстоўваць і іншыя сродкі: малітву і сакраманты, разважанні, пастаянства і ўстрыманне. Так, дзік, каб навастрыць зубы, якімі ён абараняецца, трэ іх і паліруе аб другія зубы, і яны ўзаемна робяцца завостранымі і рэжучымі. Таксама і дабрадзейны чалавек, імкнучыся ўдасканальвацца ў дабрадзейнасці, якая асабліва патрэбная яму для абароны ад спакушэння, павінен яе шліфаваць і завастраць шляхам практыкавання ў іншых дабрадзейнасцях, якія самі таксама адначасова ўдасканальваюцца. Іоў пераважна практыкаваўся ў цярплівасці сярод мноства спакус і стаў святым і дабрадзейным ва ўсіх адносінах. Святы Рыгор Назіанзін гаворыць, што нават адная справа, натхнёная той або іншай дабрадзейнасцю, выкананая бездакорна і дасканала, дае магчымасць чалавеку набыць мноства дабрадзейнасцяў. Ён прыводзіць да прыкладу Рааў, якая, не пазнаўшы яшчэ Бога, праяўляла гасціннасць і была ўдастоеная вышэйшай славы, таму што яна рабіла гэта з найвялікшай стараннасцю і любоўю.

## Раздзел II

### ПРАЦЯГ ГУТАРКІ АБ ВЫБАРЫ ДАБРАДЗЕЙНАСЦЯЎ

Святы Аўгустын вельмі добра гаворыць аб тым, што пачынаючыя ісці па шляху рэлігійнасці

дапускаюць памылкі, якія з'яўляюцца цяжкімі з пункту гледжання законаў дасканаласці, але ў пачынаючых часам выяўляюць добрыя жаданні, якія могуць у далейшым прывясці да дабрадзейнасці. Так, напрыклад, прымітыўны страх у пачынаючага рэлігійнае жыццё, які часта ўласцівы душы, што толькі як пакінула шлях граху, можа абяцаць у будучым чысціню сумлення, але для больш вопытных ён з'яўляецца недахопам, таму што ў іх сэрцах павінна ўжо панаваць любоў, якая праганяе такі страх. Святы Бернар спачатку быў вельмі суровы ў адносінах да тых, хто прыходзіў да яго, ён патрабаваў, каб яны цалкам пагарджалі сваім целам, кіруючыся толькі духам. Слухаючы іх споведзі, ён выключна сурова адносіўся да іх недахопаў, якімі б малымі яны ні былі. Ён так клапаціўся аб дасканаласці сваіх бедных вучняў , што чым больш ён прыцягваў іх да дабрадзейнасці, тым болш яны адступалі, таму што яны гублялі мужнасць, у іх перахоплівала дыханне, калі іх прымушалі хутка ўздымацца па крутой і высокай гары. Бачыш, Філатэя, да якіх дзеяў святых пабуджала прага да дасканалай чысціні. Гэтая прага сама па сабе з'яўляецца вялікай дабрадзейнасцю, і тым не менш у гэтым выпадку яна была вартая вымовы. Сам Бог выправіў святога Бернара праз святое аб'яўленне, якое ўліло ў яго душу дух лагоднасці, любові, далікатнасці, і ён стаў абвінавачваць сябе за тое, што быў такім суровым і патрабавальным, і стаў міласцівым і спагадлівым да кожнага, каб быць усім для ўсіх і ўсіх выратаваць.

Калі хворы толькі пачынае папраўляцца пасля хваробы, і яго ногі распухаюць ад хадзьбы – гэта можа быць адным з момантаў выздараўлення, але калі такая ж з'ява наглядаецца ў здаровага – яна можа быць сімптомам пачатку хваробы. Трэба практыкавацца ў

дабрадзейнасцях не толькі з ахвотаю, але і разважна, гэта значыць не абапірацца на сваё асабістае меркаванне, а на меркаванне духоўных кіраўнікоў, якіх Бог нам дае. Ёсць і такія рэчы, якія людзі лічаць дабрадзейнасцю, але якія ў сапраўднасці не з'яўляюцца ёю. Гэта такія, як экстазы або захапленне, нечуллівасць ды іншыя "дасканаласці", аб якіх расказваецца ў некаторых кнігах, якія абяцаюць узвысіць душу чыста інтэлектуальным шляхам. Усе яны не з'яўляюцца дабрадзейнасцямі. Часам такі стан прыходзіць як узнагарода за дабрадзейнасць або з'яўляецца прадчуваннем шчасця будучага жыцця. Усё гэта зусім не патрэбна для таго, каб любіць Бога і служыць Яму. Любоў да Бога і служэнне Яму павінна быць нашай адзінай мэтаю. Гэтыя адчуванні не могуць быць дасягнутыя працай і стараннасцю, таму што гэта ласкі. Мы можам іх атрымаць, але не можам іх выпрацоўваць. Мы не павінныя імкнуцца наследаваць у гэтым святых. Калі Богу будзе трэба, Ён можа зрабіць нас падобнымі да анёлаў, але нашая мэта заключаецца ў тым, каб проста, сціпла і з ахвотаю развіваць у сабе тыя маленькія дабрадзейнасці, набываць якія Пан Бог даручыў нам праз нашыя клопаты і намаганні. Такімі з'яўляюцца - цярплівасць, чысціня сэрца, пакора, паслушэнства, лагоднасць, сціпласць, любоў да бліжніх, пераадоленне сваіх недахопаў, стараннасць і святы запал. Аддамо больш узвышанае больш высокім душам, мы нявартыя служыць Богу на такім высокім узроўні. Будзем шчыра працаваць дзеля Яго, выконваючы простыя паўсядзённыя абавязкі любові да іншых людзей. Калі Яму будзе патрэбна Ён наблізіць нас да Сябе. Так, Філатэя, Валадар Славы ўзнагароджвае тых, хто працуе дзеля Яго, не па роду працы, якую яны выконваюць, але па той стараннасці,

пакоры і любові, якія яны выяўляюць. Саул шукаў аслоў свайго бацькі і знайшоў ізраільскае каралеўства. Рэвека, напаіўшы вярблюдаў Абрахама, стала жонкай яго сына. Рут, якая падбірала каласы, пакінутыя пасля жніва, стала жонкай Вааза. Калі чалавек прэтэндуе на нешта вельмі ўзвышанае і выключнае, да гэтага прымешваецца самападман ды ілюзіі. Тыя, што лічаць сябе амаль анёламі, часта не з'яўляюцца нават добрымі людзьмі, і ў іх больш узвышанасці ў размовах і словах, чым у справах і пачуццях. Аднак, не трэба нічым пагарджаць або рэзка крытыкаваць. Але, дзякуючы Богу за ўзвышэнне другіх, сціпла абяром свой шлях, больш нізкі, але больш правільны, менш раскошны, але больш адпавядаючы нашай недасканаласці, на якім, калі мы будзем сціплымі і вернымі Богу, Ён Сам узніме нас на большую вышыню.

# Раздзел III

## АБ ЦЯРПЕННІ

Цярпенне патрэбнае вам, каб, выканаўшы Божую волю, атрымаць абяцанне, – гаворыць апостал. Цярпеннем вашым ратуйце душы вашыя – заклікае Пан.

Вялікае шчасце для чалавека, Філатэя, валодаць сваёй душою. Па меры таго, як нашая цярплівасць становіцца дасканалай, мы пачынаем больш дасканала валодаць сваімі душамі.

Успомні, што Пан Езус уратаваў нас церпячы, і мы павінны ісці да выратавання праз выпрабаванні, вытрымліваючы знявагі, супярэчнасці, незадавальненні з такою пакораю, з якою толькі можам. Не абмяжоўвай свайго цярпення толькі

вызначанымі відамі крыўдаў або засмучэнняў, а распаўсюджвай яго на ўсё, што пашле нам Бог або чаму дазволіць адбыцца. Ёсць людзі, якія гатовыя пераносіць мукі, якія надаюць ім гонар, напрыклад: пацярпець за веру, быць параненымі на вайне, застацца без багацця, якое ў іх несправядліва адабралі. У сапраўднасці ўсе гэтыя людзі здольныя перанесці не выпрабаванне, а той гонар, які звязаны з гэтым выпрабаваннем. Сапраўды цярплівы і жадаючы працаваць для Бога чалавек з аднолькавай цярплівасцю пераносіць і выпрабаванне, якое прыносіць гонар, і тое, якое прыносіць ганьбу. Быць зняважаным і абвінавачаным чужымі і злоснымі людзьмі не так цяжка. Але заслужыць ганьбу і дрэнныя адносіны добрых людзей , сяброў або родных – гэта, сапраўды, цяжка. Больш заслугі меў Святы Карл Барамей, калі на працягу доўгага часу цярпеў публічныя напады з амбона вялікага прапаведніка, чым пры ўсіх другіх нападах, якія яму прыходзілася выносіць. Таксама, як укусы пчалы больш балючыя, чым укусы мухі, так і нападкі і ганьба паважаных людзей больш невыносныя, чым усіх астатніх. Здараецца, што двое добрых людзей, маючы добрыя намеры, дзякуючы рознасці ў поглядах, супярэчаць і праследуюць адзін аднаго.

Цярпліва вынось не толькі вялікія непрыемнасці, але і малыя, вынось звязаныя з імі абставіны. Многія згодныя цярпець тое або другое зло, але толькі пры вызначаных абставінах. "Я нічога не маю супраць таго, каб збяднець, – гаворыць адна, – калі гэта не будзе замінаць мне дапамагаць сябрам, выхаваць сваіх дзяцей і жыць справядліва". Другі сказаў: "Я згодзен збяднець, але каб толькі людзі не падумалі, што я збяднеў па сваёй віне". Яшчэ адзін сказаў: "Няхай

абгаворваюць мяне, каб толькі ніхто гэтаму абгавору не верыў". Ёсць людзі, якія згодныя цярпець некаторыя нязручнасці, але не ўсе. Яны могуць, напрыклад, цярпліва пераносіць хваробы, але не згодныя, каб іх акружалі ў час хваробы непрыемныя ім людзі, або яны не згодныя, каб не было грошай на лекі. Не, Філатэя, трэба мець цярпенне не толькі на тое, каб быць хворым, але быць хворым той хваробаю, якую паслаў Бог, у тым месцы, сярод людзей і абставінаў, якія пажаданыя Яму. Тое ж адносіцца і да іншых невыгодаў. Калі ты занямажаш, прыймай лекі, якія даступныя табе і дазволеныя Богам, таму што дзейнічаць інакш азначала бы выпрабоўваць Пана Бога, аднак, зрабіўшы ўсё з поўнаю пакораю, – чакай таго выніку, які будзе ўгодны Богу. Калі лекі перамогуць хваробы – падзякуй Яму з пакораю, калі хвароба аказалася мацней за лекі – багаславі Яго з цярпеннем.

Святы Рыгор гаворыць: "Калі ты будзеш праўдзіва абвінавачаны ў сваіх памылках, – скарыся і прызнайся ў тым, што ты заслугоўваеш абвінавачвання. Калі абвінавачванне памылковае – лагодна адмаўляй сваю віну. Але калі пасля твайго правільнага і праўдзівага адмаўлення віны цябе працягваюць абвінавачваць – не губляй спакою і не барані ўпарта сябе, таму што пасля таго, як ты сплаціў доўг справядлівасці – сплаці доўг і пакоры. Такім чынам, не прынясуць шкоды ні твае клопаты аб тым, каб захаваць сваё добрае імя, ні імкненне да згоды, лагоднасці і пакоры сэрца". Як можна менш скардзіся. Часамі той, хто скардзіцца – грашыць, таму што нашае самалюбства заўсёды прымушае нас перабольшваць прынесеныя нам абразы, асабліва ж не скардзіся тым, хто схільны абурацца і думаць дрэннае. І калі табе так

неабходна каму-небудзь паскардзіцца, выберы спакойныя і любячыя Бога душы, інакш, замест таго, каб аблегчыць тваё сэрца, ты выклічаш яшчэ большы яго неспакой, замест таго, каб вырваць калючкі, якія цябе колюць, ты ўсадзіш іх у сваё цела яшчэ глыбей. Ёсць людзі, якія, калі бываюць хворыя, пакрыўджаныя або няшчасныя, нікому не скардзяцца, таму што гэта, на іх думку, паказала б недахоп велікадушнасці. У той жа час ім вельмі хочацца, бывае, яны нават шукаюць таго, каб іх пашкадавалі, каб ім паспачувалі і ў той жа час ацанілі іх цярплівасць і мужнасць.

О, гэтая цярплівасць, вядома, падманная, якая ў сапраўднасці есць ні што іншае, як вельмі хітрая ганарлівасць і славалюбства. Сапраўды, цярплівы не толькі не скардзіцца, але і не чакае, каб яго пашкадавалі. Калі ты напаткаеш супярэчнасці пры практыкаваннях у рэлігійнасці (а абысціся без гэтага нельга) – успомні словы Збаўцы: "Калі жанчына нараджае, дык церпіць мукі, а калі народзіць, дык не помніць мукаў ад радасці, таму што нарадзіўся на свет чалавек". У тваёй душы нараджаецца самае прыгожае дзіця – Езус Хрыстус! Ты не можаш не адчуваць цяжкасці, пакуль яно не народзіцца; будзь мужная, мука пройдзе, і ты атрымаеш радасць. Але Ён народзіцца ў тваім сэрцы толькі тады, калі ты будзеш старацца быць падобнай на Яго. Калі ты захварэеш – ахвяруй усе твае хваробы і засмучэнні Пану і прасі далучыць іх да тых мукаў, якія Ён цярпеў за цябе. Слухайся дактароў, прыймай лекі з-за любові да Бога, таксама як Ён прыняў жоўць з-за любві да цябе, жадай паправіцца, каб служыць Яму, але не адмаўляйся цярпець з-за паслухмянасці Яму, і будзь гатовая памерці, калі гэта будзе неабходна для Яго хвалы.

Успомні, што пчолы ў той час, калі яны нарыхтоўваюць мёд, жывуць і харчуюцца горкай ежай, таксама і мы, ніколі не зможам ажыццяўляць справы пакоры і цярплівасці, збіраць мёд дасканалых дабрадзейнасцяў, калі мы не будзем есці хлеб горычы і жыць сярод трывог. І таксама, як мёд, які сабраны з кветак маленькай і горкай расліны, здаецца самым лепшым, так і дабрадзейнасць, якая выпрацоўваецца сярод часта непрыемных і абражальных выпрабаванняў, аказваецца больш дасканалай, чым іншыя.

Часцей накіроўвай твой унутраны погляд на ўкрыжаванага Хрыста, пакрыўджанага, зганьбаванага, зняслаўленага, пакінутага ўсімі, прыбітага смуткам і цярпеннем, і ты ўбачыш, што ўсе твае пакуты ні па якасці, ні па сіле непараўнальныя з Яго мукамі і, што ты яшчэ нічога не выносіла за Яго, калі Ён столькі адпакутаваў за цябе. Паглядзі на цярпенне мучанікаў, на пакуты, нязмерна большыя, чым твае, якія пераносяць іншыя, і ты скажаш: "Мае цярпенні – гэта ўцяшэнне ў параўнанні з тымі, якія выносяць іншыя, без дапамогі, без спачування, без палёгкі, якія жывуць увесь час у страху смерці, прыбітыя непараўнальна больш цяжкімі мукамі".

## Раздзел IV

## АБ ПАКОРЫ

Прарок Элізэй сказаў беднай удаве: "Вазьмі пустыя пасудзіны іналі ў іх алею". Дзеля таго, каб мы маглі прыняць у сваё сэрца Божую славу , трэба, каб яно было пустым, вольным ад нашае асабістае славы. Трашчотка пачынае трашчаць, убачыўшы драпежных птушак, і палохае іх сваім крыкам, таму голуб асабліва

любіць гэтую птушку і каля яе адчувае сябе ў бяспецы. Таксама, пакора палохае д'ябла і дапамагае нам захаваць Божую ласку і дары Святога Духа. Таму ўсе святыя, сам Пан Езус і Божая Маці асабліва цэняць у чалавеку гэтую дабрадзейнасць. Нікчэмная ўсялякая слава чалавечая, ці адносіцца яна да таго, што нам не належыць, альбо да таго, што нам належыць, але не знаходзіцца ў нас, або да таго, што знаходзіцца ў нас, але не вартае таго, каб нас за гэта хвалілі. Высакароднасць паходжання, грамадскае становішча – не адносяцца да нас і не належаць нам, а - нашым продкам. Калі мы ганарымся адзеннем або абуткам, або добрым канём, дык ці не зразумела, што хвала належыць каню, шаўцу, краўцу, але не нам самім. Іншыя ганарацца прычоскаю, валасамі, уменнем танцаваць, спяваць, іграць. Ці разумна ставіць сваё добрае імя ў залежнасць ад такіх рэчаў? Іншыя ганарацца сваімі ведамі і хочуць быць настаўнікамі. Другія ганарацца сваёй прыгажосцю. Уся гэтая слава – марная, пустая і легкадумная. Сапраўднае дабро можна распазнаць таксама, як і сапраўдны бальзам. Правяраюць бальзам, апусціўшы яго ў ваду. Калі ідзе на дно, дык гэта знак таго, што ён добры. Таксама можна даведацца аб тым, ці сапраўды чалавек мудры, вучоны, высакародны па тым, ці садзейнічаюць гэтыя якасці Божае волі . Калі гэтак – тады гэта сапраўднае дабро, калі ж яны ўсплываюць на паверхню і хочуць быць убачанымі – яны не праўдзівыя. Жэмчуг, які ўтвараецца сярод ветру і грому, мае толькі паверхню жэмчугу, а ўсярэдзіне ён пусты. Таксама і дабрадзейнасці, і добрыя якасці чалавека, якія харчуюцца ганарыстасцю, легкадумнасцю і славалюбствам. Яны толькі маюць выгляд дабра, але ў іх няма ні сілы, ні кораня, ні моцы. Ушанаванні, рангі,

становішча ў грамадстве падобныя на шафран, які тым пышней разрастаецца, чым больш яго топчуць нагамі. Няма гонару ў тым, што ты прыгожы, калі ты любуешся сваёй прыгажосцю. Твая вучонасць цябе псуе, калі ты становішся фанабэрыстым і ганарыстым. Калі мы хвалімся сваімі пасадамі, тытуламі, вучонасцю – мы зневажаем сваю годнасць. Калі гонар і павага прыходзяць да тых, хто іх не прагне – яны каштоўныя, але, калі іх шукаюць, патрабуюць і дабіваюцца – яны агідныя. Калі фазан распускае свае прыгожыя пёры, ён у той самы час агаляе непрыгожыя часткі свайго цела. Тыя, хто зводдаль або праходзячы побач удыхаюць пах мандрагора, лічаць яго прыемным, але тыя, хто зблізку і доўга нюхаюць яго, становяцца санлівымі і хворымі; таксама і ўшанаванні, якія ўспрыймаюцца злёгку і зводдаль здаюцца суцяшэннем, але для тых, хто іх прагне і хоча насычацца імі – яны становяцца заганамі.

Калі людзі любяць дабрадзейнасць ды імкнуцца да яе, – яны становяцца дабрадзейнымі, а калі яны любяць гонар і імкнуцца да яго, дык становяцца вартымі зняваги. Высакародныя розумы не цешацца пасадамі, узнагародамі, бо гэта ўцехі для гультаёў – у іх ёсць іншыя справы. У каго ёсць жэмчуг, той не забаўляецца ракавінкамі, і той, хто імкнецца да дабрадзейнасці - не шукае пашаны. У любым становішчы можна захаваць пакору. Тыя, хто прыяжджаюць з Перу, акрамя золата і срэбра, прывозяць малпаў і папугаяў, таму што яны каштуюць нядорага і не загружаюць парахода. Таксама і тыя, хто імкнецца да дабрадзейнасці, не адмаўляюцца ад пасадаў і пашаны, якія яны заслужылі, калі яны не выклікаюць клопатаў, спрэчак і хваляванняў. Там, дзе справа датычыцца важных грамадскіх пасадаў, кожны павінен быць разважлівым, злучаючы свае абавязкі са сціпласцю і любоўю.

# Раздзел V

## АБ УНУТРАНАЙ ПАКОРЫ

Гаворачы аб пакоры, трэба паглыбіцца трохі далей, таму што тое, пра што мы гаварылі да гэтага часу, з'яўляецца хутчэй сціпласцю, чым пакорай. Некаторыя людзі не адважваюцца і баяцца глыбей спазнаць тыя дары, якімі Бог іх надзяліў, але, як гаворыць святы Тамаш: "Найпраўдзівейшай дарогай да Божае любові з'яўляецца разважанне аб Яго дабрадзействах, і чым больш мы будзем пра іх разважаць, тым больш палюбім Бога. Таму што тое, што адносіцца да нас асабіста, заўсёды больш закранае нас, чым тое, што адносіцца ўвогуле да людзей". Сапраўды, нішто так не схіляе нас перад Божай міласэрнасцю, як мноства Яго незлічоных дабрадзействаў да нас, і нішто так хутка не прымушае нас схіліцца перад Яго бясконцай справядлівасцю, як мноства нашых недахопаў. Разгледзім, што Ён зрабіў для нас, і што мы зрабілі супраць Яго, разгледзім падрабязна, маючы на ўвазе, што тое, што ёсць у нас добрага, паходзіць не ад нас. Мул – цяжкая і брудная жывёліна, і ён застанецца такім, нават калі мы яго нагрузім каштоўнымі і духмянымі рэчамі. Што ёсць у нас добрага з таго, што б мы не атрымалі? І чым тады нам ганарыцца? Насупраць, жывы разгляд Божых міласцяў выклікае нашую падзяку. Але, калі пры гэтым мы адчуем славалюбства, – звернемся да разгляду нашых недахопаў, слабасцяў, недасканаласцяў, мы ўбачым, якія мы ёсць, калі дзейнічаем без Бога, і мы зразумеем, што ўсё добрае прыходзіць толькі ад Бога. Божая Маці сказала:

"Узвялічвае душа мая Пана, бо стварыў мне вялікія рэчы". Яна падцвярджае гэтымі словамі сваю пакору, а таксама і тое, што ўсялякая веліч прыходзіць ад Бога. Мы часта гаворым аб сабе, што мы нішто, што мы - прах, але няхай хто-небудзь паспрабуе злавіць нас на слове і сказаць падобнае аб нас. Мы робім выгляд, што мы хочам быць апошнімі і сядзім з самага краю стала, але гэта толькі ў надзеі, што нам прапануюць перасесці на больш годнае месца. Сапраўдная пакора не здаецца такой і не вымаўляе пакорлівых слоў, таму што яна не толькі імкнецца схаваць іншыя дабрадзейнасці, але і сябе самую. Вось мая думка, Філатэя: не будзем гаварыць пакорлівых слоў або будзем іх вымаўляць з адпаведным пачуццём, не будзем апускаць вочы, калі ў нашым сэрцы няма пакоры, не будзем рабіць выгляд, што хочам быць апошнімі, калі ў нашым сэрцы няма такога жадання. Я лічу гэтае правіла настолькі агульным, што яно не дазваляе выключэнняў. Сапраўды, пакорлівы чалавек згаджаецца на тое, каб хто-небудзь іншы сказаў аб ім, што ён нікчэмнасць, што ён нічога нявартьі, ён не будзе абурацца і пярэчыць, бо будзе перакананы ў тым, што гэта сапраўды так. Аднак, ёсць і такія, якія гавораць, што малітва-разважанне не для іх, а для дасканалых, іншыя – што нявартыя часта быць у Камуніі, трэція – што яны не маюць права праводзіць рэлігійнае жыццё, таму што вельмі няўстойлівыя, іншыя – адмаўляюцца аддаваць свой талент на службу Богу і бліжняму з прычыны таго, што нібыта могуць заганарыцца.

Усё гэта – фальш і з'яўляецца падманам, і такая пакора не толькі фальшывая, але і хітрая, бо ў ёй хаваецца самалюбства і лянота. Прарок сказаў няшчаснаму Ахазу: "Прасі сабе знаку ў Пана Бога

твайго, з вышыні неба або з глыбыні". "Не буду прасіць, – адказаў Ахаз, не буду спакушаць Пана". Ён быў злым чалавекам і, стараючыся паказаць сваю пашану да Бога, пад маскаю пакоры, адмаўляўся ад той Божае ласкі , да якой заклікаў яго Бог. Няўжо ён не зразумеў, што Божыя дары нельга адкідаць і пакора заключаецца перш за ўсё ў паслухмянасці Богу. Ідучы за загадамі Бога, мы злучаемся з ім. Ганарысты не адважваецца выканаць даручанае, и пакорлівы тым смялейшы, чым большае бяссілле ён адчувае , таму што ён цалкам спадзяецца на Бога, Які сваю веліч праяўляе ў нашай слабасці і распаўсюджвае Сваю міласэрнасць на нашую слабасць. Трэба пакорліва і свята рашацца выконваць усё, што нашыя духоўныя кіраўнікі лічаць спрыяльным нашаму ўзвышэнню. Думаць, што ты ведаеш тое, чаго не ведаеш – выключнае глупства, а ведаючы, што не ўмееш, старацца паказаць, што ўмееш – невыноснае славалюбства. Што датычыца мяне, дык я не хачу рабіць выгляд вучонага нават у адносінах да таго, што я сапраўды ведаю, і я таксама не хачу рабіць выгляд невука. Трэба быць лагодным і далікатным з бліжнімі, каб быць карысным не толькі для іх суцяшэння, таму што пакора, якая хавае дабрадзейнасці для таго, каб іх захаваць, дае ім праяўляцца тады, калі гэтага патрабуе хрысціянская любоў. Таму яны ўзрастаюць і ўдасканальваюцца. Гэтым яны падобныя на дрэва з астравоў Тылоса, якое на ноч закрывае пялёсткі сваіх прыгожых пунсовых кветак і раскрывае іх толькі з усходам сонца, таму жыхары той краіны гавораць, што кветкі ноччу спяць. Таксама і пакора хавае ўсе нашыя дабрадзейнасці і дасканаласці, і толькі любоў можа прымусіць яе раскрыць іх, бо любоў – дабрадзейнасць не проста чалавечая, а нябесная, не столькі маральная,

колькі рэлігійная, яна сапраўды сонца ўсіх дабрадзейнасцяў, над якімі яна заўжды павінна панаваць. А тая пакора, якая прыносіць шкоду любові, з'яўляецца, несумненна, падманнай.

Я б не хацеў уяўляць сабой ні мудраца, ні невука. Калі пакора не дае мне чыніць з сябе мудраца, дык прастата і шчырасць не даюць мне рабіць сябе недарэкам. Што датычыць Давіда, які скакаў і танцаваў перад Каўчэгам Запавету, дык гэта не таму, што ён хацеў паказаць сябе недарэкам, проста і натуральна яго рухі адпавядалі празмернай весялосці, якой было поўнае яго сэрца. Калі яго жонка Мелхола папракнула яго, што ён робіць глупства, ён не засмуціўся, але працягваў непасрэдна выяўляць сваю радасць.

Калі вас будуць ганьбаваць за вашу праўдзівую рэлігійнасць – вы будзеце, як Давід, толькі радавацца такому прыніжэнню, віною якому з'яўляецеся не вы, а тыя, хто яго выказвае.

## Раздзел VI

## ПАКОРА ЗМУШАЕ НАС ПАЛЮБІЦЬ САМАПАНІЖЭННЕ

Па-лацінску пакора і паніжэнне абазначаюцца адным словам. Божая Маці ў свяшчэнным песнапенні гаворыць наступнае: "Бог паглядзеў на пакору служанкі Сваёй, з гэтага часу бласлаўляць мяне будуць усе народы". Яна хоча сказаць, што Пан Бог убачыў яе дабраахвотнае прыніжэнне і пакору і таму падарыў Ёй Свае міласці і шчодрасці. Але ёсць некаторая розніца паміж дабрадзейнасцю пакоры і прыніжэннем. Прыніжэнне адбываецца ненаўмысна. Што

датычыцца пакоры – гэта свядомае і добраахвотнае прызнанне сваёй ніжэйшасці.

Вышэйшая ступень пакоры заключаецца ў тым, каб не толькі добраахвотна прызнаць сваё прыніжэнне, але і палюбіць яго, і не з-за недахопу мужнасці і велікадушша, а дзеля таго, каб яшчэ больш захапляцца Божай магутнасцю і навучыцца паважаць бліжняга больш, чым самога сябе.

Вось да чаго я заклікаю вас . Каб яшчэ лепш гэта зразумець, ведайце, што сярод нашых цярпенняў ёсць цярпенні пачэсныя і тыя, якімі пагарджаюць. Многія прыстасоўваюцца да пачэсных, але амаль ніхто - да брыдкіх. Пабожны пустэльнік, у лахманах, замярзаючы ад холаду, карыстаецца павагай: усе паважаюць ягоную старую вопратку і спачуваюць яго беднасці, але калі бедны чалавек або дзяўчына ходзяць у такой вопратцы – да іх адносяцца з пагардай, над імі смяюцца. Законнік з увагаю выслухае свайго настаўніка, або дзіця выслухае свайго бацьку – усе назавуць гэта мудрасцю і паслушэнствам. Але калі рыцар або дама выслухвае чые-небудзь заўвагі, зробленыя справядліва і для Бога – усе назавуць гэта баязлівасцю. Калі ў каго-небудзь скула на руцэ – гэты чалавек выклікае спачуванне, калі скула на твары – чалавек робіцца непрыемным для акаляючых, і ён саромеецца сваёй хваробы. Першы церпіць толькі ад хваробы, другі, апрача болю, церпіць ад пачуцця прыніжэння. Для таго, каб пераносіць хваробы, патрэбная цярплівасць. Для таго, каб перанесці прыніжэнне, патрэбная пакора.

Ёсць дабрадзейнасці пачэсныя і тыя, якімі пагарджаюць. Цярпенне, пакора, прастата, лагоднасць – вось дабрадзейнасці, якімі свет пагарджае, насупраць – ён вельмі цэніць разважлівасць, смеласць і

шчодрасць. Адна і тая ж дабрадзейнасць праяўляецца ў справах, якія выклікаюць павагу, і ў такіх справах, якія выклікаюць пагарду. Даваць міласціну і даравацъ крыўду – справы адной і той самай любові, аднак у вачах свету першае лічыцца пачэсным, а другое вартым пагарды. Калі маладая асоба адмаўляецца прыняць удзел у распусных забавах якой-небудзь кампаніі, якая весяліцца, дык яе будуць асуджаць, а сціпласць гэтай асобы назавуць дзівацтвам. Знаходзіць упадабанне ў тым, што пра нас думаюць людзі – гэта значыць любіць прыніжэнне. Мы наведваем хворых. Калі мяне накіруюць да самых няшчасных – гэта выкліча пагарду свету і мне трэба знайсці ўпадабанне ў гэтым, калі мяне накіруюць да найдастойнейшых – гэта будзе як бы прыніжэнне для мяне, але я павінен быць рады і гэтаму. Калі ўпадзеш пасярод вуліцы, бывае не толькі балюча, але і сорамна – трэба любіць і гэтае прыніжэнне. У другіх выпадках не адчуваеш нічога злога - толькі сорам і прыніжэнне. Пакора не патрабуе таго, каб наўмысна ставіць сябе ў такую сітуацыю, але не варта непакоіцца, калі нешта падобнае здарыцца. Такімі момантамі з'яўляюцца няёмкія і смешныя становішчы, промахі, нязграбнасці, якіх трэба пазбягаць, але калі яны здараюцца, змірыцца з тым прыніжэннем, якое можа быць іх вынікам, і прыняць яго з пакораю. Скажу больш: калі я ў злосці скажу што-небудзь, што зневажае Бога або бліжняга, і ў той жа час каюся ды імкнуся выправіць зробленае наколькі магчыма, дык я павінен прыняць тое прыніжэнне і пагарду, якія з ім звязаныя. Заўсёды трэба старацца законнымі сродкамі выправіць зло і яго вынікі. Часам знешне трэба старацца зліквідаваць прыніжэнне для карысці бліжняга, але захаваць яго ўнутры. Самыя карысныя для нас тыя прыніжэнні,

якія ўтвараюцца выпадкамі або ўмовамі нашага жыцця, якія мы не выбіралі, але якія пасланыя Богам, а яго выбар заўсёды больш правільны, чым наш. Прыніжэнні, якія найбольш моцныя, супярэчлівыя нашым схільнасцям, часцей бываюць самыя карысныя. Наш асабісты выбар псуе амаль усе дабрадзейнасці. О, калі б мы маглі сказаць разам з псальмістам: "Лепей мне быць каля парога ў Доме Божым, чым жыць у палацах грэшнікаў". Дапаможа нам сваім прыкладам і ласкаю Езус, той, які жыў, цярпеў і памёр, будучы пагарджаным людзьмі. Многае з таго, што я сказаў, здаецца Вам вельмі суровым, але, паверце мне, калі вы будзеце выконваць гэта ў жыцці – усё гэта будзе для вас саладзей за мёд.

## Раздзел VII

## ЯК ЗАХАВАЦЬ ДОБРУЮ СЛАВУ, ЖЫВУЧЫ Ў ПАКОРЫ

Пахвала, пашана і слава дасягаюцца не простай, а толькі дасканалай дабрадзейнасцю. Калі мы хочам пераканаць другога чалавека, каб ён паважаў каго-небудзь, мы самі хвалім яго, бо рэпутацыя з'яўляецца сукупнасцю многіх пахвалаў. Пахвала і павага падобныя да каштоўных камянёў, а калі іх збіраецца многа – паўстае слава. Пакора не дазваляе нам шукаць пахвалу, або імкнуцца да таго, каб нам аддавалі перавагу перад другімі, аднак яна згаджаецца на тое, каб клапаціцца аб сваёй добрай славе, таму што добрая слава не звязаная з якой-небудзь перавагай, а спалучаная з прастатою і звычайнай праўдзівасцю, непадкупнасцю. Пакора не замінае таму, каб мы

прызнавалі сваю добрую славу і жадалі, каб яе прызнавалі іншыя. Пакора пагарджала б і гэтым, калі б гэта не было неабходным для любові, але добрая слава – адна з падстаў чалавечага грамадства, і без яе мы не толькі не карысныя, але шкодныя для грамадства. Любоў патрабуе, і пакора згаджаецца, каб мы яе жадалі і добра захоўвалі.

Акрамя таго, як лісты на дрэвах служаць для таго, каб не толькі захаваць дрэва, але і захаваць плады, пакуль яны яшчэ кволыя, так і добрае імя, якое само па сабе не павінна быць прадметам жаданняў, не толькі карыснае для ўпрыгожвання нашага жыцця, але і служыць для захавання дабрадзейнасцяў, асабліва яшчэ слабых і кволых. Неабходнасць падтрымліваць рэпутацыю і быць такімі, якімі нас лічаць, надае нам сілы і энергіі.

Будзем жа берагчы нашыя дабрадзейнасці, таму што яны патрэбныя Богу, вышэйшаму і вярхоўнаму Суддзі ўсёй нашай дзейнасці. Як той, хто хоча захаваць садавіну, не толькі яе марынуе, але і складае ў спецыяльны посуд, таксама, ведаючы, што Боская любоў – галоўны вартаўнік дабрадзейнасцяў, мы можам выкарыстоўваць і добрую славу для той самай мэты.

Не трэба ж, аднак, быць вельмі руплівым і дакладным у гэтых адносінах, таму што вельмі ўражлівыя да сваёй рэпутацыі, падобныя да тых, якія пры найменшым недамаганні прыймаюць лекі, ды, імкнучыся захаваць здароўе, толькі шкодзяць яму. Такія людзі, жадаючы падтрымаць любою цаною сваю рэпутацыю, псуюць яе канчаткова . Не звяртаць увагі на крыўды і паклёпы, пагарджаць імі – намнога лепшы сродак, чым злапамятнасць, аспрэчванне і помста.

Пагарда прымушае іх знікнуць, а калі мы пачынаем злавацца, здаецца, што мы іх пацвярджаем. Кракадзілы нападаюць толькі на тых, хто іх баіцца, і дрэнная пагалоска пераходзіць на тых, хто звяртае на яе ўвагу. Дарэмная боязь згубіць добрае імя сведчыць аб тым, што аснова пад ім пахіснулася , а гэтая аснова - праўдзівасць добрага жыцця. Гарады, у якіх праз вялікія рэкі пракладзеныя драўляныя масты, баяцца, каб яны не былі знесеныя ў час паводкі, а тыя, якія маюць каменныя масты, баяцца толькі выключна вялікіх паводак. Тыя, хто маюць сапраўдную хрысціянскую душу, часам пагарджаюць паводкай злых слоў, тыя хто адчуваюць сябе слабымі, непакояцца з-за дробязяў. Той, хто ў першую чаргу клапоціцца аб сваёй рэпутацыі, яе перш за ўсё і губляе.

Рэпутацыя - толькі шыльда, за якой хаваецца дабрадзейнасць, але заўсёды трэба аддаць перавагу сіле дабрадзейнасці. Таму, калі гавораць, што вы ханжа, таму што вы імкнецеся да рэлігійнасці, калі вас лічаць баязліўцам, таму што вы даруеце крыўды, – смейцеся над гэтым,гэтыя высновы робяць пустыя і недалёкія людзі. Сыйсці са шляху дабрадзейнасці, каб атрымаць добрую славу – значыць аддаць перавагу лістоце, а не пладам, унутраныя духоўныя даброты – замяніць на даброты знешнія. Не трэба рабіць ідала з добрай славы, і, таксама, як не трэба зневажаць добрых, таксама не трэба жадаць задаволіць благіх. Барада ўпрыгожвае твар мужчыны, а валасы ўпрыгожваюць жанчыну. Калі вырваць з коранем усе валасы – яны не вырастуць больш, але, калі іх падстрыгчы, або згаліць бараду , дык яны будуць расці яшчэ хутчэй і будуць гусцейшымі. Таксама, калі добрая слава надрэзана або нават зголеная злымі языкамі, не трэба хвалявацца – яна вернецца і будзе

яшчэ больш моцнай. Але, калі нашая рэпутацыя падарваная нашымі недахопамі і дрэннымі паводзінамі, малаверагодна, што яна вернецца, таму што вырваныя яе карэнні. Корань добрай славы – дабрыня і справядлівасць, і пакуль яны ў нас ёсць, яны могуць заўсёды вярнуць нам пашану. Трэба пакінуць пустыя размовы, бескарысныя заняткі, легкадумнае сяброўства дзеля добрае славы, таму што яна важней, чым гэтыя марныя ўцехі. Але, калі справа ідзе аб практыкаваннях ў рэлігійнасці, аб шляху да дабра і вечнасці, няхай усе гаворкі, бурчанні і паклёпы будуць для нас як брэх сабак на месяц. Таму што, калі яны і могуць пашкодзіць нашай рэпутацыі, гэта значыць абрэзаць валасы і згаліць бараду, дык яны адродзяцца, і брытва зласлоўя будзе служыць нашай пашане, як серп у вінаградніку, пасля якога і памнажаюцца і ў дастатку спеюць плады.

Будзем заўсёды мець перад вачамі Укрыжаванага Пана Езуса, будзем служыць Яму з прастатою і даверам, але мудра і сціпла. Ён сам замацуе нашую добрую славу, і калі Ён дазваляе, каб мы яе пазбавіліся, дык Ён сам верне нам яшчэ лепшую славу і зробіць гэта дзеля таго, каб мы мелі святую пакору, адзін грам якой пераважыць тысячу кілаграмаў пашаны. Калі нас несправядліва абвінавачваюць – спакойна супрацьпаставім праўду паклёпу. Калі абвінавачванні будуць працягвацца - будзем трываць у пакоры, аддаючы нашую рэпутацыю і нашую душу ў рукі Бога. Будзем служыць Богу, прымаючы і знявагі, і добрую славу, па прыкладу Апостала Паўла, каб мы маглі сказаць разам з Давідам: "Дзеля Цябе я зношу знявагі, і ганьба пакрывала мой твар".

Магчымыя, аднак, такія няпраўдзівыя, ганебныя і жахлівыя абвінавачванні, якія не трэба зносіць, калі ад іх можна пазбавіцца.

# Раздзел VIII

## АБ ЛАГОДНАСЦІ Ў АДНОСІНАХ ДА БЛІЖНЯГА І СРОДАК СУПРАЦЬ ЗЛОСЦІ

**Святы алей, з Апастольскае традыцыі, якім карыстаюцца ў Божым Касцеле пры Хрызмаванні і пры Памазанні хворых, складаецца з аліўкавага алею, змешанага з духмянасцямі. Яны сымбалізуюць дзве самыя прыгожыя дабрадзейнасці, якія запаведваў Пан – пакору і лагоднасць. Выконваючы гэтыя дабрадзейнасці, нашае сэрца цалкам прысвячаецца пераймацню і служэнню Яму: "Вучыцеся ад Мяне, бо я лагодны і пакорны сэрцам". Пакора робіць нас дасканалымі ў адносінах да Бога, а лагоднасць – у адносінах да бліжніх. Духмяныя рэчывы, якія апускаюцца заўседы на дно, уяўляюць сабой пакору, а аліўкавы алей, заўсёды ўсплываючы наверх, сымбалізуе лагоднасць, якая ўзнімаецца над усім і вылучаецца сярод дабрадзейнасцяў, як кветка любові, якая, як гаворыць святы Бернард, дасягае дасканаласці, калі яна не толькі цярплівая, але і пакорлівая. Але, будзь уважлівая, Філатэя, каб гэты склад з пакоры і лагоднасці быў у глыбіні твайго сэрца, таму што хітрасць і мастацтва ворага заключаюцца ў тым, што ён схіляе людзей забаўляцца словамі і знешнімі праявамі гэтых дабрадзейнасцяў. Не аналізуючы свайго ўнутранага стану, гэтыя людзі думаюць, што яны лагодныя і пакорныя, калі на самой справе няма ні таго, ні другога. Гэта можна лёгка выявіць, бо на маленькую крыўду або супярэчлівасць яны рэагуюць рэзкаю праяваю высакамернасці. Гавораць, што тыя, хто прыймае сродкі супраць укусу**

змей, захоўваюцца ад атруты, але толькі тады, калі сродкі тыя не фальшывыя. Таксама, калі пакора і лагоднасць – добрыя і сапраўдныя – яны ахоўваюць нас ад атруты і пухліны, ад крыўдаў, якімі звычайна атручваюць нашае сэрца. Калі мы, атрымаўшы ўколы заслоўя і варожасці, становімся раззлаванымі, – гэта з'яўляецца паказальнікам таго, што нашыя пакора і лагоднасць не з'яўляюцца праўдзівымі і шчырымі, а - штучнымі і ўяўнымі. Святы Юзаф, адпраўляючы сваіх братоў з Егіпта ў дом бацькі, даў такі наказ: "Не сварыцеся па дарозе!". Тое ж і я гавару табе, Філатэя. Нашае зямное жыццё - толькі шлях да шчаслівага будучага жыцця . Не будзем на дарозе злавацца адзін на другога, пойдзем мірна і дружна з усімі нашымі братамі і сябрамі. Гавару табе проста, без агаворак: "Не злуйся ніколі, калі магчыма, не прыймай ніякай прычыны для таго, каб адкрыць злосці дзверы свайго сэрца ". Святы Якуб сказаў пэўна і без выключэння: "Гнеў не чыніць чалавеку Божае справядлівасці". Трэба ўвесь час змагацца са злом, але рабіць гэта лагодна і мірна. Нішто так не ўціхамірвае раззлаванага слана, як ягнё, якое ён бачыць. Разумная душа натуральна падпарадкоўваецца розуму, падпарадкаванне гневу з'яўляецца для яе тыраніяй, і розум, які злучаны з гневам, становіцца невыносным. Калі ў войску ёсць дакладная і суровая дысцыпліна, але праводзіцца яна мірна і спакойна – усе яе вітаюць, але, калі правядзенне яе суправаджаецца злосцю і раз'юшанасцю – усе яе ненавідзяць.

"Лепш забараніць уваход злосці, – гаворыць Святы Аўгустын, - чым упусціць яе хоць крыху, таму што вельмі цяжка будзе прымусіць яе выйсці". Пачынаецца з невялікага парастка, які расце і становіцца вялікім. Калі прыйдзе ноч і зойдзе сонца, а

ты будзеш трываць у гневе (што забараняе Апостал), гнеў ператвараецца ў нянавісць, і ты ўжо не здолееш з ім справіцца. Ён павялічваецца, вышукваючы тысячу апраўданняў, таму што раззлаваны чалавек не ўсведамляе, што ён несправядлівы. Таму правільней імкнуцца жыць без гневу, чым разумна стрымліваць свой гнеў. Калі па слабасці і недасканаласці мы адчуем гнеў, трэба адкінуць яго, і не гандлявацца з ім, таму што як толькі мы дамо яму ход, ён зробіцца панам становішча, як змяя, якая лёгка пралазіць туды, куды яна можа ўсунуць галаву.

Але ты спытаеш, як жа прагнаць гнеў? Як толькі з'яўляецца ў цябе гэтае пачуццё, хутка збяры ўсе свае сілы, без спеху і гарачнасці, але спакойна і рашуча. Бывае, на пасяджэннях пачынаюць крычаць: "Цішэй!", каб супакоіць тых, хто падняў шум – і выклікаюць шум яшчэ большы. Так і мы, з вялікай гарачнасцю імкнемся задушыць гнеў, выклікаем у сваім сэрцы такое парушэнне, што становімся ўжо не ў сілах авалодаць сабою. Пасля такога цяжкага намагання скарыстай параду, якую святы Аўгустын даў маладому біскупу Аўксілію: "Чыні тое, што чалавек чыніць павінен".

Калі мы ахопленыя гневам, дык трэба паклікаць на дапамогу Бога, як гэта зрабілі Апосталы пад час навальніцы і буры. Ён супакоіць нашыя гнеўныя пачуцці і настане вялікая цішыня. Але я ўжо папярэджваў, што малітва супраць гневу, які ці то паўстае ў нас, ці то трывае, ці нават ахапіў нас, павінна адбывацца ціха, спакойна, гэта адносіцца і да ўсіх сродкаў, якія выкарыстоўваюцца супраць гэтага пачуцця. Калі ты нечакана разгневалася – выпраў памылку, паставіўшыся лагодна ў адносінах да той самай асобы. Па свежых слядах лягчэй выправіць зло.

Таксама, калі ты сказала няпраўду і заўважыла гэта, выпраўся адразу. А калі ты спакойная і няма прычыны для гневу, старайся ўсё рабіць і гаварыць лагодна і з любоўю, як бы збіраючы на запас дабрыню і лагоднасць, якімі будзеш надзяляць і чужых, і блізкіх. Бо бывае і так, што некаторыя сярод чужых нагадваюць анёлаў, а ў сябе дома нагадваюць чарцей.

# Раздзел IX

## АБ ЛАГОДНАСЦІ Ў АДНОСІНАХ ДА САМОГА СЯБЕ

Лагоднасць павінна распаўсюджвацца і на адносіны да самога сябе, да сваіх асабістых недахопаў. Хоць, па справядлівасці, нашыя недахопы павінныя быць непрыемныя для нас і выклікаць жаль, аднак трэба, каб гэтыя пачуцці не ператвараліся ў смутак, гнеў, нецярплівасць і неспакой. Вялікую памылку робіць той, хто гневаецца, таму што ён загневаўся, а таксама той, хто непакоіцца, таму што ён занепакоіўся. Такім чынам, мы толькі адчыняем дзверы для новых гнеўных пачуццяў. Акрамя таго, гэты вострый і рэзкі гнеў супраць сябе самога заўсёды мае прысмак ганарлівасці і самалюбства, якое не хоча бачыць сябе недасканалым. Трэба спакойна і цвёрда разважаць аб сваіх недахопах. Спакойны і разважлівы Суддзя лепш судзіць, чым той, хто судзіць гвалтоўна і запальчыва. Спакойны і сталы жаль за грахі каштоўней, чым жаль палкі, паспешлівы, гнеўны, выкліканы хутчэй настроем, чым усведамленнем сур'ёзнасці памылак. Напрыклад, чалавек, які цэніць дабрадзейнасць нявіннасці, будзе без меры турбавацца з-за найменшай сваёй памылкі ў дачыненні да гэтай дабрадзейнасці,

але не будзе звяртаць увагі нават і на грубае зласлоўе, якое ўчыніў. Той, хто баіцца зграшыць зласлоўем, будзе мучыцца, калі ў яго вырвецца неасцярожнае слова, і не заўважыць нават грубай сваёй памылкі супраць нявіннасці. Так бывае заўсёды, калі сумленне кіруецца не розумам, а пачуццямі.

Павер мне, Філатэя, заўвагі, зробленыя лагодна і сардэчна, больш садзейнічаюць выпраўленню, чым заўвагі, зробленыя ў гневе і раздражненні. Таксама, калі нашае сэрца зрабіла памылку, а мы яе прымем спакойна і з пакорлівасцю – жаль будзе глыбейшым і выпраўленне хутчэйшым, чым у тых выпадках, калі мы перажываем гнеў і прыкрасць. Напрыклад, калі б у мяне была моцная пастанова не ўпадаць у грэх славалюбства, але я зноў паддаўся спакусе, я бы не стаў выказваць свой жаль такім чынам: "Хіба ты не нікчэмны ды агідны, калі пасля столькіх рашэнняў ты зноў паддаўся славалюбству? Памірай ад сораму, не ўздымай вочы да неба, сляпы няшчасны здраднік, няверны свайму Богу..." і гэтак далей. Не, я падыйшоў бы да свайго сэрца спачувальна: "Маё беднае сэрца, ты ўпала ў яму, якую мы столькі разоў вырашалі пазбягаць. Уздымемся і пакінем яе назаўжды, будзем прасіць Божае міласэрнасці, будзем спадзявацца, што яна дапаможа нам стаць больш моцнымі. Смялей пойдзем па шляху пакоры, будзем пільнымі і Бог нам дапаможа!" На такой падставе мы створым больш моцнае рашэнне не рабіць болей памылак, прыняўшы адпаведныя меры і параіўшыся з нашым духоўным кіраўніком.

Калі ж хто-небудзь лічыць, што яго сэрца не будзе закранутае такім пакорлівым напамінам, ён можа звярнуцца да больш моцных папрокаў, аднак, скончыць іх трэба пакорлівай і святой адданасцю Богу,

пераймаючы пакаянне псальмапеўцы, які, бачачы засмучанай сваю душу, стараўся падбадзёрыць яе такім чынам: "Чаго смуткуеш, душа мая, і чаго саромеешся? Спадзявайся на Бога, бо я буду яшчэ славіць Яго, Збаўцу майго і Бога майго".

Уздымі сваё сэрца, калі яно ўпадзе, лагодна, з пакораю перад Богам, ва ўсведамленні сваёй духоўнай слабасці, але ніколькі не дзівячыся свайму праліку, таму што няма нічога дзіўнага ў тым, што нямоглае з'яўляецца нямоглым, слабое – слабым і ўбогае – убогім. У той самы час узненавідзь тую знявагу, якую ты прынесла Богу, і з вялікай мужнасцю і даверам да яго міласэрнасці вярніся на шлях дабрадзейнасці, з якога ты сыйшла.

## Раздзел X

### АБ ТЫМ, ШТО ТРЭБА ЗАЙМАЦЦА СПРАВАМІ СТАРАННА, БЕЗ СПЕШКІ І ПРАЗМЕРНАГА КЛОПАТУ

Стараннасць, якую мы павінныя мець ва ўсіх нашых справах, не мае нічога агульнага са спешкаю, заклапочанасцю і турботаю. Анёлы клапоцяцца пра нашае выратаванне і здзяйсняюць яго са стараннасцю, не выяўляючы ні паспешлівасці, ні мітусні. Клапатлівасць і стараннасць, уласцівыя любові, і суправаджаюцца мірам і спакоем, а спешка і збянтэжанасць супярэчаць гэтаму блажэннаму стану. Выконвай усе свае справы старанна, таму што яны давераныя табе Богам, і не выконвай іх з трывогаю, неспакоем і гарачнасцю. Не спяшайся: спешка бянтэжыць розум і замінае нам добра выконваць сваю справу. Пан сказаў Марфе: "Ты мітусішся і клапоцішся

аб многім". Калі б яна проста клапацілася, яна бы не мітусілася, але таму, што яна была неспакойная, яна спяшалася і мітусілася. Рэкі, якія спакойна і ціха цякуць па даліне, носяць вялікія караблі з мноствам грузаў. Ціхія дажджы садзейнічаюць росту траў і ўраджаю хлеба, а вадаспады і рэкі з бурнаю плынню – не суднаходныя. Бурныя праліўныя дажджы спусташаюць палі. Ніколі справа, выкананая са спешкаю і мітуслівасцю, не прыносіць карысці. Мудрэц гаворыць: "Той, хто спяшаецца, той спатыкаецца". Калі мы робім добра, мы заўсёды зробім у час. Трутні робяць больш шуму і больш мітусяцца, чым пчолы, але яны не вырабляюць ні воску, ні мёду. Таксама і тыя, што шумяць, спяшаюцца, мітусяцца, ніколі не зробяць ні многа, ні добра. Мухі непакояць нас не сваёю сілаю, а сваім мноствам. Таксама адна вялікая справа не надае нам столькі клопату, як мноства малых. Выконвай усе свае справы ў міры, па парадку, таму што, калі ты будзеш іх рабіць усе адразу або ў беспарадку – ты будзеш рабіць намаганні, якія будуць цябе прыгнятаць і аслабляць твой розум, ты будзеш прыдушаная іх цяжарам, і твае намаганні большай часткаю будуць безвыніковымі.

Ва ўсіх сваіх справах абапірайся на Божы Правід, дзякуючы якому толькі і могуць здзейсніцца твае намеры. Са свайго боку працуй так, каб твае намаганні суадносіліся з Божаю воляю, і ты заўсёды будзеш мець поспех, і справа заўсёды будзе плённая для цябе, незалежна ад таго, ці будзе яна выкананая дрэнна ці добра, па твайму меркаванню. Маленькія дзеці адной рукою трымаюцца за руку бацькі, а другой зрываюць ягады. Так і ты працуй і, дабіваючыся зямных мэтаў адной рукой, трымайся другой за руку Нябеснага Айца, час ад часу паварочваючыся да Яго, каб даведацца, ці

задаволены Ён тваёй работаю. Але асцерагайся згубіць Яго руку і падтрымку, з надзеяю назбіраць чым больш ягадаў. Калі Ён цябе пакіне – ты ўпадзеш, не зрабіўшы ніводнага кроку. Калі ты занятая звычайнымі справамі і заняткамі, якія не вельмі цяжкія і паспешныя і не патрабуюць усёй тваёй увагі - ты больш глядзі на Бога, але, калі ў цябе вельмі важныя справы, якія цалкам паглынаюць тваю ўвагу – ты павінна таксама глядзець на Бога, хоць бы час ад часу, як робяць тыя, хто плыве ў адкрытым моры і скіроўвае сваё памкненне да зямлі. Яны вымушаныя глядзець уверх на неба, а не на хвалі ўнізе, каб знайсці шлях. Такім чынам, Бог будзе працаваць разам з табою, у табе і для цябе, і твая праца будзе суправаджацца суцяшэннем.

## Раздзел XI

### АБ ПАСЛУШЭНСТВЕ

Адная любоў можа надаць нам дасканаласць, але паслушэнства, цнатлівасць і ўбоства – тры вялікія спосабы яе набыцця. Паслушэнства – нашае сэрца, цнатлівасць – нашае цела і ўбоства – увесь наш набытак, прысвячаюць любові і служэнню Богу. Гэта тры галінкі духоўнага крыжа, і ўсе яны маюць агульны корань – пакору. Я не гавару тут аб гэтых трох дабрадзейнасцях як аб шлюбах Богу, якія маюць месца ў законах. Важна не тое, ці яны шлюбаваныя Богу, колькі тое, каб гэтыя дабрадзейнасці практыкаваліся ў жыцці. Мы ўсе абавязаны кіравацца гэтымі трыма дабрадзейнасцямі, але кожны па-свойму, суадносна свайму становішчу. Ёсць два віды паслушэнства: неабходнае і добраахвотнае. Да першага належыць паслушэнства, якое павінныя аказваць: дзеці –

бацькам, вучні – настаўнікам, падданыя – кіраўнікам, падначальныя – начальнікам. Калі ўсе гэтыя асобы будуць выконваць загады старэйшых, дык яны выканаюць неабходнае паслушэнства. Каб паслушэнства было больш дасканалым, яны будуць выконваць таксама парады і пажаданні старэйшых, таму што гэтага патрабуюць любоў і разважлівасць. Не будзе вялікай дабрадзейнасцю, калі вы выканаеце жаданні такога плану, калі, напрыклад, яны прапануюць што-небудзь з'есці або пайсці гуляць, але, калі вы адмовіцеся выканаць падобнае, – гэта будзе вялікай заганаю. Больш істотным можа быць паслушэнства ў рэчах абыякавых: апранаць тое ці іншае адзенне, ісці па той або другой дарозе, спяваць або маўчаць. Паслушэнства ж у справах цяжкіх, суровых і непрыемных будзе паслушэнствам дасканалым. Слухацца трэба пакорліва, без пярэчанняў, а выконваць хутка і без затрымкі, весела і без суму, а галоўнае - з любоўю і дзеля любові. Пан Езус быў паслухмяны нават пад час смерці на крыжы, і, як гаворыць святы Бернар, хутчэй адмовіўся бы ад жыцця, чым ад паслушэнства. Каб з ахвотаю вучыцца слухаць старэйшых, трэба быць паблажлівым да жаданняў роўных вам, не супярэчыць ім, калі толькі ў іх няма нічога дрэннага, не быць высакамерным.

Прыстасоўвайцеся і да жаданняў малодшых, у залежнасці ад таго, наколькі яны разумныя, не праяўляючы сваёй улады, калі яны нічога дрэннага не маюць на ўвазе.

Добраахвотнае паслушэнства – гэта тое паслушэнства, якое ажыццяўляецца па выбару і па добрай волі. Падпарадкоўвацца трэба кожнаму ў тых адносінах, у якіх ён кампетэнтны: уладзе – у грамадскіх справах, настаўнікам – у вучэбных, бацькам – у

сямейных, у тым, што датычыцца душы – духоўніку.

Няхай твой духоўны кіраўнік растлумачыць, якія рэлігійныя практыкаванні табе трэба выконваць, і яны будуць яшчэ больш карыснымі, дзякуючы паслушэнству. Бласлаўлёныя паслухмяныя, Бог ніколі не дазволіць, каб яны збіліся са шляху.

## Раздзел XII

### АБ НЕАБХОДНАСЦІ ЗАХОЎВАЦЬ ЦНАТЛІВАСЦЬ

Цнатлівасць – гэта лілея дабрадзейнасці, яна робіць людзей падобнымі да анёлаў. Чысціня робіць усялякую рэч прыгожай. Чысціня чалавека – цнатлівасць. Нявіннасць называюць сумленнасцю, і выкананне яе – гонарам, яна называецца цэласнасцю, а супрацьлеглае ёй – сапсаванасцю. Гэта самая прыгожая, чыстая з дабрадзейнасцяў. Чыстае сэрца прыпамінае жэмчуг, які не можа прыняць ніводнай кроплі вільгаці, акрамя той, якая сыходзіць з неба. Так і хрысціянін не можа дазволіць не толькі ніякіх адносінаў, але і думак аб пачуццёвых уцехах па-за шлюбам, і ў шлюбе ён абмяжоўваецца толькі неабходным для тых мэтаў, якія робяць шлюб наладжаным, не шукаючы ўцехаў для цела і не далучаючы да іх сэрца. Гэтая дабрадзейнасць неабходная кожнаму. Тыя, хто захоўваюць цнатлівасць, павінныя быць мужнымі і не толькі пазбягаць непрыемнай цікавасці, задавальненняў, але павінны старацца пазбягаць нават уяўлення пра іх. Пакуль садавіна свежая, яе можна захоўваць і ў пяску, і ў саломе, і нават у лісці. Але, калі яна ўжо папсавалася, яе можна захоўваць толькі ў мёдзе або цукру. Таксама

і цнатлівасць. Пакуль яна не закранутая, яна можа быць захаваная розным чынам, але калі яна парушаная, нішто не можа захаваць яе, акрамя дасканалай рэлігійнасці – гэтага мёду і цукру душы! Ад нежанатых асобаў патрабуецца поўная нявіннасць, якая прагоніць з іх сэрцаў усялякую непрыстойную цікавасць і прымусіць іх ненавідзець усялякія нячыстыя задавальненні, якія не вартыя таго, каб іх жадаць чалавеку, яны больш падыходзяць жывёлам. Вораг часта паказвае цялесныя ўцехі ў такім прываблівым выглядзе, што многія, як матылькі, з цікавасцю ляцяць на агонь, які здаецца прыгожым, і часта гінуць. Але ёсць сярод людзей і такія неразважлівыя, якія, ведаючы, што гэта непрыгожа, несумленна, усё ж неразважна імкнуцца да гэтых грубых і неразумных уцехаў. Асобам, якія ў шлюбе, таксама неабходная цнатлівасць, але не як поўнае адмаўленне ад шлюбных адносінаў, а як устрыманне і ўмеркаванасць. Так, шлюб дадзены як сродак супраць распушчанасці, але гэты сродак становіцца небяспечным, калі ім няправільна карыстацца.

Разнастайнасць справаў і абавязкаў часта прыводзіць да працяглай разлукі мужа з жонкай, вось чаму жанатыя людзі маюць патрэбу ў цнатлівасці двух відаў: абсалютнай – у перыяд разлукі, і абмежаванай – у перыяд сумеснага жыцця. Вялікія мукі спасцігаюць душы, якія парушылі святасць шлюбу. "Імкніцеся мець згоду з усімі і святасць, без якой ніхто не ўбачыць Бога", – гаворыць Апостал. Пад святасцю ён разумее тут цнатлівасць. Так, Філатэя, ніхто, не маючы цнатлівасці, не ўбачыць Бога і ніхто, з тых, хто нячысты сэрцам, не будзе ў Валадарстве Нябесным, бессаромныя будуць выгнаныя адтуль. "Блаславёныя чыстыя сэрцам, бо яны ўбачаць Бога".

# Раздзел XIII

## ПАРАДЫ ЯК ЗАХОЎВАЦЬ ЦНАТЛІВАСЦЬ

**Будзь асабліва асцярожная, адварочвайся ад усіх шляхоў, на якіх можна сустрэць легкадумнасць і разбэшчанасць. Гэтыя вады пачынаюцца з малога, дзейнічаюць непрыкметна і прыводзяць да вялікіх няшчасцяў. Лягчэй пазбегнуць іх, чым ад іх пазбавіцца. Чалавечыя целы прыпамінаюць шклянкі, якія нельга несці ўсе разам, таму што яны разаб'юцца адна аб другую, або садавіну, якая патрабуе адпаведнай упакоўкі, таму што можа памяцца і сапсавацца. Нават вада не пры ўсялякіх умовах захоўвае сваю свежасць. Свежая і далікатная кветачка цнатлівасці псуецца і вяне нават ад жартаўлівага або легкадумнага звароту, а нячысты дотык можа яе знішчыць. Цнатлівасць зыходзіць ад сэрца, але яго матэрыяй з'яўляецца цела чалавека, таму, як усе знешнія пачуцці, так і сардэчныя жаданні могуць яе парушыць. Можа яе парушыць і бессаромнасць погляду, слыху, мовы, дотыку, калі сэрца пачынае забаўляцца імі і знаходзіць задавальненне ў такіх справах, аб якіх Апостал Павел гаворыць: "Яны не павінныя нават успамінацца ў вас". Пчолы пазбягаюць усяго, што мае нядобры пах. Так і хрысціянская душа павінна клапаціцца, каб не забрудзіцца. Ёсць такія пачуццёвыя захапленні, якія не знішчаюць цнатлівасці, а паслабляюць яе, робяць бяссільнай і азмрочваюць яе хваробаю. Іншыя захапленні, не толькі пачуццёвыя, але і цялесныя, цяжка раняць цнатлівасць і забіваюць нявіннасць душы, якой зайздросцяць анёлы.**

**Не вадзіся з людзьмі, якім не хапае цнатлівасці,**

асабліва, калі яны яшчэ і нясціплыя. Такія людзі з заражанымі сэрцамі губяць цнатлівасць асобы, як свайго, так і другога полу, з якой яны маюць стасункі. Вадзіся з людзьмі цнатлівымі, дабрадзейнымі, чытай святыя кнігі. Божае слова як тапаз, каштоўны камень, які мае ўласцівасць забіваць усё нячыстае.

Будзь заўсёды каля Укрыжаванага Хрыста, і духоўна – у малітве, і рэальна – у святой Камуніі. Калі сэрца тваё звернутае да Пана – яно ачышчаецца ад усялякага бруду.

# Раздзел XIV

## АБ УБОСТВЕ ДУХАМ СЯРОД БАГАЦЦЯ

"Бласлаўлёныя ўбогія духам, бо іхняе Валадарства Нябеснае". Няшчасны той, чый дух поўніцца прагаю багацця, яго чакае вечнае няшчасце. Марскія птушкі ўюць гнёзды на беразе мора. Яны робяць такія маленькія адтуліны, што вада не заходзіць у іх. Яны жывуць сярод мора, лётаюць над морам і застаюцца гаспадарамі мора. Такім павіннае быць і тваё сэрца - заўсёды адкрытым для неба і непранікальным да багацця. Калі яно ў цябе ёсць - не прыкладай да яго сэрца. Мець атруту і быць атручаным – не адное і тое ж. У аптэках захоўваюцца розныя атруты, але аптэкары не атручаны; атрута ў іх не ў целе, а на паліцы. Няхай багацце будзе ў вашым кашальку або ў вашым доме, але не ў вашым сэрцы. Вялікі дар для хрысціяніна, калі ён багаты, але не прывязаны да маёмасці.

Так, Філатэя, ніхто не лічыць сябе скупым, усялякі скажа, што ён не мае такіх нізкіх пачуццяў, але

ніхто не лічыць, што ў яго ёсць лішкі, заўсёды ёсць патрэба мець яшчэ больш. Нават самыя скупыя людзі не ўсведамляюць гэтага. Скупасць робіцца тым менш адчувальнай, чым яна мацнейшая. Маісей бачыў куст, які гарэў у агні і не згарэў. Агонь скупасці, насупраць, з'ядае скупога, але не пячэ. Яму здаецца, што ў яго ёсць толькі неабходнае, і ён адчувае прахалоду ў той час, калі гарыць у агні. Калі вы жадаеце горача, працягла і прагна тых або другіх дабротаў, дарэмна вы будзеце гаварыць, што яны набытыя сумленна . Той, хто моцна, нясцерпна хоча піць, знаходзіцца ў ліхаманкавым стане, калі б ён і хацеў піць толькі адную ваду. Ці можна сумленна жадаць таго, што па праўдзе належыць другому? Калі ты вельмі прывязаная да сваёй маёмасці, так што з трывогаю баішся яе згубіць, ты знаходзішся ў ліхаманкавым стане, таму што хворыя ліхаманкай п'юць ваду з такой паспешлівасцю і напружаннем, якіх ніколі не сустракаеш у здаровых. Калі ты губляеш маёмасць, і тваё сэрца адчувае моцнае шкадаванне - ведай, што ты была да яе вельмі прывязаная. Нішто не сведчыць так ясна аб прывязанасці, як моцнае засмучэнне пры страце.

Не аддавай сэрца сваёй маёмасці, калі ты яе маеш; не жадай горача таго, чаго ты не атрымала і не адчайвайся пры страце – і ты будзеш мець нейкую падставу лічыць, што ты не прывязаная да свайго багацця і, нягледзячы на тое, што ты сапраўды багатая, будзеш мець надзею быць аднесенай да тых блаславёных, якім належыць Нябеснае Валадарства.

# Раздзел XV

## ЯК ТРЭБА ЗБЕРАГЧЫ САПРАЎДНАЕ ЎБОСТВА ПРЫ ЎЛАДАННІ САПРАЎДНЫМІ БАГАЦЦЯМІ

Я хачу, мілая Філатэя, каб адначасова ў тваім сэрцы жылі і ўбоства, і багацце, і вялікая пагарда да зямных рэчаў, і вялікі клопат аб іх. Больш клапаціся аб тым, каб тваё дабро было карысным і прыносіла плады, чым звычайна клапоцяцца аб гэтым свецкія людзі. Няўжо садоўнікі вялікіх князеў не дбаюць пра хараство садоў, якія ім даручаныя, так, як бы гэтыя сады былі іх асабістымі? Чаму ж? Таму што гэтыя сады належаць князю, якому яны хочуць дагадзіць сваёю працаю.

Мілая Філатэя! Дабро, якое мы маем - не нашае. Бог даў нам яго для таго, каб мы зрабілі яго карысным і пладаносным, і для таго, каб Ён быў задаволены нашай працай.

Свецкія людзі вельмі клапатліва і старанна робяць усё з-за любові да сябе, а мы павінныя рабіць з-за любові да Бога. Любоў да самога сябе моцная, імклівая, нецярплівая, таму і ўся іх праца поўная смутку, непакою, няўпэўненасці. Любоў да Бога лагодная, ціхая і спакойная, і ўсе нашыя справы, хоць яны маюць на ўвазе свецкія рэчы, павінны быць лагоднымі і чыстымі. Будзем жа не толькі клапаціцца аб захаванні нашых зямных даблотаў , але і дбаць аб іх павелічэнні, калі ёсць да таго здольнасць, бо Бог хоча, каб мы рабілі гэта з-за любві да Яго. Але глядзі, каб цябе не падманула самалюбства, таму што яно часта

маскіруецца пад любоў да Бога. Клопаты аб часовых добротах не павінныя пераўтварацца ў скупасць. Аддавай заўсёды ад чыстага сэрца частку сваіх даходаў бедным. Бог верне іх табе не толькі на тым свеце, але яшчэ і на гэтым, таму што нішто так не памнажае дабрабыт, як міласціна. Калі ты будзеш любіць убоства ўбогіх - ты станеш убогай, таму што, як гаворыць Святое Пісанне, мы заўсёды робімся падобнымі да таго, што мы любім. " Хто быў хворы - з кім бы я не хварэў! І хто быў убогі - з кім бы я не быў убогім! " - гаворыць Апостал. Будзь часцей сярод убогіх, любі іх прысутнасць, шчодра дзяліся з імі сваімі даходамі.Будзь бяднейшым за іх; слуга з'яўляецца меншым, чым той, каму ён служыць. Будзь ім слугою, калі трэба будзь і кухаркаю, і прачкаю, і сядзелкаю. Такое служэнне вышэй, чым панаванне. Адзін са святых каралёў, святы Людовік, прыслужваў убогім за сталом, штодзень садзіў з сабой за стол траіх з іх і з'ядаў рэшткі іх ежы.

Калі ён прыходзіў у бальніцу, дык клапаціўся пра хворых, якія пакутавалі ад самых цяжкіх хваробаў, і нават пра тых, якія выклікалі агіду, пракажоных ды іншых. Усё гэта ён рабіў на каленях, з непакрытай галавою, паважаючы ў іх асобе Збавіцеля свету і ставіўся да іх з такой пашанаю, з якой толькі любячая маці можа ставіцца да сваіх дзяцей. Святая Лізавета, дачка венгерскага караля , любіла быць сярод убогіх і нават апранала іх вопратку.

О, дарагая Філатэя, яны былі ўбогімі ў сваім багацці і багатымі ў сваей убогасці! "Блаславёныя ўбогія – ім належыць Нябеснае Валадарства ". "Я быў галодны – і вы накармілі Мяне, я быў голы і вы апранулі Мяне, прыйміце Валадарства, якое Я падрыхтаваў вам ад стварэння свету," – словы Збаўцы.

З кожным здараецца, што ў яго ў нейкі момант няма таго, што яму неабходна, які б ён ні быў багаты; прыймі такія выпадкі ў жыцці ад усяго сэрца, не губляючы спакою.

Калі ты адчуваеш нязручнасці і будзеш у чым-небудзь мець патрэбу, як гэта бывае ў час недароду, пажару, паводкі – пакорна і цярпліва прыстасоўвайся да гэтых нястачаў.

## Раздзел XVI

## ЯК БЫЦЬ БАГАТЫМ СЯРОД УБОСТВА

Але, калі ты сапраўды бедная, Філатэя - пераўтвары сваю беднасць у дабрадзейнасць – больш каштоўную на небе. Будзь цярплівая, ты знаходзішся ў добрым таварыстве: Пан Езус, Божая Маці, Апосталы, мноства святых – усе яны былі бедныя, і нават тыя, што былі багатымі, адмаўляліся ад свайго багацця і ненавідзелі яго. Колькі свецкіх людзей пайшлі ў кляштары шукаць святое ўбоства, нягледзячы на вялікія перашкоды; Святы Аляксей, Святы Павел, Святая Анжэла і многія іншыя. А вось яно да цябе прыйшло само без тваіх намаганняў. Прыймі яго і будзь шчаслівая ў яго таварыстве, бо яно было такім мілым Пану Езусу, які нарадзіўся, жыў і памёр ва ўбостве. Тваё ўбоства, Філатэя, мае дзве вялікія перавагі. Яно прыйшло не па твайму выбару, а па Божай волі. А тое, што прыйшло па Божай волі, заўсёды лепшае, калі мы прыймем яго з чыстым сэрцам і з любоўю. Заўсёды лепшае тое, у чым менш нашага, а больш Божага. Простае і шчырае прыняцце Божае волі робіць нашыя цярпенні асабліва чыстымі. Другая перавага заключаецца ў тым, што гэта – сапраўднае ўбоства, якое

ненавідзяць, не прызнаюць, а не тое, якое ўсе паважаюць і хваляць. Не скардзіся на сваё ўбоства. Скардзяцца толькі на тое, што не падабаецца, а калі ўбоства табе непрыемнае, гэта значыць, што ты не набыла ўбоства духам. Не скардзіся на тое, што табе мала дапамагаюць. Дасканаласць убоства заключаецца ў цярплівасці. Жадаць быць убогім і не хацець звязаных з гэтым невыгодаў – славалюбства, таму што ты жадаеш пашаны ўбогасці і выгод багацця. Не саромейся быць убогаю, прымай міласціну з пакораю і адмову ў ёй з лагоднасцю.

## Раздзел XVII - XXI

### АБ ЛЮБОВІ І СЯБРОЎСТВЕ

Першае месца сярод пачуццяў душы займае любоў. Гэта каралева ўсіх парыванняў нашага сэрца. Яна ўсё накіроўвае да сябе і робіць нас падобнымі да таго, што мы любім. Вось чаму асабліва сцеражыся палюбіць што-небудзь дрэннае – гэта адразу ж зробіць і цябе дрэннай. Сяброўства – самы небяспечны з усіх відаў любові, таму што пры сяброўскіх адносінах чалавек больш за ўсё здольны пераймаць якасці свайго сябра. Не ўсялякая любоў лічыцца сяброўствам, таму што:

1. Можна любіць, калі цябе не любяць. У такіх выпадках любоў ёсць, а сяброўства няма, таму што сяброўства абавязкова павінна быць узаемным, бо без гэтага яно і не будзе сяброўствам.

2. Можна любіць чалавека, які нават не ведае, што ты яго любіш. Але такая любоў не можа быць сяброўствам, таму што сяброўства дапускае ўзаемныя адносіны, якія абавязкова павінны ляжаць у яго

падмурку. Сяброўства можа мець рознабаковы характар, у залежнасці ад характару ўзаемаадносінаў. Узаемаадносіны, у сваю чаргу, будуць розныя, у залежнасці ад таго, на чым яны пабудаваныя. Калі яны будуюцца на марнай і непраўдзівай аснове, дык і сяброўства будзе марным і непраўдзівым. Калі падстава для дружбы шчырая, дык і дружба будзе шчырай. Чым больш дасканалая гэтая падстава, тым больш дасканалае і сяброўства. Таксама, як мёд, сабраны з кветак, якія ўтрымліваюць атруту, робіць чалавека шалёным, так і сяброўства, якое грунтуецца на заганах і няшчырасці, будзе заганным і няшчырым.

Таму ўзаемаадносіны, заснаваныя на пачуццёвых задавальненнях, не могуць прывясці ні да любові, ні да сяброўства і ўласцівыя толькі жывёлам, у той час, як шлюб у чалавека мае на ўвазе вернасць, сардэчную прыхільнасць, агульнасць жыццёвага шляху, таму і дружба ў шлюбе праўдзівая і святая.

Адносіны, заснаваныя на пачуццёвых прыемнасцях, вельмі нізкія і не могуць называцца дружбаю, таксама як і тыя сувязі, якія заснаваныя на марных і легкадумных узаемаадносінах, якія ў сваёй аснове таксама пачуццёвыя.

Я называю пачуццёвымі прыемнасцямі тыя, якія непасрэдна, і пераважна, звязаныя са знешнімі пачуццямі: зрокам, слыхам, дотыкам.

Марнымі дабрадзейнасцямі я называю тыя якасці, якія для людзей слабых духам здаюцца дабрадзейнасцямі і дасканалымі, як напрыклад: уменне добра апранацца, прыгожа танцаваць, здавацца прывабным, забаўляць іншых і так далей. Такія легкадумныя ўзаемаадносіны, хутчэй можна называць часовымі захапленнямі, чым дружбай. Гэтыя віды дружбы кароткачасовыя, яны, як снег, які

хутка растае ад промняў сонца.

Калі падобная легкадумная дружба мае месца паміж асобамі рознага полу, дык яна часцей за ўсё прыймае характар улюбёнасці. Гэтыя адносіны не з'яўляюцца ні дружбаю, ні любоўю, бо яны марныя і недасканалыя. Яны ўяўляюць сабой прывід дружбы. Гэтыя неразумныя і легкадумныя адносіны могуць пераходзіць у цялесныя і распусныя, хоць першапачаткова гэта і не ўваходзіла ў намеры закаханых, і такім чынам падобныя адносіны выяўляюць усю сваю заганнасць. Але можа быць і так, што пройдзе некалькі гадоў і цялесная нявіннасць не будзе парушаная. Аднак сэрца будзе занятае пустымі і шкоднымі пачуццямі, прыхільнасцямі, жаданнямі. Захапляючыся падобнымі рэчамі, чалавек ідзе ўслед толькі за сваімі схільнасцямі ды інстынктамі. Пры першай жа сустрэчы, не імкнучыся зазірнуць глыбей, ён пачынае забаўляцца пачуццямі, сам таго не заўважаючы, заблытваецца ў павуціне, з якой вельмі цяжка выбрацца. Некаторыя проста з-за ганарыстасці імкнуцца заваяваць чыё-небудзь сэрца, і, расстаўляючы сеткі другому, самі ў іх трапляюць. Усе гэтыя віды адносінаў – распусныя, неразумныя і пустыя. Распусныя таму, што яны найчасцей прыкра канчаюцца , бо цялесным грахом адрываюць сэрца ад любові Бога. Неразумныя – бо не маюць ніякіх разумных падставаў. Пустыя – бо не прыносяць ні карысці, ні задавальнення. Насупраць, яны паглынаюць час, адбіраюць пашану, забіраюць спакой і будзяць гарачку марных жаданняў. Усё, што гаворыць у сувязі з гэтым Рыгор Назіанзін, звяртаючыся да жанчыны, адносіцца і да мужчынаў. "Ты расстаўляеш свае сеткі, жадаючы спадабацца. Спачатку гэта абмен поглядамі, абмен словамі, якія

нічога не значаць. Але язык мой баіцца сказаць, што адбываецца ў выніку! Цацкі пераўтвараюцца ў жалезныя ланцугі, якія губяць абоіх."

Калі ты думаеш, што той агонь, які ты хочаш для забаўкі запаліць у сэрцы другога, не апячэ цябе – ты памыляешся. Ёсць такая трава, якая загараецца ад подыху агню. Агонь пачуццяў пранікае далей, і больш актыўна, чым ты думаеш.

Табе здаецца, што ты запаліла толькі іскру, але яна незаўважна разгарыцца ў тваім сэрцы, ператворыць у попел усе твае добрыя імкненні і намеры і ператворыць у дым тваё добрае імя.

Мудрэц усклікаў: "Што скажаце вы аб дрэсіроўшчыку, якога ўджаліла змяя?" І я гавару вам: "Неразумныя, вы думалі пагуляць пачуццямі па свайму меркаванню, але яны жорстка ўджаляць вас. Вы неразумна хацелі ўтаймаваць змяю, якая прымусіць вас загубіць душу і гонар!" О, Божа, якое асляпленне так легкадумна пераўтвараць у гульню самую высакародную ўласцівасць нашай душы, яе галоўную каштоўнасць – здольнасць любіць! Мы павінныя захоўваць яе для Бога, а мы, няшчасныя, разменьваем яе на марныя і пустыя задумы. Як адкажам мы перад Богам за гэтую растрату пачуцця, якое мы павінныя аддаць Богу за тое, што Ён стварыў, захаваў і адкупіў нас! Як адкажам мы за гэтую пустую, неразумную і распусную гульню перад Богам! Арэхавае дрэва шкодзіць палям і вінаграднікам, сярод якіх яно бярэ ўсе сокі з зямлі, і яна не мае больш сілы харчаваць астатнія расліны. Яго лістота вельмі густая і ўтварае глыбокі цень. Гэты цень вабіць путніка і, імкнучыся да яе, ён топча ўсё вакол. Такую ж шкоду прыносяць душы і падобныя любоўныя адносіны. Яны незаўважна выпіваюць усе сокі душы, і яна аказваецца

ўжо няздольнай ні да якой другой справы. Лісты гэтага дрэва, гэта значыць: сустрэчы, гутаркі, забавы і заляцанні – адбіраюць увесь вольны час і заключаюць у сабе столькі спакусаў, што сэрца спустошваецца. Карацей кажучы, гэтыя пачуццёвыя адносіны не толькі выцясняюць нябесную любоў, але і Божы страх, аслабляюць дух. Тое, што здавалася цацкаю, аказваецца чумою для нашага сэрца. Любі ўсіх хрысціянскай любоўю, але не заводзь дружбы з тымі, з кім ты не маеш маральнай падставы для адносінаў.

Калі цябе злучае з сябрамі цікавасць да навукі – гэта добра. Калі вас злучаюць ідэі справядлівасці або другія дабрадзейнасці - гэта пачэсна. Але якая ж каштоўная дружба, у аснове якой імкненне да пабожнасці і хрысціянскай дакладнасці! Яна прыгожая таму, што ідзе ад Бога, вядзе да Бога, звязвае з Богам, таму што яна ў Богу і будзе жыць вечна. Як прыгожа любіць на зямлі нябеснай любоўю і пачаць тут тыя ўзаемаадносіны, якія будуць працягвацца ў вечнасці. Тут я гавару не аб любові – міласэрнасці, якую трэба мець у адносінах да ўсіх людзей, а аб духоўнай дружбе, якая звязвае дзве або некалькі душаў. Дзівосны водар рэлігійнасці як бы пераліваецца з адной душы ў другую, і Бог благаслаўляе такую дружбу на векі вечныя. Мне ўяўляецца, што ўсе другія віды дружбы толькі цень гэтай дружбы, што іх звязваюць шкляныя ніткі, у той час як праўдзівая дружба злучаная залатым ланцугом рэлігійнасці. Не выбірай сабе другіх відаў дружбы. Некаторыя гавораць, што індывідуальная дружба для духоўнага жыцця лішняя, нават шкодная. Гэта можа быць праўдзіва для жыцця ў вельмі добра кіруемых кляштарах. Для людзей, якія жывуць у свеце, духоўная дружба з'яўляецца вельмі вялікай падтрымкаю: яны

дапамагаюць адзін другому .

Калі ідзеш па шырокай паляне – няма неабходнасці трымацца за рукі, але, калі людзі прабіраюцца па вузкай горнай сцежцы, выкарыстоўваецца звязка, каб хто-небудзь не зваліўся ў прорву.

У кляштары можна і не мець асабістых сяброў, бо там усіх сабрала адна мэта – жаданне дасканаласці. Але ў свеце гэта неабходна для таго, каб адчуваць сябе больш упэўнена і дапамагаць адзін аднаму пры цяжкіх пераходах, якія так часта сустракаюцца. У свеце не ўсе маюць адзін дух, не ўсе імкнуцца да адной мэты. Таму даводзіцца трымацца ў баку ад натоўпу і выбіраць сабе сяброў. Гэты выбар неабходны, гэта аддзяленне дабра ад зла, авечак ад казлоў. Святое Пісанне ўказвае на тое, што сам Пан Езус меў асаблівую дружбу з Апосталам Янам, Лазарам, Марфай, Марыяй-Магдаленай. Апостал Пётр быў звязаны сяброўскімі адносінамі са святым Маркам і святой Петранілай, Апостал Павел з Цімафеем і святой Феклай, святы Рыгор Назіанзін сто разоў прыпамінае аб сваёй выключнай дружбе з Васілём Вялікім, расказваючы аб ёй у наступных словах: "Здавалася, што ў двух целах жыла адная душа. У нас было адно імкненне падрыхтаваць сябе яшчэ тут, на зямлі, да будучага нябеснага жыцця". Благаславёны Аўгустын піша, што святы Амброс Медыяланскі любіў святую Моніку за тыя рэдкія дабрадзейнасці, якія ён знаходзіў у ёй, а яна бачыла ў ім Божага анёла . Многія святыя высока цанілі дружбу. Справа не ў тым, каб мець сяброў, але ў тым, каб дружба была святою і чыстаю. Але, Філатэя, я павінен цябе перасцерагчы. Мёд, які мае атрутныя якасці, падобны на той, які мае якасці гаючыя. Вялікая небяспека заключаецца ў тым, калі злучыць адно з

другім. Добрыя якасці аднаго не знішчаюць атруты другога. Трэба быць вельмі асцярожным, каб не ашукацца, асабліва тады, калі размова ідзе аб сяброўстве асобаў рознага полу, таму што вораг нашага збаўлення стараецца нас ашукаць. Пачатак такога сяброўства можа быць дабрадзейны. Калі ж чалавек недастаткова абачлівы, да яго далучаецца легкадумнасць, затым пачуццёвасць і далей – грэх. Так ты зможаш адрозніць духоўную і святую любоў ад свецкай любові , як атручаны мёд ад мёду сапраўднага.

Калі ты возьмеш яго на язык, дык ён саладзейшы за ўсялякі іншы мёд, дзякуючы аканіту, які надае яму дадатковую слодыч. Такая ж і свецкая дружба, падсаладжаная салодкімі, чуллівымі слоўкамі, усхваляючымі прыгажосць ды іншыя пачуццёвыя ўласцівасці сябра. Святая дружба мае мову простую і ясную. Яна хваліць толькі дабрадзейнасць, праслаўляе і Божы дар, на якім яна заснаваная.

Але, калі праглынеш атрутны мёд, дык адчуваеш галавакружэнне, а непраўдзівая дружба выклікае зацямненне розуму, якое расхіствае цнатлівасць і рэлігійнасць, вядзе да бессаромных поглядаў, пачуццёвых ласкаў ды іншых фамільярнасцяў, за якімі неміnуча ідзе падзенне. Святая дружба мае ясны погляд – яна звернутая да Бога. Атрутны мёд зацямняе зрок, свецкая дружба – здаровы розум, так што чалавеку здаецца, што ён робіць добра, у той час як ён робіць дрэнна, і ён прыводзіць розныя прычыны, каб апраўдаць свае ўчынкі. Свецкая дружба баіцца свету і любіць змрок. Святая любоў не хаваецца ад погляду добрых людзей.

Нарэшце, атрутны мёд пакідае ў роце моцную горыч, і непраўдзівая дружба выдае сябе ў бессаромных

патрабаваннях, у агідных словах, а затым ідуць дакоры, знявагі, паклёпы, помста, рэўнасць і духоўны заняпад, які часам вядзе амаль да шаленства. Чыстая дружба заўсёды роўная і добразычлівая, і з яе ўзнікае толькі яшчэ больш чыстае і дасканалае яднанне душаў, якое з'яўляецца правобразам той дружбы, якая будзе на нябёсах. Святы Рыгор Назіанзін гаворыць, што паўліны прыцягваюць самак сваім крыкам. Таксама і мужчына, які прыхарошваецца, гаворыць кампліменты, шэпча і ліслівіць перад жанчынаю або дзяўчынаю, мае нячыстыя намеры. Сумленная жанчына затыкае вушы, каб не чуць гэтага паўліна і захаваць у чысціні сваё сэрца. Маладыя людзі, якія ў сваіх паводзінах, позірках і словах дазваляюць штонебудзь такое, чаго б яны не зрабілі ў прысутнасці другіх людзей – робяць гэта супраць свайго сумлення. Якія ж ёсць сродкі супрацьстаяць гэтаму фальшываму сяброўству, какецтву і заляцанням? Як толькі ў цябе з'явіцца насцярога– адвярніся ад гэтай небяспечнай забавы ў пачуцці з агідаю, бяжы да Крыжа Збавіцеля, вазьмі Яго цярновы вянок і абкружы ім сваё сэрца, каб вораг не мог да яго наблізіцца. Не ідзі ні на якія кампрамісы з ворагам, не гавары: "Я выслухаю, што ён скажа, але не буду выконваць. Словы дакрануцца толькі да маіх вушэй, але не дакрануцца да майго сэрца".

О, дзеля Бога, будзь суровая ў гэтых выпадках. Вушы і сэрца звязаныя паміж сабой, і як нельга прадухіліць грымотаў грому, які чуецца ўслед за маланкаю, так цяжка перашкодзіць словам заляцанняў: патрапіўшы ў вушы, яны пранікнуць і ў сэрца.

Алкмеон гаварыў, што авечкі дыхаюць вушамі, а не носам. Праўда, Арыстоцель пярэчыў гэтаму. Хто з

іх мае рацыю, не так важна. Але з'яўляецца фактам, што сэрца нашае дыхае вушамі, удыхае праз іх думкі другіх і выдыхае свае асабістыя пры дапамозе языка. Будзем ахоўваць свае вушы ад шэпту заляцанняў, інакш мы заразім сваё сэрца. У гэтых выпадках не трэба баяцца быць недалікатным або нявыхаваным. Успомні, што ты даверыла сваё сэрца Богу і Яму прысвяціла сваю любоў, і было б святатацтвам забраць ад яго хоць бы адну кропельку яе. Пакліч Бога, і Ён дапаможа табе. Але што рабіць, калі ты ўжо трапіла ў сеткі гульні ў пачуцці? О Божа, якое цяжкае тваё становішча! Выспавядай перад Ім тваю нікчэмнасць і слабасць, а затым адкінь гэтыя сеткі, адмаўляйся ад дрэнных абяцанняў і прызнанняў, спыні сваё сэрца і прыймі цвёрдае рашэнне: ніколі больш не вяртацца да гульні ў пачуцці. Пастарайся зусім адыйсці ад прадмету тваёй прыхільнасці.

Чалавек не можа вылечыцца, знаходзячыся разам з тым, хто працягвае наносіць яму тыя ж раны. Святы Амброс апісвае маладога чалавека, які надоўга разыйшоўся з прадметам сваёй прыхільнасці, і, калі пры сустрэчы ён пачуў зварот: "Хіба ты мяне не пазнаеш, я ўсё тая ж", адказаў: "Гэта так, але я ўжо не той". Але што рабіць таму, хто не можа аддаліцца? Перастаць патаемна сустракацца, выключыць позіркі і ўздыхі, усё тое, што можа хоць колькі-небудзь карміць незатушаны агонь. А калі неабходна тлумачэнне – проста і сурова скажы аб неабходнасці разлучыцца назаўжды. Усім, хто папаў у гэтыя любоўныя сеткі, я гавару: "Рві і ўцякай!" Не займайся тым, каб распорваць ніткі – парві іх, не развязвай вузлоў – рэж іх, ніякія сувязі і абавязкі не могуць тут мець месца. Не заслугоўвае пашаны любоў, якая не шануе Божае любові. Аднак, пасля таго, як ты парвеш

гэтыя ланцугі рабства, дык ў цябе застануцца яшчэ сляды ад кайданоў, гэта значыць, сляды на пачуццях. Але, калі ў цябе будзе дастаткова нянавісці да ганебнага кахання, якое ты пакінула, – нічога злога не застанецца ні ў табе, ні на табе. А асобу тую давер Божай міласэрнасці. Але, калі ў выніку недахопу пакаяння, у цябе засталіся яшчэ некаторыя дрэнныя схільнасці, дай душы адасабленне, адыйдзі ад сустрэчы і забаў. Спавядайся і прыймай Святую Камунію часцей, чым звычайна, расказвай аб усіх спакусах, якія засталіся, на споведзі, чытай духоўныя кнігі. Будзь моцная і не сумнявайся ў тым, што Бог дапаможа табе вызваліцца ад забароненых пачуццяў. Ты запярэчыш мне: "А ці не будзе гэта няўдзячнасцю – так бязлітасна разарваць адносіны з чалавекам, які быў табе блізкі?" Блаславёная няўдзячнасць, якая вяртае цябе да Бога! Калі ты робіш гэта для Бога, дык аказваеш не няўдзячнасць, а вялікае дабрадзейства таму чалавеку, таму што разарваўшы свае ланцугі, ты адначасова разрываеш і яго путы, і хоць цяпер ён адчувае сябе няшчасным, у выніку ён зразумее, што гэта было шчасцем і таксама, як і ты, будзе дзякаваць Богу: "О, Пане, Ты разарваў ланцугі мае. Табе прынясу ахвяру хвалы, і імя Тваё буду клікаць".

## Раздзел XXII

### ЯШЧЭ ПРА СЯБРОЎСТВА

Дружба патрабуе цеснай сувязі паміж сябрамі, без гэтага яна не можа ні ўзнікнуць, ні існаваць. Часта бывае, што разам з сяброўскімі пачуццямі ў нашае сэрца трапляюць уражанні, захапленні і погляды нашага сябра. І калі мы асабліва паважаем таго, каго любім,

непрыкметна мы пераймаем яго густы і схільнасці, не адрозніваючы, добрыя яны ці дрэнныя. Пчолы шукаюць мёду, але, калі ім трапляецца атрутны мёд , яны непрыкметна засвойваюць яго атруту. У старажытнасці гаварылі: "Будзьце добрымі мяняльшчыкамі і манетчыкамі". Гэта азначае: "Не прыймай фальшывай манеты разам з добрай, адрознівай падробку ад арыгінала". Трэба любіць сябра, нягледзячы на яго недахопы. Часта адбываецца так, што людзі пераймаюць ад сваіх бацькоў, мужоў, жонак, сяброў не толькі добрае, але і дрэннае.

У кожнага дастаткова сваіх недахопаў, навошта пераймаць іх у другіх? Трэба дапамагаць адзін аднаму ад іх вызваляцца і падтрымліваць адзін аднаго. Іншыя справа – грахі. Іх нельга цярпець а ні ў сабе, а ні ў сябрах. Кепскае тое сяброўства, калі сябар зачыняе вочы на грэх сябра і не дапамагае яму выправіцца, не робіць яму заўвагі. Грэх забівае сяброўства, бо яно засноўваецца на дабрадзейнасці. Калі сябар хоча ўвесці нас у грэх – ён становіцца нашым ворагам. Калі мы сябруем з чалавекам, які жыве з грэшнымі звычкамі і не хоча змяніцца на лепшае – нашая дружба ганебная. Мудрэц сказаў: "Тыя, хто баяцца Бога, шукаюць добрага сяброўства". І святы Якуб сказаў: "Сяброўства з гэтым (грэшным) светам з'яўляецца ворагам Божым".

# Раздзел XXIII

## АБ ЗНЕШНІХ ПОДЗВІГАХ

Існуе легенда пра тое, што, калі напісаць якое-небудзь слова і палажыць яго ў арэшак міндаля, склаўшы запіску пэўным чынам, дык вырасце дрэва,

на ўсіх пладах якога выявіцца выгравіраваным тое ж слова. Я не прыхільнік той думкі, што, калі ты хочаш перавыхаваць чалавека, дык трэба пачынаць са знешняга: з прычоскі, з вопраткі, са звычак. Мне здаецца, наадварот, трэба пачынаць з унутранага. "Дай мне тваё сэрца", – гаворыць Пан Бог. "Прыкладзі мяне як пячатку да сэрца твайго". Сэрца – крыніца нашых учынкаў. Той, у каго Хрыстус у сэрцы, – будзе суадносна накіроўваць і свае знешнія ўчынкі. Таму імя Езуса Хрыста я б хацеў перш за ўсё напісаць і выгравіраваць у тваім сэрцы. І тады я буду ўпэўнены, што тваё жыцце, зерне якога ў сэрцы, як зерне міндальнага дрэва ў арэшку, прынясе плады, на якіх будзе пячатка таго ж выратавальнага імя. І таму, што Хрыстус будзе жыць у тваім сэрцы – гэта будзе ўплываць на ўсе твае паводзіны, на твае вочы, на твае рукі, на твае губы і нават на тваю прычоску. Па словах Апостала Паўла: "Не я ўжо жыву, а ўва мне Хрыстус". Карацей кажучы, хто заваяваў сэрца чалавека - заваяваў усяго чалавека. Але трэба павучыць гэта сэрца, як яно павінна фармаваць сваё знешняе жыццё, каб яно кіравала ім, і ў ім адлюстроўвалася б не толькі пабожнасць, але і вялікая мудрасць і сціпласць.

Вось у сувязі з гэтым я і хачу даць табе некалькі парадаў. Пост мае важнае значэнне: ён утаймоўвае цела, уздымае дух, аблягчае практыкаванне дабрадзейнасці. Вораг больш баіцца цябе, калі ведае, што ты захоўваеш пост. Старайся асабліва пасціць у сераду і пятніцу. Але пост не павінен быць празмерным. Мы паддаемся спакусам і тады, калі мы атрымліваем вельмі многа, і тады, калі атрымліваем вельмі мала ежы. Празмерны пост можа зрабіць чалавека няздольным да добрых учынкаў. Трэба суразмерваць пост з сіламі і з працаю, якую выконвае

чалавек. I пост і праца ўтаймоўваюць цела. Калі трэба было б выбіраць, дык трэба выбраць карысную працу на хвалу Божую. Касцёл вызваляе ад посту ў тых выпадках, калі гэта трэба для спраў, якія служаць Богу або бліжнім. Адзін працуе сваім постам, другі – прыслужваючы хворым, трэці – доўгаю малітваю, слухаючы споведзь, пераказваючы Божае Слова. Трэба берагчы цялесныя сілы для карыснае працы, таму што аслабіць іх можна заўсёды, калі гэта трэба, але ўзнавіць не так лёгка. "Ешце ўсё, што вам дадуць", – гаворыць Пан Езус. Не будзем выбіраць ежу і звяртаць на яе залішнюю ўвагу. Лепш быць заўсёды разумна памяркоўным, чым часамі празмерна суровым, а ў іншы час і неўмеркаваным.
Ноччу трэба спаць кожнаму, суадносна яго здароўю, столькі, каб ён мог адчуваць сябе добра днём. I таму Святое Пісанне, прыклады Святых і развяжнае меркаванне ўказваюць на раніцу, як на найбольш плённую частку сутак, і сам Пан Бог называецца Узыходзячым Сонцам, а Божая Маці – ранішняй Зоркаю – я лічу, што лепш за ўсё класціся спаць раней, каб і ўставаць раней. Гэты час самы прыгожы, ціхі і светлы. У гэты час прачынаюцца птушкі і спяваюць хвалу Богу. Уставаць рана трэба і для здароўя, і для духоўнай дасканаласці.

Валаам ехаў вярхом на асліцы шукаць Валаака, але таму што намер яго быў нядобры, анёл чакаў яго на дарозе з мячом, каб забіць яго. Убачыўшы анёла, асліца тры разы прыпынялася. Валаам жорстка біў яе кіем, каб прымусіць ісці далей, але на трэці раз яна ўпала, і дзівосным чынам загаварыла людскім голасам: "Што я табе зрабіла, што ты мяне б'еш вось ужо трэці раз?" Тады вочы Валаама адкрыліся, і ён убачыў анёла, які сказаў яму: "За што ты біў асліцу?

Калі б яна не павярнулася ўбок ад мяне, дык я забіў бы цябе, а яе пакінуў бы жывой". І тады Валаам сказаў анёлу: "Саграшыў я, таму што я не ведаў, што ты стаіш перада мною на дарозе". Бачыш, асліца не вінаватая, а ва ўсім вінаваты Валаам. Так бывае і з намі. Вось чалавек, які схільны да цялеснае раскошы, адчувае мукі сумлення і абурана ўсклікае: "Няшчаснае цела! Ты мяне даводзіш да граху!" Калі б яго цела магло загаварыць, як Валаамава асліца, дык яно сказала бы: "За што ты крыўдзіш мяне, неразумны, гэта ж ты сам вінаваты! Навошта ты выкарыстоўваеш свае вочы, вушы, рукі і ногі для дрэнных спраў? Навошта ты накіраваў мяне да дрэннага сяброўства і дрэннымі думкамі ўзбуджаў мяне да злога ? Калі будуць у цябе добрыя думкі – і ў мяне не будзе дрэнных дзеянняў. Гэта ты кідаеш мяне ў агонь і хочаш, каб я не гарэла". Для таго, каб вылечыць сябе ад заганаў, трэба ўтаймоўваць сваё цела, але перш за ўсё трэба ачысціць сваё сэрца і свае пачуцці. І ніколі не трэба задаваць сабе асаблівых аскетычных практыкаванняў, не параіўшыся са сваім духоўным кіраўніком.

## Раздзел XXIV

### АБ ГУТАРКАХ І АДАСАБЛЕННІ

Шукаць гутарак і пазбягаць іх – гэта дзве крайнасці пры рэлігійным жыцці ў свеце, аб якім ідзе размова. Калі пазбягаюць размоваў – гэта здаецца няўвагаю і пагардаю да бліжняга, а шуканне іх з'яўляецца лянотаю і тратай часу. Трэба любіць бліжняга як самога сябе. Каб праявіць любоў да бліжняга – не трэба пазбягаць яго, а для таго, каб любіць самога сябе – трэба заставацца аднаму. "Думай

пра ўдасканаленне сябе, а потым ужо аб другіх", – гаворыць святы Бернард. Калі ў цябе няма неабходнасці сустракацца і весці гутаркі – заставайся адна і размаўляй са сваім сэрцам. Але, калі ёсць неабходнасць у гутарцы – наведай і сустрэнь свайго бліжняга ад усяго сэрца. Дрэнныя тыя размовы, у якіх ёсць дрэнныя намеры, або калі іх праводзяць нясціплыя і дрэнныя людзі. Трэба адварочвацца ад іх, як пчолы адварочваюцца ад сляпнёў і шэршняў. Таксама, як у тых, каго ўкусіў шалёны сабака, пот, дыханне і сліна заражаныя, так і тыя, хто сустракаецца з дрэннымі і распушчанымі людзьмі, забруджваюць сваю душу, што з'яўляецца асабліва небяспечным для дзяцей і слабых людзей. Бываюць размовы, якія патрэбныя толькі для адпачынку пасля сур'ёзных заняткаў – на іх можна дазволіць, але не злоўжываючы часам. Некаторыя гутаркі маюць на мэце аказанне павагі бліжняму – не трэба пагарджаць імі, але не трэба да іх і прывязвацца. Карысныя гутаркі з рэлігійнымі і дабрадзейнымі людзьмі . У іх трэба ўдзельнічаць як мага часцей.

Вінаград, які пляцецца па аліўкавых дрэвах, мае поўныя і празрыстыя ягады, так і душа, якая часта знаходзіцца сярод дабрадзейных людзей, набывае іх уласцівасці. Трутні самі не здабываюць мёд, але яны патрэбныя пчолам, каб быў зроблены мёд. Для рэлігійных спраў важна, каб мы мелі зносіны з рэлігійнымі душамі. Ва ўсялякай размове трэба аддаваць перавагу прастаце, лагоднасці і сціпласці. Людзі, якія не хочуць быць сабой, якія выконваюць усё штучна, змушана, якія лічаць кожны крок, выспеўваюць кожнае слоўка – вельмі нудныя ў размове. У гутарцы павінна пераважаць памяркоўная весялосць. Святы Рамуальд і святы Антоні асабліва

славіліся тым, што пры ўсёй суровасці свайго жыцця, іх твар і іх словы былі мілымі, радаснымі і ветлівымі. Радуйся з тымі, хто радуецца, яшчэ раз скажу табе разам з Апосталам. Заўсёды радуйся ў Пану Богу і няхай сціпласць твая будзе вядомая ўсім людзям. Для гэтага трэба, каб прадмет тваёй радасці заўсёды быў дапушчальны і прыстойны. Устрымлівайся ад жартаў, якія могуць укалоць або абразіць каго-небудзь.

Я ўжо гаварыў, што ў час любых размоў можаш унутрана заставацца ў адасабленні. Можна любіць адасабленне, не ідучы ў пустыню, як Марыя Егіпецкая, Святы Антоній, Арсень і іншыя пустэльнікі, а можаш на нейкі час адасобіцца ў сябе ў пакоі ці ў садзе і даць адпачынак сваёй душы шляхам добрых разважанняў, святых думак або добрага чытання, па прыкладу вялікага біскупа Назіанзінскага, які гаварыў: "Я прагульваўся адзін на заходзе сонца або праводзіў час на беразе мора. Гэта давала мне магчымасць адпачыць ад паўсядзённых заняткаў". Святы Амброс праводзіў за кнігай у цішыні свой час, які заставаўся ў яго пасля ўсіх клопатаў і заняткаў. Таксама, калі Апосталы расказвалі Пану Езусу, колькі яны зрабілі і як прапаведавалі, Ён сказаў ім: "Ідзіце вы адныя ў пустэльню і крыху адпачніце".

## Раздзел XXV

## АБ АДЗЕННІ

Апостал Павел хоча, каб рэлігійныя жанчыны (тое ж адносіцца і да мужчынаў) мелі прыстойную вопратку і ўвасаблялі сабою цнатлівасць, сціпласць і памяркоўнасць. Прыстойнасць і сціпласць адзення ды

іншых упрыгожанняў залежыць ад матэрыі, формы і чысціні. Чысціня неабходная заўсёды. Мы не павінныя дапускаць, каб нашае адзенне было забруджаным. Знешняя акуратнасць павінна суадносіцца з акуратнасцю ўнутранаю. Бог патрабуе чысціні цела ад тых, хто набліжаецца да Яго Алтара і клапоціцца аб рэлігійнасці. Што ж датычыцца матэрыі і формы адзення - яна ў значнай ступені залежыць ад часу, узросту, займаемай пасады ў грамадстве, ад роду ўрачыстасці, у якой прыймаеш удзел. У святы звычайна апранаюцца лепей, каб адзначыць гэты дзень, у дні посту і пакаяння носяць адпаведную вопратку, на вяселлях носяць вясельнае адзенне, а на пахаваннях – жалобнае. Замужнія жанчыны прыбіраюцца, каб зрабіць прыемнае свайму мужу, дзяўчаты - каб спадабацца тым, з ліку якіх яны могуць спадзявацца мець мужа. Тваё адзенне не павінна быць непрыемным тым, хто цябе акружае, але трэба пазбягаць славалюбства, перабольшвання, дзівацтва, легкадумнасці. Прастата і сціпласць – лепшае ўпрыгожанне для прыгожых і для непрыгожых. Мужчыны, якія ўпрыгожваюцца, здаюцца падобнымі на жанчынаў, а жанчыны, якія многа клапоцяцца аб упрыгожаннях, здаюцца пустымі і нясціплымі. Яны апраўдваюцца тым, што не маюць пры гэтым дрэнных намераў, але дрэнныя намеры заўсёды мае злы дух. Я хацеў бы, каб асоба рэлігійная была апранутая добра, проста і сціпла.

# Раздзел XXVI

## АБ СПОСАБЕ ГУТАРКІ І АБ ТЫМ, ЯК ТРЭБА ГАВАРЫЦЬ ПРА БОГА

Дактары, гледзячы на язык хворага, робяць заключэнне аб яго здароўі. І нашыя словы раскрываюць якасць нашай душы. "Са слоў сваіх апраўдаешся і са слоў сваіх будзеш асуджаны", – сказаў Збавіцель. Калі ты любіш Бога, гавары аб ім часцей з хатнімі, з сябрамі і з суседзямі. "Вусны справядлівага будуць выяўляць мудрасць, а язык яго будзе расказваць справядлівасць", – гаворыць аўтар псальма. І як пчолы пераносяць на сваім языку толькі мёд, так і наш язык няхай заўсёды хваліць Бога. Гавары аб Ім з любоўю, лагоднасцю і пакораю то аднаму, то другому, молячыся ў гэты час у сэрцы да Бога. Ён зробіць так, што тваё слова, як раса, упадзе ў сэрца тых, хто цябе слухае. Ты не павінна "чытаць маралі" і крычаць, гавары з натхненнем, і твае словы ўзрушаць сэрцы. Не гавары пра Бога як бы між іншым, гавары пра Яго з увагаю і рэлігійнасцю, выключыўшы ўсялякае славалюбства; не будзь падобная на таго, хто раскідае направа і налева святыя словы, не абуджаючы даверу ў таго, хто слухае.

# Раздзел XXVII

## АБ ДОБРАСУМЛЕННАСЦІ Ў РАЗМОВЕ І АБ ПАВАЗЕ ДА ЛЮДЗЕЙ

"Хто не абразіць словам – той дасканалы чалавек", – гаворыць апостал Якуб. Сцеражыся, каб не выпусціць нядобрае слова са сваіх вуснаў. Можа быць ты не мела пры гэтым благога намеру, але тыя, хто цябе слухалі, маглі ўспрыняць гэта інакш. Дрэннае слова, якое трапляе ў слабое сэрца, расцякаецца там, як капля алею на тканіне, і бывае, напаўняе душу мноствам думак і спакушэнняў.

Фізічная атрута ўваходзіць у цела праз рот, а сардэчная праз вушы; язык, які з'яўляецца яе прычынаю, нагадвае забойцу. Добра, калі атрута трапіла ў сэрца, якое мае проціяддзе. Дарэмна мы апраўдваем сябе, што не маем дрэнных намераў, выказваючыся неабачліва. Пан Езус сказаў: "Ад паўнаты сэрца гавораць вусны". Калі мы не думалі пра дрэннае – аб ім думаў злы дух. Ён заўсёды карыстаецца кінутымі дрэннымі словамі, каб параніць чыё-небудзь сэрца. Тыя, хто маюць чыстае і нявіннае сэрца - не вымаўляюць нясціплых слоў.

Апостал сказаў: "Няхай сярод вас нават не называюцца нясціплыя і неразумныя рэчы, таму што нішто так не псуе добрыя звычкі, як дрэнныя гутаркі. Калі гэтыя словы вымаўляюцца двухсэнсоўна, як жарт – яны становяцца яшчэ больш атрутнымі, глыбей уваходзяць у сэрца, як завостраны кінжал. Тыя, хто ўжывае такія словы ў размове, нагадваюць восаў, якія збіраюцца не для таго, каб выпрацоўваць мёд, а для

таго, каб смактаць гніль. Калі ты пачуеш што-небудзь такое, адвярніся ад таго, хто гаворыць, або іншым чынам пакажы яму, што ты не задаволеная.

Адной з вялікіх заганаў з'яўляецца насмешлівасць. Бог ненавідзіць гэтую загану. Нішто так не супярэчыць хрысціянскай любові, а тым больш рэлігійнасці, як пагарда да бліжняга. А насмешка і высмейванне ніколі не абыходзіцца без пагарды. Вось чаму гэта вялікі грэх. Насмешка - самы горшы від знявагі, таму што заключае ў сабе пагарду. Што ж датычыцца сціплага гумару, або гульні слоў, якая ў грэкаў называлася вясёлаю гутаркай, – яна прыносіць сумленную і прыемную пацеху, замяняючы разам з тым легкадумныя гутаркі. Трэба сцерагчыся, каб не перайсці ад весялосці да насмешкі. Насмешка выклікае пагардлівы смех, а вясёлы жарт звязаны з даверам, прастатою і ветлівасцю.

Святы Людвік гаварыў, што пасля абеду можна пажартаваць і пасмяяцца. Будзем так праводзіць свой вольны час, каб захаваць рэлігійнасць.

## Раздзел XXVIII

## АБ АСУДЖЭННІ ДРУГІХ

"Не судзіце і не будзеце судзімыя, не асуджайце і не будзеце асуджаныя", – словы Збаўцы.

Апостал Павел сказаў: "Не судзіце наперад часу, пакуль не прыйдзе Пан і не выявіць сардэчныя намеры кожнага". Бог не любіць, калі людзі асуджаюць адзін другога. Корань чалавечага граху знаходзіцца ў сардэчных намерах, а яны нам невядомыя. Хопіць для кожнага судзіць самога сябе, а не бліжняга. Апостал сказаў: "Калі мы судзілі бы самі

сябе, дык не былі б судзімымі". Але мы робім зваротнае: мы не пакідаем рабіць тое, што нам забаронена, гэта значыць, судзіць бліжняга, але ніколі не робім таго, што мы павінныя рабіць, – не судзім саміх сябе.

Ёсць людзі, якія судзяць сваіх бліжніх. Калі гэта рыса песімістычнага характару, які ўсё бачыць у чорным святле - яе трэба перамагаць пры дапамозе духоўнага кіраўніка. Яна небяспечная, таму што напаўняе душу асуджэннем і зласлоўем.

Ёсць людзі, якія лічаць, што, прыніжаючы іншых, яны ўзвышаюць сябе. Гэтыя людзі высока ставяць сябе і таму ўсё іншае выдаецца ім малым і непрыкметным. "Я не такі як іншыя людзі", – гаварыў Фарысей. Гэтыя людзі як бы атрымліваюць задавальненне, разглядаючы чужыя грахі для таго, каб цешыцца свядомасцю сваёй перавагі. Яны самі могуць гэтага не заўважаць, пакуль нехта не зверне на гэта іх увагу. Другія, каб аблегчыць мукі свайго сумлення, з ахвотаю выстаўляюць грахі іншых, як бы ад гэтага іх грэх зробіцца меншым. Некаторыя дзёрзка асуджаюць толькі ад задавальнення аналізаваць і даследаваць звычкі і схільнасці, як бы для разумовага практыкавання. Калі іх асуджэнні аказваюцца правільнымі – іх дзёрзкасць расце, так, што ім ужо цяжка стрымацца.

Іншыя судзяць прадузята, гэта значыць, гавораць заўсёды добрае аб тых, каго яны любяць, і толькі дрэннае аб тых, каго яны не любяць. Своеасаблівы, аднак праўдзівы выпадак, калі любоў бывае прычынаю дрэнных меркаванняў аб тых, каго любяць. Гэтыя меркаванні вынікаюць з нячыстай, недасканалай любові, неспакойнай і хворай з-за рэўнасці, якая, як вядома, за адзін погляд або ўсмешку

гатовая абвінаваціць у падступнасці і здрадзе. Нарэшце, страх, славалюбства ды іншыя слабасці душы вельмі садзейнічаюць узнікненню падазронасці і асуджэння. Якія ж ёсць супраць яго сродкі? Тыя, хто п'юць сок адной атрутнае травы, паўсюдна бачаць змей і пудзілаў. Тыя, хто апантаныя ганарлівасцю, зайздрасцю, славалюбствам, нянавісцю – паўсюль бачаць злое і ўсё ганяць. Першыя могуць вылечыцца, ужываючы пальмавае віно, а другім я кажу: "Піце як мага часцей святое віно хрысціянскае любові – яно вас вылечыць ад дрэнных настрояў, якія прымушаюць выказваць няправільныя суджэнні. Любоў пазбягае зла, не шукае яго і закрывае перад ім свой твар і вочы, каб не бачыць яго. Яна ў прастаце сваёй лічыць, што гэта можа быць і не зло, а толькі цень або прывід зла. І калі яна даведваецца, што гэта сапраўды зло, яна ў той жа час адварочваецца і імкнецца забыцца аб ім. Хрысціянская любоў – вялікія лекі ад усялякага зла. Для чалавека, у якога жаўтуха - усе рэчы жоўтыя. Грэх асуджэння падобны на духоўную жаўтуху. Тыя, хто хварэе ёю, ва ўсім бачаць дрэннае, але той, хто хоча вылечыцца, павінен лячыць не вочы, не розум, а пачуцці. Калі пачуцці вашыя лагодныя – такімі ж будуць і суджэнні, калі яны міласэрныя – і суджэнні вашыя будуць міласэрнымі. Я прывяду табе прыгожыя прыклады. Ісаак сказаў, што Рэвека - яго сястра. Абімелек, назіраючы за іх адносінамі, зразумеў, што яна была яго жонкаю. Ён мог бы падумаць пра яе дрэнна, але ён гэтага не зрабіў. Заўсёды трэба рабіць так, Філатэя, судзячы на карысць бліжняга, і, калі справа мае сто бакоў – трэба знайсці самы лепшы.

Святы Юзаф мог дрэнна падумаць аб Божай Маці, але ён гэтага не зрабіў. Чаму? Таму, адказвае Святы Дух, што ён быў праведным. Праведны чалавек,

калі не можа знайсці вытлумачэння ні самой справы, ні намеру таго, каго ён ведае, як добрага чалавека, адмаўляецца ад усялякага суджэння і перадае суджэнне Богу.

Укрыжаваны Збавіцель не мог цалкам апраўдаць справы тых, што Яго крыжавалі, але Ён змякчыў зласлівасць іх намераў, звярнуўшы ўвагу на іх няведанне. Калі мы не можам апраўдаць грэх – зробім яго хоць бы заслугоўваючым спачування, прыпісаўшы яго няведанню або хваробе.

Але няўжо ніколі нельга судзіць бліжняга? Не, Філатэя, ніколі. Адзін толькі Бог судзіць віноўнікаў. На зямлі суддзі павінны быць толькі тлумачамі Божае волі, калі ж яны будуць ісці ўслед за сваімі страсцямі – гэта будзе азначаць, што яны асуджаюць і самі будуць асуджаныя, таму што людзям, як людзям, забаронена асуджаць другіх людзей. Калі дзеянне само па сабе абыякавае – нельга рабіць дрэнных абагульненняў без дастатковых падстаў.

Той, хто ўважліва прыслухоўваецца да голасу сумлення – нікога не асуджае. Так, пчала, заўважыўшы, што надвор'е воблачнае і туманнае, вяртаецца ў вулей, каб вырабляць мёд. Таксама і добрае разважанне не ходзіць сярод заблытаных і туманных спраў бліжняга, яно стараецца не выходзіць, каб з імі не сустрэцца, але, замкнуўшыся ў сваім сэрцы, выпрацоўвае добрае рашэнне аб сваім асабістым выпраўленні. Я выключаю тых, каму належыць клапаціцца аб другіх у сям'і або ў дзяржаве, таму што гэта з'яўляецца справаю іх сумлення: быць на варце сумлення другіх. Няхай яны выконваюць абавязак любові, клапоцячыся аб чысціні сумлення другіх людзей, не перастаючы адначасова ўглядацца ў сваё сэрца, каб яно не асуджала іх.

# Раздзел XXIX

## АБ АБГАВОРАХ

Асуджэнне родзіць неспакой, ганарлівасць - пагарду да бліжняга, паблажлівасць да сябе і сотні другіх вельмі згубных вынікаў, сярод якіх першае месца займаюць абгаворы. Гэта сапраўдная чума людскіх адносінаў. О, чаму ў мяне няма вугля ад святога алтара, каб дакрануцца да вуснаў людзей, каб выпаліць несправядлівасць і ачысціць ад граху, так як гэта зрабіў серафім з прарокам Ісаей.

Той, хто змог бы спыніць абгаворы, знішчыў бы большую частку ўсіх грахоў і несправядлівасцяў. Той, хто несправядліва пазбаўляе бліжняга добрага імя, абавязаны выправіць крыўду, якую ўчыніў. Ніхто не ўвойдзе ў Нябеснае Валадарства, украўшы чужое. А добрае імя – адна з самых вялікіх знешніх дабротаў чалавека. Абгавор – гэта свайго роду забойства, таму што мы маем траякае жыццё: духоўнае, якое заснаванае на Божай ласцы , цялеснае, якое залежыць ад душы, і грамадзянскае, якому падстава – добрае імя. Першае можна забіць грахом, другое – смерцю, і трэцяе абгаворам. Але абгавор часта здзяйсняе ўсе тры забойствы: ён забівае сваё духоўнае жыццё, душу таго, хто яго слухае, і грамадзянскае жыццё таго, хто з'яўляецца ахвяраю абгавору. Святы Бернар гаворыць: "І той, хто абгаворвае, і той, хто яго слухае, маюць у сабе д'ябла. Адзін – на языку, а другі – у вуху".

Давід гаворыць аб тых, хто абгаворвае: "Завастрылі языкі свае, як змеі". "Змяя мае раздвоены язык і два джалы", – гаворыць Арыстоцель. Таксама і той, хто абгаворвае, джаліць і атручвае вушы таго,

хто слухае, і рэпутацыю таго, пра каго ён гаворыць. Я цябе прашу, дарагая Філатэя, ніколі не абгаворвай нікога ні прама, ні ўскосна: сцеражыся, як прыпісваць хлуслівыя грахі бліжняму, так і адкрываць яго патаемныя грахі або павялічваць тое зло, якое ёсць, або дрэнна вытлумачваць добрыя ўчынкі іншых, або адмаўляць тое добрае, што ёсць у кім-небудзь, або хітра яго замоўчваць ці змяншаць – усім гэтым мы глыбока зневажаем Бога. Асабліва ж хлуслівым абвінавачваннем, адмоваю праўды і прадузятасцю супраць бліжняга, таму што гэта двайны грэх: падманваць і шкодзіць свайму бліжняму. Тыя, хто для палёгкі абгавору робяць папярэднія прадмовы і гавораць невялікія кампліменты – з'яўляюцца найбольш тонкімі і атрутнымі з людзей, што абгаворваюць. Яны кажуць: "Я яго паважаю, і ён нядрэнны чалавек, але вось ён вінаваты ў тым і тым", або: "Яна дабрадзейная дзяўчына, але мы яе бачылі...", і гэтак далей. Той, хто хоча стрэліць з лука, нацягвае стралу да сябе, але толькі для таго, каб стрэліць яшчэ мацней. Таксама і абгавор, які пачынаецца такім чынам, мае на ўвазе мэту глыбей увайсці ў сэрца слухача. Абгавор у форме жарту самы жорсткі. Цыкута сама не з'яўляецца атрутаю, але вынікі ўжывання яе, калі яе змяшаць з віном, аказваюцца невылечнымі. Таксама і абгавор, які прайшоў бы лёгка ўвайшоўшы ў адное вуха і выйшаўшы з другога, затрымаецца ў памяці слухача, калі ён паднесены ў вясёлай і жартаўлівай форме. "Змяіная атрута над вуснамі іх", – гаворыць Давід. Укус змяі амаль незаўважны, і спачатку ён дае нават прыемныя адчуванні ў сэрцы і ў нутры і выяўляе сябе толькі тады, калі ўжо няма ратунку.

Не гавары: "ён п'яніца", хоць бы ты яго і бачыла

ў п'яным выглядзе, або - "ён чужалож", хаця б табе быў бы вядомы гэты факт, таму што адно дзеянне не дае права, каб даць чалавеку імя злаўмысніка.

Сонца затрымалася аднойчы, каб даць перамогу Ёзуу Навіну, і зацямнілася ў выніку крыжовое смерці Збавіцеля, але ніхто не назаве яго "нерухомым", або "цёмным". Ной несвядома напіўся адзін раз, і Лот мімаволі двойчы зграшыў, аднак ніхто не назаве іх п'яніцамі. Апостал Пётр у аліўным садзе выняў меч і праліў кроў, але ніхто не назаве яго крываважэрным. Па аднаму выпадку нельга надаваць чалавеку імя злаўмысніка. Але нават, калі чалавек доўга быў у становішчы граху, дык называючы яго распусным, мы можам сказаць няпраўду. Сымон назваў Магдалену грэшніцаю, таму што яна была ёю ўчора. Ён сказаў няпраўду, таму што яна была ўжо святою, яна раскаялася, і Пан Езус яе абараніў. Ганарысты фарысей лічыў мытніка вялікім грэшнікам, але ён памыляўся, таму што той быў ужо апраўданы.

Божая міласэрнасць вялікая, аднаго моманту дастаткова, каб атрымаць Яго міласць. Адкуль у нас можа быць упэўненасць у тым, што той, хто быў учора грэшнікам, застаўся ім і сёння. Учарашні дзень не судзіць дзень сённяшні і сённяшні дзень не судзіць дзень учарашні, толькі Апошні Дзень будзе судзіць усіх. Мы ніколі не можам сказаць, што чалавек злы, не баючыся падмануць. Мы можам толькі ведаць, што ён зрабіў нейкі дрэнны ўчынак, што на працягу нейкага часу ён жыў дрэнна, але з "учора" нельга рабіць высноваў на "сёння", ні з "сёння" на "ўчора", а тым больш на "заўтра".

Трэба быць асцярожным і не абгаворваць бліжняга, але трэба пазбягаць і другой крайнасці, у якую ўпадаюць некаторыя, каб пазбегнуць абгавору.

Яны хваляць і гавораць добра пра грэх. Калі чалавек схільны да абмовы – не гавары пра яго, што ён шчодры і высакародны, небяспечную фамільярнасць не называй прастатою. Не называй упартасць - руплівасцю і нахабства – шчырасцю або сладастраснасць - дружбаю. Не, дарагая Філатэя, для таго, каб пазбегнуць абгавору, не трэба дазваляць сабе другія заганы. Трэба проста сказаць аб дрэнным, што яно дрэннае, і ганіць тое, што вартае вымовы. Робячы так, мы праслаўляем Бога. Аднак, неабходна захоўваць наступныя ўмовы: выкрыццё заганы магчыма толькі тады, калі гэта неабходна для карысці справы таго, з кім мы гаворым, або таго, аб кім мы гаворым. Трэба проста сказаць, што паводзіны адпаведнай асобы з'яўляюцца нясціплымі, каб папярэдзіць другіх аб небяспецы. Калі ж я буду апраўдваць яго паводзіны, дык слухаючы яго, асабліва маладыя, могуць падумаць, што ім можна рабіць тое самае. Для іх карысці патрабуецца, каб я зганіў тое, што заслугоўвае вымовы, хіба, што я бачу, што мог зрабіць гэта ў больш адпаведную хвіліну і з меншай крыўдаю для тых, аб кім ідзе размова. Неабходна гэта і ў тых выпадках, калі маё маўчанне будзе азначаць, што я апраўдваю загану. Але пры гэтым я не павінен гаварыць ніводнага лішняга слова і сачыць за тым, каб не павялічыць віну. Калі ёсць хоць найменшае падазрэнне, што тое, пра што я гавару, не зусім так, тады я не павінен гаварыць нічога. Я нічога не скажу і ў тым выпадку, калі размова аб гэтым толькі паслужыць прычынаю для абгавору. Мой язык, калі я гавару аб бліжнім, падобны скальпелю ў руках хірурга, які праходзіць паміж нервамі і сухажыллямі. Трэба, каб парэз быў вельмі асцярожны, трэба прытрымлівацца толькі праўды, не больш і не менш. Ганячы загану, трэба вельмі

ашчаджаць асобу. Бываюць грэшнікі яўныя, бессаромныя і нахабныя. Аб іх можна гаварыць голасна, але ўсё ж у духу любові і спагады, а не злосці і пагарды, і не для таго, каб атрымаць задавальненне ад падзення другога, бо гэта было б адзнакаю сапсаванага сэрца. У адносінах да яўных ворагаў Бога і Касцёла, дык трэба перасцярагаць ад іх як мага гучней. Любоў прымушае перасцерагаць і клікаць на дапамогу, калі воўк нападае на статак авечак. Людзі часта дазваляюць сабе асуджаць кіраўнікоў, абгаворваць цэлыя нацыі, згодна са сваімі сімпатыямі. Ніколі гэтага не рабі, калі хочаш мець супакой з Богам і людзьмі. Калі ты хочаш сказаць пра каго-небудзь дрэннае, засумнявайся ў тым, што ты можаш гэта зрабіць правільна, пастарайся знайсці прабачэнне ў намеры абвінавачваемага, і калі гэта не ўдаецца – выяві спагаду да яго, прыпомніўшы астатнім, што той, хто не ўпаў у грэх, абавязаны за гэта Божай ласцы. Скажы што-небудзь добрае аб пакрыўджаным, калі ты ведаеш.

## Раздзел XXX

### НЕКАТОРЫЯ ЗАЎВАГІ АБ ТЫМ, ЯКОЙ ПАВІННА БЫЦЬ МОВА

Няхай твая мова будзе лагоднаю, шчыраю, адкрытаю, яснаю, прамою і дакладнаю. Пазбягай штучнасці, двайстасці, прытворства, і, калі не заўсёды можна гаварыць усю праўду – ніколі не гавары няпраўды. Калі ты гэта нечакана зрабіла – адразу ж папраўся, зрабі дадатак або растлумачэнне. Прывыкай ніколі не хлусіць наўмысна, ні для таго, каб атрымаць прабачэнне, ні па іншай прычыне, памятаючы, што Бог

ёсць Богам праўды. Шчырая просьба аб прабачэнні мае больш сілы, чым спроба выкруціцца.

Бывае, што трэба асцярожна і разумна захаваць праўду, але толькі ў важных выпадках, калі гэта трэба для Божае хвалы. Ва ўсіх астатніх выпадках штучнасць небяспечная, таму што Пісанне гаворыць: "Бог не жыве ў дваістай і прытворнай душы". Ніякая дыпламатычнасць не можа быць жаданей за прастату. Свецкая прадбачлівасць і хітрасць – уласцівасць дзяцей гэтага свету. Божыя дзеці ідуць простым шляхам, і ў іх няма задніх думак. "Хто ідзе проста, – гаворыць мудрэц, – той шчыры". Хлусня, двухсэнсоўнасць, крывадушнасць – прыкметы слабой і злой душы. Святы Аўгустын гаворыць у 4-ай кнізе сваей "Споведзі", што яго душа і душа яго сябра складалі адную душу, і пасля смерці свайго сябра для яго жыццё было б цяжарам, бо яму здавалася б, што ён жыве толькі напалову, і таму ён баяўся смерці, каб сваёй смерцю не забіць свайго сябра. Гэтыя словы потым здаваліся яму штучнымі, і таму ён выкінуў іх са сваёй кнігі і называў іх глупствам. Бачыш, Філатэя, якой чулай да слоў была гэтая прыгожая душа. Сапраўды вялікае ўпрыгожанне хрысціянскага жыцця – вернасць, адкрытасць і шчырасць мовы. Я буду асцярожны на ўсіх шляхах маіх, каб не зграшыць языком. "О Пане, пастаў заслону вуснам маім, а дзверы-агароджы губам маім", – гаворыць кароль Давід. Святы Людовік даваў параду ніколі не пярэчыць нікому, за выключэннем тых выпадкаў, калі ў словах субяседніка ёсць грэх. Такім чынам, можна пазбегнуць спрэчак і канфліктаў. У тых выпадках, калі неабходна запярэчыць каму-небудзь або супрацьпаставіць сваю думку – трэба быць вельмі лагодным і далікатным, каб не навязваць свой погляд

другому, бо ідучы напралом, нікога не перакаңаеш. Трэба гаварыць мала, так раяць старажытныя мудрацы, гэта значыць не гаварыць бескарыснага. Справа не ў колькасці, а ў якасці. Трэба пазбягаць дзвюх крайнасцяў: быць вельмі суровым, адмаўляючыся прыняць удзел у гутарцы, што выглядала б недаверам і пагардаю, і пастаянна балбатаць, замінаючы гаварыць другім, што здавалася б легкадумнасцю. Святы Людовік раіў, каб у кампаніі не гаварылі шэптам або па сакрэту, каб ніхто не думаў, што аб нейкім гавораць дрэнна. Ён гаварыў: "Той, хто знаходзіцца ў добрай кампаніі, павінен гаварыць так, каб усе чулі і гаварыць што-небудзь вясёлае і прыемнае для ўсіх".

## Раздзел XXXI

### АБ ЗАБАВАХ ДАПУШЧАЛЬНЫХ І КАРЫСНЫХ

Трэба часам даваць адпачынак і душы і целу. Касьян расказвае, што святы Ян евангеліст аднойчы забаўляўся з курапаткаю, якая сядзела ў яго на руцэ. Паляўнічы ішоў насустрач, здзівіўся, што ён застаў святога за такім заняткам. Святы спытаў паляўнічага: "Чаму твой лук нацягнуты незаўсёды?" "Я баюся, што калі я буду заўсёды трымаць яго нацягнутым, ён расцягнецца і не будзе мець сілы, калі яго трэба будзе ўжыць для справы", – адказаў той: "Не здзіўляйся, – адказаў святы, – што і я павінен даваць адпачынак свайму розуму, каб ён больш бадзёра працаваў у другі час". Несумненна, не трэба быць такім суровым і дзікаватым, каб ніколі не дазваляць ні сабе, ні іншым ніякіх забаў. Быць на свежым паветры, адпачываць,

знаходзіцца ў прыемнай і вясёлай кампаніі, іграць на музычным інструменце, спяваць пад музыку, хадзіць на паляванне – гэта ўсё віды адпачынку, якімі можна карыстацца разумна, суадносна свайму становішчу, часу і месцу. Добрыя самі па сабе і гульні, якія патрабуюць спрыту розуму і цела, такія як: гульня ў мячык, у кракет, бег, шашкі або шахматы. Толькі не трэба траціць на іх вельмі шмат часу і сілаў, бо тады гэта ўжо будзе не адпачынак, а заняткі – яны будуць не палягчаць душу і цела, а стамляць, падаўляць іх. Пагуляй пяць гадзінаў у шахматы, і ты адчуеш сябе замучанай, без сілаў. Тое ж і пры доўгай гульні ў мяч.

Калі вельмі шмат ўвагі і пачуццяў аддаваць гульні, то яна з карыснай стане шкоднаю. Я не гавару, што не трэба атрымліваць задавальненне пад час гульні, таму што тады яна не давала бы адпачынку, але не трэба імкнуцца і празмерна жадаць забаў.

## Раздзел XXXII

### ЗАБАРОНЕНЫЯ ГУЛЬНІ

Карты ды іншыя азартныя гульні, у якіх больш ці менш значны выйгрыш – справа выпадку, не толькі небяспечныя, але, безумоўна, дрэнныя і вартыя вымовы. Таму яны забараняюцца грамадзянскімі і хрысціянскімі законамі. . "У чым жа іх шкоднасць?" – запытаецеся вы. Перш за ўсё, выйгрыш тут не з'яўляецца залежным ад розуму або кемлівасці – ён неспадзяваны і незаслужаны. "Ну што ж, – скажаш ты, – усё гэта робіцца па дамоўленасці". Аднак дамоўленасць не выключае бяссэнсавасці. Акрамя таго, такія гульні не з'яўляюцца адпачынкам, а, наадварот, яны стамляюць. Розум знаходзіцца ў пастаянным

напружанні, а пачуцці ў пастаяннай трывозе, страху, нецярплівасці. Што можа быць смутнейшае, чым тое напружанне ўвагі, якое мы назіраем у гуляючых у азартныя гульні? Пад час гульні ў карты на грошы не смяюцца, не размаўляюць, баяцца нават кашлянуць. Радасць ад гульні з'яўляецца толькі ў момант выйгрышу, і то за кошт пройгрышу другога. Якая няўдзячная радасць! Святы Людовік ляжаў хворы на палубе карабля, калі граф Анжуйскі і Гацье дэ Нэмар гулялі у карты. Ледзь трымаючыся на нагах, ён падняў стол з картамі і грашыма і кінуў у мора.

## Раздзел XXXIII

### ТАНЦЫ ДЫ ІНШЫЯ ДАЗВОЛЕНЫЯ, АЛЕ НЕБЯСПЕЧНЫЯ ЗАБАВЫ

Па сваёй прыродзе танцы не з'яўляюцца ні дрэннай, ні добрай забаваю, але па сваім змесце яны маюць схільнасць да дрэннай забавы і ў некаторых выпадках з'яўляюцца вельмі небяспечнымі. Танцы бываюць па начах, а гэта садзейнічае розным спакусам, людзі не спяць ноччу і на наступную раніцу аказваюцца выбітымі з нармальнага рытму жыцця. Неразумна пераўтвараць ноч у дзень і добрыя справы замяняць глупствамі. Танцы прыносяць з сабою славалюбства і зайздрасць. Славалюбства – адно з самых дрэнных пачуццяў. Многія адмоўныя і небяспечныя віды ўлюбёнасці звязаныя з танцамі. Але калі табе прыйдзецца пайсці туды, захапі з сабою сціпласць, абачлівасць, годнасць і добрыя намеры. Дактары гавораць аб шампіньёнах: "Ешце іх рэдка і пакрышку". Робячы інакш, вы будзеце ў небяспецы

палюбіць іх. Грыбы порыстыя і наздраватыя, таму яны лёгка ўсмоктваюць інфекцыю і атрутныя рэчывы. Танцы прыцягваюць да сябе розныя грахі і заганы, сварбы, зайздрасць, насмешкі, пустую ўлюблёнасць. Яны адкрываюць усе поры сэрца. Таму змяя можа пашаптаць на вуха ў гэты час нячыстыя думкі, пачуцці, якія атручваюць сэрца. Гэтыя забавы аслабляюць сілы, ахалоджваюць Божую любоў, расстройваюць розум і выклікаюць у душы шмат дрэнных пачуццяў, і таму наведваць іх можна толькі з вельмі вялікай асцярожнасцю.

## Раздзел XXXIV

### КАЛІ МОЖНА ЗАБАЎЛЯЦЦА АБО ТАНЦАВАЦЬ

Трэба рабіць гэта для адпачынку, а не з-за прыхільнасці, на працягу кароткага часу, не даводзячы сябе да стомленасці або ўзбуджанасці. Частыя забавы пераўтвараюцца ў заняткі, якія стамляюць.

## Раздзел XXXV

### ТРЭБА БЫЦЬ ВЕРНЫМ І Ў ВЯЛІКІМ І Ў МАЛЫМ

Богу трэба, каб мы былі вернымі Яму і ў вялікім і ў малым. Таму будзь гатовая, Філатэя, да вялікіх цяжкасцяў і нават мучаніцтва за нашага Збавіцеля, будзь гатовая аддаць Яму ўсё, што ёсць у цябе самае

дарагое, калі Яму будзе гэта трэба: бацьку, маці, брата, мужа, дзяцей, свае вочы і сваё жыццё, але пакуль не патрабуецца ад цябе такіх вялікіх ахвяраў і мучэнняў, вынось з пакораю тыя невялікія засмучэнні, непрыемнасці і няўдачы, якія сустракаюцца кожны дзень, такія як: галаўны боль, разбітая шклянка, няветлівы погляд, страта рукавіцаў, насовачкі або брошкі, неабходнасць раней уставаць раніцаю і гэтак далей. Усе гэтыя маленькія цяжкасці, калі ты іх успрымеш цярпліва і з любоўю, задаволяць Божую міласэрнасць, якая за шклянку вады абяцае верным мора шчасця. І таму, што такія выпадкі сустракаюцца кожную хвіліну, яны даюць нам магчымасць сабраць вялікія духоўныя скарбы. Пасля таго, як я ўбачыў, што ў Кацярыны Сіенскай шмат узвышанага розуму, слоў і мудрасці і нават прароцтва, я не сумняваюся, што такім шляхам яна магла заваяваць сэрца нябеснага Жаніха, але я быў таксама ўзрадаваны, калі ўбачыў яе на кухні яе бацькі, дзе яна распальвала агонь, гатавала ежу, замешвала хлеб і выконвала ўсялякія хатнія справы з любоўю і адданасцю Богу. Клапоцячыся пра сваю сям'ю, яна служыла бацьку, як самому Богу, маці, як самой Божай Маці, і братам, як апосталам, таму што выконваючы гэта, яна выконвала Божую волю. Расказваючы аб гэтым, мне хочацца, каб ты зразумела, як ва ўсялякай справе можна выконваць Божую волю. Працу над высокімі справамі, такімі, як малітва, прыняцце Сакрамантаў, распаўсюджванне Божае любові сярод людзей – рабі суадносна свайму пакліканню, але не забывай і маленькіх сціплых спраў дабрадзейнасці, якія, як кветкі, растуць ля падножжа Крыжа: хатнія клопаты, догляд за хворымі, дапамога бедным, розныя справы ў сям'і, якія не пакідаюць месца бяздзейнасці, і сярод гэтых спраў захоўвай той

настрой, у якім знаходзілася святая Кацярына. Вялікія выпадкі служэння Богу бываюць рэдка, а малыя пастаянна. "Хто верны ў малым, будзе верным і ў вялікім, – сказаў Збавіцель, – над многімі ён будзе ўзнесены". Ці ты п'еш, ці ты ясі, ці працуеш, ці адпачываеш – рабі ўсе справы ў Божае імя, і ўсе справы будуць зробленыя добра.

## Раздзел XXXVI

### ТРЭБА МЕЦЬ ПРОСТЫ І РАЗВАЖНЫ РОЗУМ

Мы называемся людзьмі таму, што маем розум, але як рэдка, аднак, можна сустрэць людзей сапраўды разумных. Самалюбства звычайна псуе наш розум, прыводзячы нас да мноства дробных, але небяспечных несправядлівасцяў, якія падобна маленькім лісічкам у Кнізе Песні песняў знішчаюць вінаграднікі, таму што пакуль яны вельмі малыя, на іх не звяртаюць увагі. Але яны могуць знішчаць вінаграднік, бо іх незлічоная колькасць. Ці такія ўчынкі, аб якіх я скажу, не заключаюць у сабе несправядлівасці і крыўдзяць розум? Мы ў многім абвінавачваем бліжняга і многае даруем сабе. Мы хочам прадаць даражэй, купіць танней. Мы хочам, каб да нас ставіліся справядліва, каб да нас былі паблажлівыя, але не робім таго ж у адносінах да іншых.

Мы ненавідзім усё, што нам не па густу, і калі на каго-небудзь маем зуб, дык дрэнна прыймаем усё, што б ён нам ні зрабіў, калі ж нам хто-небудзь прыемны – мы яму ўсё даруем. Бывае, бацькі не любяць як належыць сваё дабрадзейнае дзіця з-за яго фізічнага

недахопу, і ёсць дзеці з дрэннымі схільнасцямі, якія з'яўляюцца любімцамі з-за сваёй знешняй прыгажосці.

Мы аддаем перавагу не бедным, а багатым, хоць яны ніколькі не лепшыя. Мы аддаем перавагу тым, хто лепш апрануты. Мы патрабуем, каб строга захоўвалі нашыя правы, але не заўжды паважаем правы другіх. Мы лёгка скардзімся на бліжняга, але не хочам, каб хто-небудзь скардзіўся на нас. Калі мы зробім што-небудзь для другога, нам заўсёды здаецца, што гэта многа, а тое, што ён зробіць для нас, здаецца нам малым. Карацей кажучы, мы падобныя на пафлягонскіх курапатак, аб якіх кажуць, што ў іх два сэрцы: адное сэрца – добрае, уважлівае і клапатлівае для сябе, другое – строгае і суровае ў адносінах да нашых бліжніх. Мы маем дзве вагі: адну, каб важыць на сваю карысць, другую, каб важыць не на карысць другіх. Будзь ураўнаважанай і справядлівай, Філатэя. Заўсёды старайся паставіць сябе на месца свайго бліжняга, а яго на сваё. Тады ты добра ўсё рассудзіш. Калі ты купляеш, думай пра прадаўца, а калі прадаеш – пра пакупніка. Жывучы справядліва і высакародна, мы ніколі нічога не трацім. Часцей выпрабоўвай сваё сэрца, Філатэя, ці такое яно ў адносінах да бліжніх, якімі б ты хацела бачыць іх сэрцы ў адносінах да сябе, калі б ты была на іх месцы. Вось сапраўдная праверка. Траян, калі яго абвінавачвалі ў тым, што ён вельмі паблажлівы да падначаленых, сказаў: "Я павінен быць такім военачальнікам, якога б я хацеў мець, калі быў бы сам падначалены".

# Раздзел XXXVII

## АБ ЖАДАННЯХ

Кожны ведае, што трэба сцерагчыся дрэнных жаданняў, што жаданне зла робіць чалавека дрэнным. Але я скажу табе больш, Філатэя, не жадай нічога такога, што небяспечна для душы: як танцы, забавы ды іншае пустое правядзенне часу. Не жадай ні чыну, ні пасады, і жадай надзвычайных харызматычных Боскіх дароў, таму што вялікая небяспека марнасці і пыхлівасці ў жаданнях гэтых рэчаў. Не жадай рэчаў вельмі аддаленых па часе, таму што гэта стамляе і паслабляе сэрца і прыводзіць яго да небяспечнай і вялікай трывогі. Калі малады чалавек вельмі жадае якой-небудзь пасады, для якой яшчэ не прыйшоў час, дык які сэнс гэтага жадання? Калі я хачу купіць хату суседа перш, чым ён задумаў яе прадаць – ці не трачу я дарэмна час? Калі, захварэўшы, я жадаю наведаць другіх хворых або гаварыць казань і рабіць усё тое, што робяць здаровыя людзі – усе гэтыя жаданні будуць несвоечасовымі і бескарыснымі. Заменім іх карыснымі жаданнямі. Такімі з'яўляюцца: жаданне цярплівасці, адданасці Божай волі, лагоднасці ў цяжкіх абставінах – усяго таго, чаго Бог хоча ад нас.

Мы нагадваем цяжарных жанчынаў, якія хочуць свежых вішняў зімою і свежага вінаграду вясною. Я не ўхваляю таго, хто жадае нейкага віду працы або адпачынку, але не згаджаецца з выкананнем сваіх абавязкаў і са сваім цяперашнім становішчам. Мне б нават хацелася, каб ты не жадала быць болей разумнай

або дасціпнай – усё гэта легкадумныя жаданні. Кожны павінен развіваць тое, што ў яго ёсць. Не трэба шукаць іншых спосабаў і сродкаў служыць Богу за тыя, якія табе дадзеныя, трэба добрасумленна выкарыстоўваць тыя, якія ты маеш. Усё гэта адносіцца да жаданняў, якія цешаць сэрца, што ж датычыцца простых жаданняў – яны не шкодныя, калі толькі не залішне шматлікія і моцныя.

Не жадай крыжа, але перанось тое, што табе даецца. Няправільна жадаць мучаніцтва, але не выносіць крыўды. Злы дух часта ўнушае нам моцнае жаданне тых рэчаў, якіх мы не маем і якія нам ніколі не спатрэбяцца, і адцягвае наш розум ад дробных спраў, якія могуць прынесці нам вялікую карысць. Ва ўяўленні мы перамагаем драконаў, а ў сапраўднасці даем сябе перамагчы невялікай змяі, якая сустракаецца на нашым шляху, з-за недахопу ўважлівасці. Не жадай спакусаў - гэта дзёрзкасць. Але мужна сустракай і абараняйся, калі яны прыходзяць. Разнастайнасць страў перапаўняе страўнік і, калі ён слабы, ён псуецца. Не напаўняй сваю душу вялікай колькасцю жаданняў: ні свецкіх, яны яе зусім сапсуюць, ні нават духоўных, яны цябе будуць хваляваць. Калі душа ачышчаная, дык з'яўляецца вялікі духоўны апетыт, і яна пачынае прагнуць розных рэлігійных практыкаванняў: пакаяння, пакоры, міласэрнасці, малітвы. Гэта добры знак – мець высакародны голад рэлігійных практыкаванняў, але трэба разважыць: ці здолееш ты выканаць усё, чаго прагнеш? Выберы ж з дапамогаю духоўнага кіраўніка з усіх добрых жаданняў тыя, якія ты можаш на практыцы ажыццявіць цяпер. Калі ж ты гэтыя духоўныя практыкаванні выканаеш, Бог прышле табе другія добрыя жаданні, якія ты будзеш таксама ажыццяўляць у свой час, і ты не будзеш

губляць час на бескарысныя жаданні. Я не гавару, што не трэба мець добрых жаданняў, але і ў гэтым павінен быць парадак. Тыя, якія ёсць, трэба закрыць у якім-небудзь куточку сэрца да тае пары, пакуль прыйдзе час, а ажыццяўляць тыя, для якіх прыйшоў час. І гэта адносіцца не толькі да духоўных, але і да свецкіх жаданняў, інакш мы будзем жыць пастаянна ў спешцы і трывозе.

# Раздзел XXXVIII

## ПАРАДЫ ЖАНАТЫМ ЛЮДЗЯМ

Шлюб – вялікі Сакрамант. Я гавару аб хрысціянскім шлюбе. Ён у пашане ва ўсіх, нават асобы, якія жывуць у нявіннасці, павінны яго паважаць з пакораю. Ён аднолькава святы для бедных і для багатых, таму што яго паходжанне, мэта, карысць, формы і характар – святыя. Гэта рассаднік хрысціянства, які напаўняе зямлю вернікамі, каб папоўніць лік выбраных на небе. Таму размова аб значэнні шлюбу – выключна важная для грамадства. Гэта  корань грамадства і крыніца ўсяго карыснага. Богу было трэба, каб яго Узлюблены Сын быў запрошаны на шлюб у Кане. Віно ўцехаў і блаславенстваў ніколі не скончыцца, але часта бывае, што замест Пана Езуса Хрыста прыходзіць у гэтых выпадках Адоніс, і замест Божай Маці – паганскія бажкі цялеснага кахання. Каб атрымаць прыгожых пярэстых авечак, у старажытнасці іх збіралі і паказвалі ім прыгожыя палоскі розных колераў. Так і на вяселлях, трэба было б паказваць ва ўсёй

разнастайнасці веліч і святасць гэтага Сакраманту, а замест гэтага мы чуем нясціплыя прамовы і бачым непрыстойнае праводжанне часу. Не дзіўна, што і вынік атрымліваецца суадносны. Тым, хто ўступае ў шлюб, перш за ўсё неабходна ўзаемная любоў, аб якой Святы Дух гаворыць у Пісанні. Неразважліва гавараць: "Любіце адзін другога натуральнаю любоўю", – гэта робяць і два галубкі, або "любіце адзін другога чалавечаю любоўю", таму што гэта робяць і няверуючыя. А я скажу вам, як сказаў апостал: "Мужы, любіце сваіх жонак, як Хрыстус Касцёл, жонкі, любіце сваіх мужоў, як Касцёл свайго Збавіцеля".

Сам Бог прывёў Еву да Адама, каб ён узяў яе за жонку. Сам Бог нябачанай рукою звязаў святы вузел вашага шлюбу і даў вас адно аднаму – любіце адзін аднаго любоўю святой, боскай. Першы вынік такой любові – неразлучны саюз сэрцаў. Пан Езус сваёй Крывёю звязаў мужа і жонку, таму лягчэй разлучыць душу з целам, чым мужа з жонкаю. І гэта перш за ўсё не цялесны саюз, а саюз сэрцаў, саюз любові.

Другі вынік такой любові – непарушаная вернасць. Шлюбныя пярсцёнкі Касцёл блаславўляе і перадае як пячатку перш за ўсё мужчыне ў пасведчанне таго, што ў яго сэрца ніколі не ўвойдзе любоў да другой жанчыны, потым ён перадае пярсцёнак нявесце, каб любоў да мужчыны не ўваходзіла ў яе сэрца, акрамя таго, каго Пан Езус ёй даў.

Трэці вынік – гэта нараджэнне і выхаванне дзяцей. Вялікі гонар, які вы атрымліваеце ў шлюбе, заключаецца ў тым, што Бог, жадаючы павялічыць колькасць душаў, якія будуць праслаўляць яго ў вечнасці, зрабіў вас супрацоўнікамі ў гэтай вартай гонару справе нараджэння на свет целаў, у якіх Ён стварае душы, таксама як Ён зрабіў гэта, удыхнуўшы

бяссмяротную душу ў цела першага чалавека. Захоўвайце ж, мужы, пяшчотную, пастаянную і сардэчную любоў да сваіх жонак, і вы, жонкі, любіце сваіх мужоў, паважайце іх. Аднак, памнажаючы любоў, сцеражыцеся рэўнасці, якая вядзе да сварбы і нягоды. Рэўнасці няма месца там, дзе ўзаемная дружба, заснаваная на праўдзівай дабрадзейнасці. Яе адсутнасць паказвае, што любоў не носіць грубы пачуццёвы характар. Яна з'яўляецца там, дзе хістаецца дабрадзейнасць. Рэўнасць – паказальнік грубасці адносінаў, але не чысціні і дасканаласці, таму што дасканалая дружба дапускае ўпэўненасць у дабрадзейнасці таго, каго любіш, а рэўнасць дапускае няўпэўненасць. Мужы, калі вы хочаце, каб жонкі былі верныя вам, падавайце ім у гэтым прыклад. Рыгор Назіанзін гаворыць: "Як вы можаце патрабаваць чысціні ад вашых жонак, калі вы самі вядзеце несумленнае жыццё. Як патрабуеце вы ад іх таго, чаго вы ім не далі? Калі вы хочаце, каб яны былі чыстымі ў адносінах да вас, будзьце чыстымі ў адносінах да іх". Як гаворыць апостал Павел: "Няхай кожны трымае сваё сэрца і цела ў чысціні". Калі ж вы самі вучыце іх няспернасці, няма нічога дзіўнага, што яны зняславяць вас сваім падзеннем, а вы, жанчыны, жыццё якіх непарыўна звязанае з чысцінёю і сумленнасцю, рэўнасна захоўвайце вашую славу і не дазваляйце ніякай разбэшчанасці азмрочыць чысціню вашай рэпутацыі". Не дазваляйце ў адносінах да сябе нічога легкадумнага. Калі хто-небудзь хваліць вашую прыгажосць і зграбнасць, будзьце асцярожныя. Той, хто хваліць тое, на што не мае права, мае спакусу яго ўкрасці. А калі з пахвальбою да вас злучаецца непавага да вашага мужа, дык гэта для вас вялікая знявага. Не трэба слухаць нячыстых слоў. Душа атручваецца праз

вуха, як цела праз вусны.

Любоў і вернасць, злучаныя разам, ствараюць давер. Святая Моніка прысвяціла свайго сына Богу яшчэ раней, чым ён нарадзіўся. Бог прыймае такія абяцанні. Многа прыкладаў: святы Аўгустын, святы Тамаш аквінскі і многія іншыя святыя. Маці святога Бернарда, маці, якая была годная свайго сына, як толькі нараджаліся ў яе дзеці, яна прысвячала іх Хрысту і затым яна ставілася да іх, як да нечага свяшчэннага, што належыць Богу, і што Бог ёй даверыў. Усе сямёра ў будучым сталі святымі. Калі дзеці нараджаюцца на свет і пачынае развівацца іх свядомасць, бацька і маці павінны імкнуцца захаваць у іх сэрцы Божы страх. Так, маці святога Людовіка часта гаварыла яму: "Маё дарагое дзіця, мне лягчэй было б перанесці тое, каб ты памёр у мяне на вачах, чым даведацца, што ты ўчыніў смяротны грэх". Яе святы сын расказваў, што гэтыя словы захаваліся ў яго сэрцы, што за ўсё яго жыццё не было дня, калі б ён іх не ўспамінаў, з усіх сілаў стараючыся іх не парушыць. Не трэба імкнуцца мець шмат мірскіх дабротаў, але не трэба шкадаваць ніякіх сілаў на тое, каб выхаваць дзяцей у Божай боязі і дабрадзейнасці. Святая Моніка з такой стараннасцю і настойлівасцю змагалася супраць дрэнных схільнасцяў Аўгустына, што яна хадзіла за ім і па моры, і па сушы, і яна зноў нарадзіла яго сваімі слязьмі, калі ён павярнуўся да Бога, як раней нарадзіла яго сваім целам. Муж і жонка павінныя дбаць аб рэлігійнасці адзін другога. Мужчына без рэлігійнасці – грубая і жорсткая жывёліна, жанчына без рэлігійнасці – няўстойлівая ў дабрадзейнасці і блізкая да падзення. Апостал Павел гаворыць: "Адзін можа прыцягнуць другога да дабрадзейнасці". Але, якое блаславенства, калі муж і жонка верныя і

прысвечаныя адзін другому ў Божай боязі! Узаемная падтрымка павінна быць вялікай, каб не было ні разводаў, ні здрады. Святы Дух адыходзіць ад хатаў, дзе ёсць сварбы і нязгоды. Святы Рыгор Назіанзін расказвае, што ў яго час святкавалася кожная гадавіна шлюбу. Я ўхваляю гэты звычай, толькі б гэта не зводзілася да свецкіх забаў і пачуццёвых задавальненняў, а, каб муж і жонка пасля споведзі і Святой Камуніі ў гэты дзень больш старанна, чым заўсёды, узнаўлялі пасвячэнне свайго сумеснага жыцця Богу, атрымліваючы ад яго падтрымку ў жыццёвых нягодах.

## Раздзел XXXIX

### АБ ЧЫСЦІНІ Ў ШЛЮБЕ

"Шлюбная пасцель павінна быць бязгрэшнай", – сказаў Апостал. Святы шлюб быў устаноўлены яшчэ ў раі, дзе не было нічога дрэннага і нячыстага.

Правяду аналогію паміж фізічнымі зносінамі ў шлюбе і працэсам харчавання, каб лепш растлумачыць сваю думку: харчаванне неабходнае для жыцця кожнага чалавека, і таму яно добрае, святое і запаведнае. Таксама і фізічныя зносіны ў шлюбе святыя таму, што яны служаць мэце нараджэння дзяцей і ўзрастанню ўзаемнае любові.

Законным з'яўляецца і такое харчаванне, якое хоць і не служыць непасрэдна захаванню жыцця, але патрэбнае для ўзаемнага памнажэння любові аднаго да другога. У гэтым сэнсе шлюбныя адносіны апостал Павел называе абавязкам, ухіляцца ад якога можна толькі па ўзаемнай згодзе.

Празмернае ці нерэгулярнае харчаванне заўсёды

з'яўляецца недахопам. Працэс харчавання вызначаецца не толькі колькасцю, але і манерою, характарам працэсу прыняцца ежы. У гэтых адносінах і мёд, які мае гаючыя ўласцівасці, можа аказацца атрутным і выклікаць хваробы і нават смерць.

Шлюбнае жыццё, якое можа быць святым і праведным, неабходным для грамадства, тым не менш, у асобных выпадках, становіцца небяспечным і можа прывесці да смяротных грахоў. Гэта адбываецца ў тых выпадках, калі сапраўдная мэта шлюбу з'яўляецца затушаванаю і дэфармаванаю, і чым далей яна адходзіць ад законных формаў, тым больш становіцца агіднай. Нараджэнне дзяцей – першая і асноўная мэта шлюбу. Там дзе яна "перавернутая" – сужыццё мужа і жонкі становіцца агідным перад Богам.

І прыняцце ежы можа атрымаць агідны, ненармальны характар, калі думкі і пачуцці чалавека да і пасля прыняцця ежы круцяцца вакол яе.

Самая дастойная з усіх жывёлаў, якія жывуць на зямлі – гэта слон. Ён ніколі не мяняе самку і пяшчотна клапоціцца пра яе ўсё жыццё. Злучка адбываецца раз у тры гады на працягу пяці дзён і так непрыкметна, што нікому не даводзіцца яе назіраць. Але на шосты дзень можна бачыць, як слон ідзе проста да ракі, абмывае ўсё цела, і толькі тады вяртаецца да свайго статку. Ён цураецца якіх-небудзь пачуццёвых задавальненняў. Так і чалавек павінен абмыць не толькі цела, але і ачысціць сэрца ад усялякай пажадлівасці і пачуццёвасці – і тады з вольнаю душою займацца больш узвышанымі справамі. Прыгожа гаворыць аб гэтым апостал Павел у пасланні да Карынцянаў: "Час кароткі, таму тыя, хто маюць жонак, павінны так жыць, як быццам іх не мелі". Гэта

гаворыцца пра тых, растлумачвае святы Рыгор, для каго фізічныя зносіны не з'яўляюцца самамэтаю і не адварочваюць ад духоўных імкненняў.

Тое, што гаворыцца пра мужа, адносіцца таксама і да жонкі. "Тыя, хто карыстаецца гэтым светам, – гаворыць Апостал, – павінныя быць такімі, як быццам не карыстаюцца ім", кожны суадносна свайму становішчу, але так, каб не прывязвацца да яго і быць вольным для служэння Богу.

"Вялікае зло для чалавека – гаворыць святы Аўгустын, - складаецца з таго, што ён бачыць асалоду ў тым, чым ён павінен толькі карыстацца, і толькі карыстаецца тым, чым ён павінен цешыцца". Мы павінныя цешыцца духоўным і карыстацца фізічным, але, калі мы парушым гэты парадак, наша разумная душа становіцца грубай, а мы падобнымі да жывёлаў.

Думаю, я сказаў усё, што хацеў сказаць, і даў зразумець, не гаворачы проста, аб тым, аб чым не хацеў гаварыць.

# Раздзел XL

## ПАРАДЫ ЎДОВАМ

Апостал Павел звяртаецца да ўсіх духоўных асобаў у пасланні да Цімафея: "Удоў паважай, сапраўдных удоў".

Каб быць сапраўднай удавою, неабходна наступнае:

1. Быць удавою не толькі целам, але і сэрцам. Гэта азначае, што яна павінна мець цвёрдае рашэнне захоўвацца ў становішчы чысціні ўдоўства. Тыя ўдовы, якія толькі чакаюць выпадку, каб выйсці замуж, не з'яўляюцца сапраўднымі ўдовамі. Яшчэ лепш робіць

удава, якая дае абяцанне, яна не будзе нават і думаць аб замужжы, таму што перашкодай паміж яе душою і ўсім, што супярэчыць яе рашэнню, будзе ўсведамленне таго, што, парушыўшы нявіннасць, яна пазбаўляецца і Нябеснага Валадарства. Святы Аўгустын раіць хрысціянскім удовам даваць такія абяцанні, а Арыген раіў чыніць такія абяцанні і замужнім жанчынам на выпадак, калі муж памрэ раней за яе.

Даючы абяцанні, мы аддаем Богу не толькі плады (нашыя справы), але і дрэва (нашу волю), з якога яны вырастаюць. Захоўваючы проста нявіннасць, мы фактычна прысвячаем сваё цела Богу, але пакідаем за сабою права ўступіць у сужэнства. Даючы абяцанне нявіннасці, мы добраахвотна пазбаўляем сябе гэтай магчымасці, але робім сябе цалкам слугамі Таго, служыць Якому лепш, чым валадарыць. Ухваляючы цалкам парады гэтых святых,я хачу, каб тыя, хто дае абяцанні, выконвалі іх цвёрда, свята і разумна, натхнёныя нябесным натхненнем, параіўшыся з мудрым і пабожным кіраўніком – і тады ўсё гэта будзе больш пладаносным.

2. Акрамя таго, матывам для такога абяцання павінна быць толькі любоў да Бога, а не страх разарыць дзяцей у выніку другога шлюбу або іншыя карыслівыя памкненні. Перад Богам каштоўнае толькі тое, што робіцца для Бога.

"Удава, якая любіць пачуццёвыя задавальненні, памерла пры жыцці!" – гаворыць апостал Павел. Калі ўдава любіць прыбірацца, хадзіць на танцы і святы, быць прадметам заляцанняў – яна ўдава толькі па целу, а не па душы. Няхай яна носіць жалобу, хоць гэта таксама можа быць справай славалюбства, таму што чорнае на белым толькі робіць яе больш прывабнай, калі яна думае аб тым, каб спадабацца мужчынам.

Аддаленне ад свецкіх празмернасцяў неабходнае для рэлігійнага жыцця. Гэта правільна для ўсіх, а асабліва для сапраўдных удоў. Удава, у якой ёсць дзеці, якім патрэбны яе клопат і духоўная ўвага, не павінная іх пакідаць. Апостал Павел гаворыць: "Той, хто не клапоціцца аб сваіх блізкіх, горшы за нявернага". Але, калі дзецям не патрэбнае ўжо кіраўніцтва, яна павінна цалкам прысвяціць сябе Богу. Калі яна звяртае ўвагу на справы свету, напрыклад, судовы працэс, яна часта адчыняе дзверы ворагу нявіннасці. Удава павінна пастаянна знаходзіцца ў малітве. Поўная сціпласць, клопаты аб бедных і хворых, суцяшэнне самотных, увядзенне дзяўчынак у рэлігійнае жыццё – вось занятак сапраўднае ўдавы, яна павінна быць прыкладам усіх жаночых дабрадзейнасцяў. Чысціня і прастата – упрыгожанне яе адзення, пакора і любоў – упрыгожанне яе спраў, сумленнасць і дабрадушнасць – яе языка, сціпласць – яе вачэй, а Укрыжаваны Хрыстус – адзіная любоў яе сэрца. Сапраўдная ўдава ў касцёле, як маленькая фіялка ў сакавіку, распаўсюджвае водар пабожнасці і амаль заўжды закрытая вялікімі лістамі прыніжэння. Яна не спяшаецца ўступіць у свецкія размовы, таму што хоча захаваць свежасць сэрца ад свету, які можа ахапіць яе горыччу жадання маёмасці, гонару і пачуццёвага кахання. Яна шчаслівая, калі захоўваецца такім чынам. Сапраўдная ўдава не павінна асуджаць тых, хто ўступае ў другі, трэці і нават чацвёрты шлюб. У некаторых выпадках і гэта трэба для Божае хвалы, трэба заўсёды помніць, што ні ўдаўства, ні дзявоцкасць не даюць месца на нябёсах, але яно даецца тым, хто яго заслужыў пакораю і вернасцю Богу.

# Раздзел XLI

## СЛОВА ДА ДЗЯЎЧАТАЎ

**О, дзяўчаты, калі вы думаеце выйсці замуж, раўніва беражыце вашае першае пачуццё для будучага мужа. Вялікая памылка аддаваць замест цэласнага і шчырага сэрца ўжо сэрца зношанае і патрывожанае іншым каханнем. Але, калі вашае сэрца кліча вас да чыстага і дзявоцкага духоўнага вяселля (гутарка аб пакліканні да службы Богу) і вы гатовыя захаваць дзявоцкасць – захавайце вашую любоў для Нябеснага Жаніха, не любіце нічога, акрамя цнатлівасці і Таго, Каму павінны быць адданыя першыя з усіх рэчаў і асабліва першая любоў. Знайдзіце сабе кіраўніка, пад кіраўніцтвам якога вы зможаце свята і не баючыся прысвяціць сваё сэрца і сваё цела Богу.**

# ЧАСТКА IV

## *ПАРАДЫ СУПРАЦЬ СПАКУСАЎ*

## Раздзел I

### НЕ ТРЭБА ЗВЯРТАЦЬ УВАГІ НА ТОЕ, ШТО ГАВОРАЦЬ ПРА ВАС ЛЮДЗІ

**Калі твае ранейшыя сябры і таварышы заўважаць, што ты стала ўхіляцца ад свецкіх забаў і пацех, яны пачнуць абгаворваць цябе і прывядуць тысячу пярэчанняў: адныя будуць гаварыць, што ты вырашылася на гэта таму, што табе не пашанцавала ў свеце, другія будуць абвінавачваць цябе ў імкненні арыгінальнічаць, у няшчырасці і ханжастве. Больш добразычлівыя сябры будуць папярэджваць цябе, што ты ўпадзеш у меланхолію, што згубіш становішча ў свеце, сапсуеш сваё здароўе, пастарэеш раней часу.**

**Іншыя будуць радзіць табе, што ў свеце трэба жыць, як жывуць усе. Усё гэта хлусня і крывадушнасць. Гэтыя людзі не непакояцца аб здароўі тых, хто ў гульнях праводзіць ночы, але вельмі ўстрывожаныя і гатовыя паслаць да доктара кожнага, хто не спаў адну ноч напярэдадні Божага Нараджэння альбо ўстаў рана, каб не спазніцца да споведзі.**

**Ты бачыш, які спагадлівы свет у адносінах да тых, хто выконвае яго волю і які строгі і несправядлівы ў адносінах да тых, хто імкнецца выканаць Божую волю.**

**Збавіцель сказаў: "Калі б вы былі ад свету, свет любіў бы вас, але так як вы не ад свету, свет вас**

ненавідзіць". Калі мы будзем імкнуцца дагадзіць свету, дык загінем разам з ім. Ды дагадзіць свету і нялёгка. Ян прыйшоў, не еў і не піў, і ўсе гаварылі, што ў ім злы дух. Сын Чалавечы прыйшоў, еў і піў, а людзі гаварылі, Ён самаранін. Калі мы будзем гуляць і танцаваць разам з усімі, нас папракнуць у няшчырасці альбо ў наўмыснасці, калі мы не будзем гэтага рабіць – у панурасці альбо меланхоліі. Нашу весялосць будуць прыймаць за развязнасць, а нашае ўстрыманне - за панурасць. Прадузятасць будзе называць нашыя недахопы цяжкімі грахамі, а выпадковыя памылкі – наўмыснасцю і падступнасцю.

"Любоў не мае ў думках зла", - кажа апостал Павел. Насупраць таму, свет хітры і заўсёды мае ў думках зло, калі ён не можа абвінавацiць нас у злых справах, ён абвінавачвае нас у нядобрых намерах.

Ці будуць авечкі з рагамі, ці без рагоў, белыя альбо чорныя, воўк заўсёды пастараецца іх з'есці, калі будзе мець магчымасць.

Калі вы пойдзеце да споведзі і будзеце доўга спавядацца, пра вас будуць казаць, што вы, напэўна, маеце цяжкія грахі, калі споведзь будзе кароткай, пра вас скажуць, што вы ўтойваеце свае грахі. Калі заўважаць у вас нязначнае праяўленне гневу, стануць гаварыць, што вы нязносныя. Калі вы будзеце шчодрымі, вас будуць называць марнатраўнымі, калі вы будзеце беражлівымі, вас будуць лічыць скупымі, вашу лагоднасць будуць разумець як бесхарактарнасць. У адносінах да людзей свецкага духу іх меркаванні будуць якраз адваротнымі: іх гнеў будзе называцца высакародным абурэннем, іх скупасць – мудрым разлікам, іх фамільярнасць – добрым тонам.

Павукі заўсёды марнуюць працу пчолаў. Не звяртай на іх увагі, Філатэя, будзь цвёрдай у сваіх

намерах, нязменнай у рашэннях. Твая цвёрдасць і пастаянства пакажуць: ці сапраўды ты выбрала рэлігійнае жыццё і прысвяціла сябе Богу. Каметы і планеты, калі мы паглядзім на іх, здаюцца аднолькава светлымі, але каметы вельмі хутка гінуць, гэта агні, якія мінаюць, а планеты заўсёды будуць выглядаць такімі ж светлымі. Таксама крывадушнасць і сапраўдная дабрадзейнасць знешне могуць быць падобнымі адна на другую, але іх лёгка адрозніць, бо крывадушнасць хутка выяўляе сябе і яе знешняя прывабнасць знікае, як дым, у той час, як сапраўдная дабрадзейнасць заўсёды застаецца цвёрдай і нязменнай. Тое, як мы прыймаем пахвалу альбо паклёп, з'яўляецца спробным камянём нашае дабрадзейнасці.

Мы ўкрыжаваны для свету, і свет павінен быць укрыжаваны для нас. Ён лічыць нас неразумнымі, будзем лічыць яго шалёным.

## Раздзел II

### АБ МУЖНАСЦІ

Хаця свет сам па сабе прыгожы і жаданы для вачэй, тым не менш, ён асляпляе, калі чалавек на працягу доўгага часу знаходзіўся ў цемры. Калі ты цвёрда вырашыш парваць з усімі неразумнымі заняткамі, дрэннымі схільнасцямі і захапленнямі, якія ты дапускала да гэтага часу, дык пры такой змене жыцця ўсярэдзіне ў цябе спачатку непазбежна ўздымецца некаторы пратэст, ты адчуеш нават смутак і нуду. Калі гэта здарыцца, прашу цябе, май крыху цярпення, гэта толькі навізна і нязвыкласць. Гэта пройдзе, і ты атрымаеш дзесяткі тысяч суцяшэнняў.

Магчыма, што табе будзе непрыемна згубіць тую славу, якую ты, верагодна, мела сярод саўдзельнікаў тваіх свецкіх спраў, але няўжо ты аддасі перавагу свецкай славе ў параўнанні з вечнай славаю, якую можа даць толькі Бог? Мітуслівыя забавы і пустое баўленне часу, якія ты дазваляла сабе ў мінулыя гады, будуць зноў ажываць у тваёй памяці для таго, каб спакусіць тваё сэрца, перацягнуць яго на свой бок. Але няўжо ты згодзішся адмовіцца ад вечнага шчасця дзеля гэтых легкадумных і падманлівых задавальненняў. Павер мне, калі ты будзеш цвёрдай, ты вельмі хутка атрымаеш столькі глыбокіх і радасных суцяшэнняў, у параўнанні з якімі свецкія прыемнасці будуць з'яўляцца тым, чым з'яўляецца жоўць, калі параўнаць яе з мёдам, і ты зразумееш, што адзін дзень сапраўды рэлігійнага жыцця каштуе больш, чым тысячы гадоў свецкіх задавальненняў. Але ты бачыш, якой высокаю з'яўляецца гара Хрысціянскай дасканаласці і ўсклікнеш: "Божа мой, як жа я здолею ўзняцца на яе!" Смялей, Філатэя! Калі лічынкі пчолаў толькі пачынаюць прыймаць форму пчалы, яны не могуць яшчэ лётаць па кветках, па суседніх узгорках і гарах, каб збіраць мёд. Але мала-памалу спажываючы мёд, які нарыхтавалі для іх мацяркі, яны падрастаюць, іхнія крылы мацнеюць, і яны робяцца здольнымі лётаць усюды ў пошуках мёду.

Сапраўды, у адносінах да рэлігійнасці, мы з'яўляемся яшчэ такімі маленькімі пчолкамі – мы не ўмеем выконваць свайго прызначэння, г. зн. узняцца на вышыню хрысціянскай дасканаласці, але падчас таго, як нашыя жаданні і рашэнні пачынаюць фармавацца – у нас пачынаюць расці крылы, і мы маем надзею, што паступова яны вырастуць – і мы паляцім. А пакуль яны яшчэ не выраслі, будзем жыць па

наказах тых, хто першы ад нас вырасціў крылы і змог падняцца на вяршыню. Будзем прасіць Бога, каб Ён дапамог нам вырасціць крылы для таго, каб мы маглі лётаць у цяперашнім жыцці і адпачываць у вечнасці, у будучым жыцці.

# Раздзел III

## АБ ПРЫРОДЗЕ СПАКУСАЎ

Аб прыродзе спакусаў і аб розніцы, якая існуе паміж тым, каб адчуваць спакусу і згаджацца на яе.

Уяві сабе, дарагая Філатэя, маладзенькую прынцэсу, якую горача кахае яе жаніх. Злы чалавек мае ў адносінах да яе кепскія намеры.

Што адбываецца?

1. Злы чалавек пасылае да яе свайго пасла, які перадае ёй прапанову.
2. Яна можа прыняць альбо не прыняць яе.
3. Яна можа згадзіцца на яго прапанову альбо адмовіць яму.

Дакладна так д'ябал, сапсаваны свет і цела, калі бачаць, што душа хоча стаць нявестаю Хрыста, спакушаюць яе сваімі прапановамі і парадамі:

1. Грэх прапанаваны.
2. Прапанова ёй падабаецца ці не падабаецца.
3. Яна прыймае яе ці адмаўляецца ад яе.

Вось асноўныя ступені, якія вядуць да граху:

1. Спакуса.
2. Спадоба.
3. Згода волі.

Няхай спакуса ў адносінах да якога-небудзь граху цягнецца ўсё жыццё. Калі яна не становіцца для нас прывабліваю і мы на яе не згаджаемся – граху няма.

Наяўнасць спакусы ў гэтым выпадку не прыводзіць да дзеяння. І паколькі яно не прываблівае нас - мы не становімся яго саўдзельнікамі.

Многія святыя мелі цялесную спакусу, але яны не згаджаліся з ёю і гатовыя былі лепш цярпець усялякія мукі, чым згадзіцца на грэх. Такім чынам, яны не толькі не гублялі Божую ласку, але і памнажалі яе.

Трэба быць мужнай у час спакусаў і памятаць, што яны не перамогуць цябе, пакуль яны не падабаюцца табе. Пры гэтым мы можам іх адчуваць, але ні ў якім разе не павінныя ім спачуваць. А спачуваць мы можам толькі таму, што нам спадабалася. Вось чаму толькі задавальненне вядзе за сабою згоду. Пакуль ворагі нашага збаўлення не пакажуць нам тое, што ёсць у іх спакуслівага і чароўнага, яны застаюцца за парогам нашага сэрца, колькі прапаноў яны б нам ні рабілі. Да той пары пакуль мы цвёрдыя і не спакушаемся імі, мы нічым не можам зняважыць Бога, таксама, як і прынцэса, якая не спакусілася на прапановы злога чалавека, нічым не зняважыць прынца. Розніца толькі ў тым, што прынцэса можа зусім прагнаць ад сябе пасланца, а нашая душа не заўсёды можа знішчыць самую спакусу, але заўсёды ў яе ўладзе не згаджацца са спакусай. Вось чаму, як бы доўга ні працягвалася спакуса, яна ніколі не пашкодзіць нам, пакуль яна для нас непрыемная. Што датычыць прывабнасці спакусы, дык яна магчыма таму, што ў нашай душы ёсць ніжэйшая і вышэйшая частка, і вось у тых выпадках, калі ніжэйшая частка не слухаецца вышэйшую, яна можа прывабіцца спакушэннем насуперак патрабаванню вышэйшай. Адбываецца тая вялікая бітва, у якой, як кажа апостал Павел, цела

паўстае на дух, і адзін закон у членах, а другі ў душы.

Ці бачыла ты калі-небудзь, Філатэя, вялікае вогнішча, пасыпанае попелам? Калі прыйдзеш да вогнішча, 10-12 гадзін пачакаўшы пасля таго, як яно патушана, там цяжка бывае знайсці хоць адзін вугольчык, які гарыць. Аднак ён, безумоўна, ёсць, і з яго дапамогаю можна запаліць іншыя вуглі, якія ўжо патухлі. Тое ж адбываецца і ў нашай душы пад час вялікіх і моцных спакусаў. Таму што спакуса становіцца прывабліваю для ніжэйшай часткі душы, пасыпае ўсю душу попелам, і ў ёй цяжка бывае знайсці хоць бы іскрынку любові да Бога. Тым не менш, у сапраўднасці, хоць цела і душа ў замяшанні, мы можам яшчэ не згадзіцца ні на грэх, ні на спакусу, і тое, што здаецца прываблівым для нашага знешняга чалавека, тое наш унутраны чалавек не прыйме. І хоць спакуса будзе акружаць нашую волю, але воля яшчэ не ў ёй. Тады гэтая прывабліваcць будзе міжвольнаю і тады няма згоды на грэх, тады спакуса не становіцца грахом.

## Раздзел IV

## ДВА ПРЫКЛАДЫ МІЖВОЛЬНАЙ СПАКУСЫ

Святы Іеранім расказвае аб маладым чалавеку, якога тыран не мог змусіць да адрачэння ад Хрыста мучэннямі і выбраў для перамогі над ім уцехі, як больш моцны сродак. Юнака прывязалі тонкімі шаўковымі ніткамі да ложка і каля яго паклалі жанчыну, якая павінна была ўсяляк яго спакушаць. Перажываючы буру спакушэнняў, якія абяцалі асалоду, ён застаўся цвёрды сэрцам і воляю і ўжо не ў сілах устрымацца, ён адкусіў зубамі свой язык і выплюнуў яго ў твар сваёй спакусніцы.

Выдатны расказ аб барацьбе са спакушэннямі святой Кацярыны Сіенскай. Ёй прыйшлося перанесці цэлую буру спакусаў, якія праходзілі праз усе органы пачуццяў, але сэрца яе заставалася непахісным. Пасля доўгага часу, калі святая змучылася ад спакусаў, ёй з'явіўся Пан Езус. Святая спытала: "Дзе Ты быў увесь гэты час, калі я мучылася сярод бруду і цемры?" "Я быў у тваім сэрцы," – адказаў Пан. "Як жа ты мог быць там, калі столькі агіднага і беззаконнага трывожыла маё сэрца?" "Скажы мне, – сказаў Пан, – усё гэта прыносіла табе задавальненне ці боль?" "Надзвычайны боль і смутак", – адказала святая. "А хто ж абудзіў у табе гэты боль і смутак, калі б Я не быў у глыбіні тваёй душы? Калі б гэтага не было, усё тое, што акружала цябе, прайшло б у глыбіню сэрца, і ты прыняла б гэта з задавальненнем, і яно прывяло б да пагібелі тваёй душы. Але я ўкладваў у тваё сэрца гэтае незадавальненне, гэтае супраціўленне, так што яно адмаўлялася ад усіх спакусаў, адчуваючы нянавісць і да іх, і да самой сябе. Гэтая барацьба і гэтыя мучэнні ўмацоўвалі тваю дабрадзейнасць і павялічвалі тваю сілу".

Ты бачыш, Філатэя, вогнішча было пасыпанае попелам, спакушэнні і ўцехі імкнуліся ўвайсці ў сярэдзіну сэрца, акружылі волю, якая з дапамогаю Збавіцеля супраціўлялася засмучэннем, незадавальненнем, пагардаю да зла, якое спрабавала спакусіць яе, не згаджалася на грэх, які яе акружаў. О, Божа! Які боль для душы, якая любіць Бога, не ведаць, ці з ёю Бог і ці не патухала ў ёй іскра Божае любові, за якую яна змагаецца. Але ў гэтым і заключаецца дасканаласць нябеснае любові, што той, хто любіць, павінен цярпець і змагацца, не ведаючы нават, ці мае ён у сабе гэтую любоў, з дапамогаю якой і дзеля якой ён змагаецца.

# Раздзел V

## ПАДБАДЗЁРВАННЕ ДУШЫ Ў ЧАС СПАКУСАЎ

**Філатэя, Пан дапускае да моцных спакусаў толькі тыя душы, якія ён хоча ўзняць да сваёй чыстай і дасканалае любові. Але гэта яшчэ не азначае, што пасля гэтага яны ўжо дасягнуць яе, таму што многа разоў здаралася, што тыя, хто засталіся цвёрдымі пад час такіх жорсткіх нападаў, не будучы ў далейшым дастаткова вернымі, аказваліся пераможанымі зусім нязначнымі спакусамі . Я табе кажу гэта для таго, каб ты ведала, што калі цябе спасцігне большая спакуса – гэта знак Божае ласкі і, дзякуючы ёй, ты можаш супрацьстаяць спакушэнню, але будзь асцярожнай і пакорлівай, ведаючы, што пасля пераадолення вялікіх спакусаў ты зможаш таксама пераадолець малыя толькі пры ўмове пастаяннай вернасці Богу. Якія б спакусы цябе не спатыкалі, калі воля твая да іх не схіляецца і на іх не згаджаецца, нават калі яны і здаюцца табе прыемнымі, не хвалюйся, ты не зняважыла Бога. Калі чалавек губляе прытомнасць, мы кладзём руку на яго сэрца і па біццю сэрца пераконваемся ў тым, што ён жывы, і тады можна яго прывесці да прытомнасці. Іншы раз моц спакусаў бывае такой вялікаю, што, здаецца, наступіла фізічная і духоўная смерць, але для таго, каб гэта праверыць, пакладзём руку на сэрца, паглядзім, ці гатовае сэрца выканаць свой абавязак, адхіліўшы і спакусу і звязанае з ёю задавальненне. Да таго часу, пакуль у сэрцы ёсць гатоўнасць адхіляць спакусу, у ім ёсць Божая любоў, якая і складае жыццё нашай душы, і Хрыстус**

Збавіцель прысутнічае ў ім, хоць і ўпотай. З дапамогай малітвы, сакрамантаў, даверу да Бога можна вярнуць душу да поўнага і радаснага жыцця.

# Раздзел VI

## ЯК СПАКУСА І ЎЦЕХІ НЕ МОГУЦЬ СТАЦЬ ГРАХОМ

Мы дапускаем, што прынцэса атрымала спакусліваю прапанову без усялякае падставы са свайго боку. Але ўявіце сабе, што яна дала для гэтага падставу, хаця б і марную - тады віна на яе баку. Калі чалавек ведае, што ён можа сустрэцца са спакусаю, але пазбягае гэтага, ён сам адказвае за вынік. Так, напрыклад, калі чалавек ведае, што ў працэсе гульні ён пачне злавацца і праклінаць, ён не павінен удзельнічаць у гульні, так як будзе адказны за ўсе спакусы, якія могуць яму спаткацца. Таксама, калі я ведаю, што тая ці іншая размова з'яўляецца для мяне спакусаю, я не павінна ўступаць у яе, так як буду вінаватая ва ўсіх звязаных з ёю спакушэннях, нават такіх, якіх я не магла прадбачыць. Калі можна прадухіліць спакушэнне, заўсёды будзе грэх не зрабіць гэтага, незалежна ад таго, вялікае ці малое гэтае спакушэнне. Калі прынцэса, пра якую мы казалі, не згадзілася на ганебную прапанову, але ўнутрана атрымала ад яе некаторае задавальненне, яна ўжо саграшыла, так як грэх выходзіць з сэрца, і цялесны грэх не можа ажыццявіцца, калі сэрца не дало сваёй згоды. Таму, калі цябе спасцігла якая-небудзь спакуса, правер сябе, ці сапраўды гэта была справа выпадку, ці ў табе самой заключаецца прычына гэтага спакушэння, і тады само спакушэнне з'яўляецца ўжо грахом, ты магла ці

павінна была прадбачыць яго, магла пазбегнуць выпадку для сустрэчы з ім, і калі б ты ўсё гэта зрабіла, спакушэнне не было б грахом. Калі жанчына не дае прычыны да заляцання, але атрымлівае ад яго задавальненне, яна ўжо на шляху да граху. Часамі задавальненне можа адносіцца не да самога граху, а да чагосьці таго, што спадарожнічае яму. Але трэба берагчыся, каб іншыя матывы таксама не былі ўцягнутыя ў кола нашых пачуццяў, і тады шлях да граху адкрыты. Напрыклад, малады чалавек іграе на лютні, каб прыцягнуць да сябе сэрца дзяўчыны. Спачатку дзяўчына атрымлівае задавальненне ад самой музыкі, і ў гэтым няма ніякага граху. Але яна павінна быць асцярожнай: калі гэтае задавальненне працягнецца, да яго могуць далучыцца іншыя матывы. Вось чалавек, якому прапаноўваюць адпомсціць свайму ворагу. Ён не згодны гэта рабіць. Але затым яму прапаноўваюць такія дасціпныя і цікавыя спосабы дзеяння, што яны самі па сабе захапляюць яго, і ён непрыкметна схіляецца да дзеяння, якое з'яўляецца помстай праціўніку. Задавальненне часта прыводзіць з сабой спакусу, трэба быць вельмі асцярожным. Нават лёгкі грэх становіцца цяжкім, калі мы, заўважыўшы, што зведанае намі задавальненне заключае ў сабе зло, працягваем, як бы гандлявацца, не вырашыўшы, ці прыняць яго, ці адхіліць, прыдумваючы розныя прычыны, каб не адмовіцца ад задавальнення. Але калі мы добраахвотна і свядома лічым магчымым атрымаць задавальненне ад такіх падазроных заняткаў альбо сустрэчаў, якія заключаюць у сабе спакусу, мы робім вялікі грэх, які з цягам часу можа стаць заганаю.

# Раздзел VII

## СРОДКІ СУПРАЦЬ ВЯЛІКІХ СПАКУСАЎ

**Як толькі ты сустрэнешся са спакусаю, рабі так, як робяць маленькія дзеці. Убачыўшы ў полі ваўка ці быка, яны адразу кідаюцца да бацькі ці маці, ці, ва ўсялякім выпадку, клічуць іх на дапамогу. Звяртайцеся да Бога, шукайце яго дапамогі і заступніцтва. Пан сказаў: "Маліцеся, каб не ўпасці, не паддацца спакусе". Калі спакушэнне не спыняецца і нават узрастае, звярніцеся хоць у думках да Святога Крыжа. Прасіце дапамогі ва Укрыжаванага Пана Езуса, не згаджаючыся са спакусаю ўвесь час, пакуль яна будзе цягнуцца. Але ўвесь гэты час не глядзі на тое, што цябе спакушае, глядзі толькі на Укрыжаванага Хрыста, інакш спакуса можа пахіснуць тваю мужнасць. Скіруй сваю ўвагу на якую-небудзь карысную працу ці занятак, і яна паступова ўцягне цябе і прагоніць з твайго сэрца думку аб тым, што цябе спакушае. Вялікі сродак супраць усіх вялікіх і малых спакушэнняў – раскрыць сваё сэрца, таму што першае, што робіць нячысты дух з душою, якую ён хоча спакусіць – прымушае яе маўчаць, падобна таму, як спакуснік унушае дзяўчыне ці жанчыне, каб яна нічога не казала бацьку ці мужу. Бог, наадварот, хоча ад нас, каб мы адкрываліся сваім духоўным кіраўнікам і старэйшым. Калі ж спакуса ўсё ж працягвае нас праследаваць, трэба і нам цвёрда стаяць на сваім. Як бы ні была ўстрывожана душа, пакуль яна цвёрда кажа: "Не!" – спакуса не мае над ёй улады. Не распачынай ніякіх спрэчак з нячыстым духам, паўтарай яму толькі словы Збавіцеля: "Адыйдзі ад**

мяне, шатан". Сказана: "Пану Богу твайму пакланяйся і Яму аднаму служы". Не трэба звяртацца нават позіркам да спакусніка, але, адвярнуўшыся ад яго, звярніся да Хрыста і памятай аб сваім намеры быць вернай Яму Аднаму.

# Раздзел VIII

## ЯК ПРОЦІСТАЯЦЬ МЕНШЫМ СПАКУСАМ

Таксама, як неабходна з непахіснай мужнасцю змагацца з вялікімі спакусамі, важна ўмець перамагаць і меншыя, бо калі першыя пераўзыходзяць другія па сіле, дык другія пераўзыходзяць па ліку, таму перамогу над імі можна параўноўваць з перамогаю над вялікімі спакусамі. Ваўкі і мядзведзі, безумоўна, небяспечней за камароў, але камары так апаноўваюць нас, што ўвесь час выпрабоўваюць нашае цярпенне. Лёгка ўтрымліваць сябе ад забойства, але цяжэй стрымаць выбухі гневу, прычыны да якіх могуць быць у любую хвіліну. Лёгка процістаяць, каб не зрабіць бессаромны грэх, але значна цяжэй устрымлівацца ад нясціплых позіркаў, фліртавання, падлізвання і г.д. Няцяжка ўстрымлівацца ад ілжэсведчання, але цяжэй не казаць няпраўды пры размове. Няцяжка не быць п'яніцам, але цяжэй быць заўсёды цвярозым. Няцяжка не жадаць смерці чалавеку, але цяжэй не жадаць нікому ніякага зла. Няцяжка не паклёпнічаць, але цяжэй не асуджаць. Карацей кажучы, гэтыя дробныя спакушэнні: гневу, падазронасці, рэўнасці, зайздрасці, лёгкадумнасці, пустаслоўя, двудушнасці, ханжаства, нячыстых думак – дакучаюць тым, хто вырашыў ісці па шляху рэлігійнасці. Вось чаму, дарагая Філатэя, мы павінны старанна і ўважліва

рыхтавацца да барацьбы з імі. І для таго, каб падрыхтавацца да барацьбы з вялікімі спакусамі, трэба навучыцца адбіваць дробныя і слабыя спакусы, як атакі нячыстага духу.

# Раздзел IX

## СРОДКІ СУПРАЦЬ ДРОБНЫХ СПАКУСАЎ

**Калі мова ідзе аб гэтых дробных спакусах – ганарыстасці, падазронасці, смутку, рэўнасці, зайздрасці, закаханасці ды ім падобных хітрасцях, якія мільгаюць перад нашымі вачамі, як мухі ці камары, так, што зусім немагчыма пазбавіцца ад іх дакучлівасці, лепшае, што можна зрабіць – не хвалявацца ад гэтага. Нам гэта толькі дакучае, але нікольні не пашкодзіць , калі мы маем цвёрдую рашучасць служыць Богу. Не звяртай увагі на гэтыя нападкі, не думай пра іх. Няхай яны гудзяць вакол тваіх вушэй, колькі ім пажадана, як камары, няхай яны кружацца вакол цябе, як мухі. А калі яны пачнуць цябе кусаць, асабліва, калі яны сядуць вакол твайго сэрца, не адказвай ім, не змагайся з імі, проста знімі іх, адхілі ад сябе. Рабі процілеглае і рабі гэта дзеля любові да Бога. Любоў да Бога - самы галоўны сродак ад усіх заганаў і калі прывучыш сябе звяртацца і прыбягаць да Яго ва ўсіх выпадках, у цябе не будзе неабходнасці аналізаваць спакусы. Але як толькі ты адчуеш сябе ў замяшанні, звяртайся да гэтага найвялікшага сродку, які асабліва важны яшчэ і таму, што як толькі нячысты дух заўважае, што мы звяртаемся да Бога пры ўсялякіх спакусах, ён перастае нас непакоіць. Яму надакучае дапякаць нас гэтымі дробнымі і частымі спакусамі, калі ён пераканаецца, што нічога не можа зрабіць.**

# Раздзел X

## ЯК УМАЦАВАЦЬ СВАЁ СЭРЦА СУПРАЦЬ СПАКУСАЎ

**Час ад часу разглядай, якія пачуцці пераважаюць у тваёй душы. Калі ты гэта выявіш - старайся развіваць у сабе ўсё процілеглае ім: у думках, у словах, у справах, у способе жыцця. Напрыклад, калі ты схільная да славалюбства, думай часцей аб нікчэмнасці чалавечага жыцця, як сорамна табе будзе за тваю фанабэрыю ў дзень смерці, як гэта нягодна высакароднага сэрца, як усё гэта падобна на пустую забаву ў дзіцячыя цацкі. Пагарджай славалюбствам, гавары аб ім з пагардаю, і ты паступова пачнеш яго ненавідзець. Прывучай сябе да пакорлівых справаў і да такіх, якія лічацца прыніжальнымі. Паступова твая схільнасць да славалюбства пачне слабець, і калі прыйдзе час спакусы, табе будзе лягчэй з ёю змагацца. Калі ў цябе ёсць схільнасць да скупасці, думай часцей аб ганебнасці гэтага граху, які робіць чалавека рабом таго, што павінна яму служыць, аб тым, што ў час смерці ўсё гэта будзе табе непатрэбна. Хвалі пагарду да зямных даброт аў, прымушай сябе да міласэрнасці і дабрадзейнасці пры кожнай магчымасці. Калі ты шукаеш фліртавання і забаўляешся гэтым, падумай, як небяспечна гэта і для цябе, і для іншых. Падумай, як гэта нягодна - забруджваць лепшыя пачуцці душы, якое крайняе легкадумства пераўтвараць пачуццё сэрца ў забаву і марнаванне часу. Пазбягай усяго гэтага, часцей думай пра неабходнасць чысціні і прастаты сэрца. Адным словам, у час міру, г.зн. тады, калі няма нападаў і спакусаў з боку таго граху, да якога ты больш**

за ўсё схільная, практыкуйся, як мага энергічней, у процілеглых яму дабрадзейнасцях. Такім чынам ты лепш за ўсё ўзмоцніш сваё сэрца супраць будучых спакусаў.

# Раздзел XI

## АБ НЕСПАКОІ ДУШЫ

Неспакой душы – гэта не проста спакуса, гэта такая спакуса, дзякуючы якой і цераз якую прыходзіць мноства іншых спакусаў. Смутак – гэта боль душы аб тым зле, якое наступіла незалежна ад яе волі, гэтае зло можа быць знешнім, як беднасць, хвароба, пагарда, яно можа быць і ўнутраным, як няведанне, сухасць, агіда, спакуса. Калі душа адчувае зло, якое ёй непрыемнае, яна смуткуе. У нецярпенні яна так ці інакш імкнецца вызваліцца ад яго.

Гэта адбываецца натуральна, так як кожны імкнецца вызваліцца ад таго, што з'яўляецца для яго злом. Калі імкнучыся вызваліцца ад зла, душа кіруецца пры гэтым любоўю да Бога, яна робіць гэта з пакораю, спакоем, цярпеннем і лагоднасцю, чакаючы вызвалення больш ад Божае міласэрнасці, чым ад уласных намаганняў, ведаў і стараннасці, калі ж яна зыходзіць не ад Божае любові , а ад самалюбства, дык яна будзе спяшацца шукаць сродкі, як вызваліцца з гэтага зла, як быццам гэта больш залежыць ад яе, чым ад Бога. Я не сцвярджаю, што яна так думае, але паступае так, як быццам так думала. І калі яна хутка не дасягне жаданага - упадае ў моцную трывогу і нецярпенне. Гэта не ліквідуе зла, але насупраць, узмацняе яго ўладу, бо душа прыходзіць у стан празмернага смутку і адчаю, у выніку чаго яна губляе

сілы і мужнасць да такой ступені, што зло здаецца ёй безвыходным. І вось мы бачым, як смутак законна нараджае трывогу, а трывога, у сваю чаргу, вядзе да лішку смутку, які надзвычай небяспечны. Гэта самае вялікае зло для душы пасля граху. Таксама, як унутраныя бунты і мецяжы аслабляюць дзяржаву і робяць яе няздольнай супрацiўляцца ворагу, таксама і нашае сэрца, калі яно ўстрывожанае і неспакойнае само ў сабе, дык яно не ў стане падтрымліваць тыя дабрачыннасці, якія яно набыло, і не ў сілах супраціўляцца спакусам, таму злы дух і атрымлівае магчымасць, як кажуць, лавіць рыбу ў мутнай вадзе.

Трывожнасць бярэ пачатак ад празмернага жадання вызваліцца ад зла, якое прымушае мучыцца і атрымаць дабро, на якое маецца надзея. І тым не менш, нішто так не павялічвае сілу зла і не аддаляе дабро, як паспешлівасць і трывожнасць. Птушачка таму і заблытваецца ў пастцы, што яна пачынае мітусіцца і рабіць бязладныя рухі для таго, каб вызваліцца. Калі ты хочаш дасягнуць якой-небудзь мэты альбо вызваліцца ад якога-небудзь зла, перш за ўсё прывядзі свой розум у стан спакою, няхай твае меркаванні і твая воля знаходзяцца на сваіх месцах, і потым ужо, не спяшаючыся, выберы адпаведныя сродкі для сваёй мэты, не губляючы спакою і не хвалюючыся, інакш ты змарнуеш усю справу і апынешся ў яшчэ больш цяжкім становішчы. "Душа мая ў маіх руках, Пане, – усклікваў кароль Давід, – і закону Твайго я не забыў". Правярай некалькі разоў у дзень, асабліва ранкам і вечарам: ці ў тваіх руках твая душа, а можа ёю авалодала якая-небудзь страсць ці трывога, якая выкрала яе ў цябе. Ці валодаеш ты сваім сэрцам альбо можа яно знаходзіцца ва ўладзе якой-небудзь страсці: забароненага кахання, нянавісці,

зайздрасці, страху і прагнасці. Калі яно заблудзілася, дык перш за ўсё знайдзі яго, пакажы яго перад Божым тварам. Прывядзі свае пачуцці і жаданні ў паслушэнства Яго Боскае волі. Той, хто баіцца згубіць якую-небудзь каштоўную для яго рэч, стараецца не выпускаць яе са сваіх рук. Таму і мы павінны, пераймаючы малітву рэлігійнай душы, гаварыць: "Была душа мая апанаваная выпадковасцямі, таму я заўсёды трымаю яе ў сваіх руках і такім чынам, не забываю Твайго закону".

Не дазваляй тваім жаданням непакоіць цябе, інакш сэрца тваё стане падуладным мітусні і беспарадку. Калі ты адчуеш трывогу, даручай сябе Богу і вырашы не распачынаць нічога для выканання свайго жадання, пакуль трывога не пройдзе зусім. Калі гэта будзе справа, якая не дапускае адтэрміноўкі, і ў гэтым выпадку пастарайся лагодным і спакойным высілкам утрымаць сваё жаданне, утаймоўваючы яго наколькі магчыма, і тады ўжо прытрымлівайся больш розуму, чым жадання.

Калі ты можаш адкрыць сваю трывогу твайму духоўнаму кіраўніку ці па меншай меры вернаму сябру, не сумнявайся ў тым, што ты атрымаеш падтрымку, падзяліцца сумненнямі – значыць атрымаць палёгку – гэта лепшае з лекаў.

## Раздзел XII

### АБ СМУТКУ

"Смутак, які ад Бога, – гаворыць апостал Павел, – выклікае пакаянне, якое вядзе да збаўлення, смутак свецкі вядзе да смерці".

Смутак таксама можа быць добрым ці дрэнным, у залежнасці ад таго, які ён робіць на нас уплыў. Добры ўплыў – гэта калі смутак вядзе да міласэрнасці і пакаяння. Дрэнны вядзе да наступных рэчаў: ляноты, трывогі, абурэння, маладушнасці, зайздрасці, нецярплівасці.

Смутак многіх забівае. Толькі два ручайкі, якія выцякаюць з гэтай крыніцы, добрыя, шэсць жа другіх – кепскія.

Злы дух карыстаецца смуткам для ўзмацнення спакусаў, у злых ён спрабуе выклікаць задавальненне ад іх грахоў, у добрых – расчараванне ў іх добрых справах, таму што нельга інакш прыцягнуць да злых спраў, як толькі паказваючы непрыемнымі добрыя справы.

Нячысты дух радуецца меланхоліі і смутку, таму што ён сам смутны, меланхалічны і будзе вечна такім, і яму хочацца, каб усе былі на яго падобныя. Дрэнны смутак вярэдзіць душу, выклікае беспадстаўны страх, адцягвае ад малітвы, аслабляе і прыглушае розум, пазбаўляе мужнасці і рашучасці, адбірае сілы. Ён, як суровая зіма, знішчае прыгажосць зямлі і робіць нерухомым усё жывое. Ён адбірае ўсе сокі душы, робіць яе ні да чаго няздольнай і бяздзейснай. Калі ж часам гэты дрэнны смутак паўплывае на цябе, Філатэя, звяртайся да наступных сродкаў: малітва – найлепшы

сродак ад смутку, пры гэтым трэба выбіраць тыя словы малітвы, якія больш за ўсё гавораць аб любові і Божае літасці .

Супрацiўляйся смутку, не спыняй сваіх спраў нават тады, калі ты будзеш іх рабіць без пачуццяў, холадна. Злы дух, які хоча адхіліць цябе ад добрых спраў, калі бачыць, што ты , перамагаючы сябе, застаешся вернаю добрай справе, перастае цябе засмучаць, і добрыя справы набываюць яшчэ большую каштоўнасць. Спявай псальмы, духоўныя песні, яны часта прымушаюць нячыстага духа спыніць сваю справу.

Займайся знешнімі справамі, робячы іх разнастайнымі, каб ачысціць і сагрэць дух, так як смутак – страсць халодная і сухая.

Рабі знешнія справы са стараннасцю, хоць і без задавальнення. Прыцісні да грудзей Крыж, уздымі вочы да неба са словамі любові і даверу: "Хто мяне адлучыць ад Божае любові?" Часцей прыступай да Святой Камуніі. Гэта ўмацоўвае сэрца і радуе дух. Раскажы аб усіх сваіх смутках духоўнаму кіраўніку і шукай таварыства рэлігійных людзей. І, нарэшце, аддай сябе ў Божыя рукі, цярпліва падрыхтаваўшыся да перанясення смутку і не сумнявайся, што выпрабаваўшы тваё сэрца, Бог пашле табе Сваю дапамогу.

# Раздзел XIII

## АБ ДУХОЎНЫХ СУЦЯШЭННЯХ І АБ ТЫМ, ЯК ІМІ КАРЫСТАЦЦА

Усё змяняецца ў гэтым свеце: пасля дня наступае ноч, пасля вясны - лета, услед за летам наступае восень, восень змяняецца зімой, а зіма вясной, і ні адзін дзень непадобны ў дакладнасці на папярэдні. Бываюць дні туманныя, дажджлівыя, сухія, з ветрам. Таксама і ў жыцці чалавека дні і гадзіны яго жыцця непадобныя адны на другія: то ён суцяшаецца, то знаходзіцца пад уладай страху, то поўны надзей, то бядуе.

І хоць усё бесперапынна змяняецца, але нашае сэрца павінна імкнуцца да таго, каб быць нязменна ўмацаваным у Богу. Так параход можа плыць на поўдзень, на поўнач, на захад альбо на ўсход, але компас мараплаўцы заўсёды ўстаноўлены па зорках. Усё можа змяняцца не толькі побач з намі, але і ўнутры нас. Нашая душа можа быць радаснай, смутнай, пяшчотнай, у горы, у трывозе, у згодзе, у спакушэнні, у спакоі, у святле, у цемры, у сухасці, у расчуленні; ці пячэ яе сонца, ці асвяжае раса, трэба заўсёды, каб компас нашага сэрца, розуму і волі няспынна быў павернуты да свайго Творцы, да свайго Збавіцеля, да адзінага і вярхоўнага Дабра. Ці мы жывём, ці мы паміраем, мы заўсёды належым Богу.

Што адлучыць нас ад Божае любові? Не, нішто не можа адлучыць нас ад гэтае любові – ні гора, ні трывога, ні смерць, ні жыццё, ні сапраўдны сум, ні страх перад будучымі выпрабаваннямі, ні хітрасці нячыстага духу, ні вышыня суцяшэння, ні глыбіня

болю, ні расчуленасць, ні абыякавасць ніколі не адлучаць нас ад гэтае любові, асноваю якой з'яўляецца Езус Хрыстус.

Гэтая безумоўная рашучасць не адрывацца ад Божае любові дапамагае трымаць нашую душу ў раўнавазе, нягледзячы на бесперапынныя змены ўмоў і акалічнасцяў. Такім чынам, душа захоўвае пастаянства сярод знешніх зменаў, а таксама зменаў унутраных, жыццёвых і духоўных.

Аднак, акрамя гэтых агульных ідэяў, неабходныя і асобныя ўказанні. Рэлігійнасць не складаецца з расчуленасці, чуллівасці, якія выклікаюць слёзы і ўздыхі і даюць нам прыемныя пачуцці, дзякуючы рэлігійным практыкам. Не, дарагая Філатэя, усё гэта нераўназначна рэлігійнасці. Ёсць многа людзей, якія перажываюць усе суцяшэнні і расчуленні і тым не менш застаюцца сапсаванымі, не маюць ані сапраўднай любові да Бога, ані сапраўднай рэлігійнасці.

Часамі злы дух узбуджае наша ўяўленне. Ёсць людзі, якія расчульваюцца і праліваюць слёзы ў касцёле пры выглядзе Укрыжаванага Збавіцеля, але іх слёзы хутка высыхаюць, як дажджавая вада ў гарачае лета. Яны падобныя дажджам, якія падаюць буйнымі кроплямі і пасля якіх вырастаюць адныя толькі атрутныя грыбы. Слёзы расчуленасці не прасочваюцца ў сапсаванае сэрца і застаюцца для яго бескарыснымі. Гэтыя бедныя людзі не згодзяцца ані пакінуць хоць адную са сваіх схільнасцяў, ані адмовіцца ад сваіх выгодаў, ані аддаць свае несправядліва набытыя багацці дзеля Хрыста, мукі якога выклікаюць у іх слёзы. Тыя добрыя пачуцці, якія ў іх тады з'явіліся - нішто іншае, як духоўныя грыбы. Часта гэта нават не рэлігійнасць, а хітрасць злога духа,

так як яны не шукаюць сапраўднай рэлігійнасці, а цалкам задаволеныя сабою. Гэтыя людзі плачуць над крыжовымі мукамі і смерцю Збавіцеля, але яны не хочуць аддаць Яму сваё сэрца. Ён не можа нават забраць з іх рук пустыя захапленні, грахоўныя абставіны, якія часта служаць прычынаю таго, што сумленне становіцца запэцканым, дробныя прыхільнасці, якія з'яўляюцца для іх як бы прысмакамі, больш жаданымі за нябеснае шчасце. Гэта як забавы маленькіх дзяцей, яны могуць быць чуллівымі, але яны слабыя і безвынiковыя. Рэлігійнасць не можа грунтавацца на гэтых сентыментальных перажываннях, уласцівых слабым натурам, чуллівым да ўсемагчымых пераменаў і ўражанняў.

Аднак і гэтыя чуллівыя перажыванні могуць стаць добрымі і карыснымі, таму як яны ўзбуджаюць жаданне душы, падтрымліваюць розум, надаюць нашым пачуццям ажыўленне і радасць, якія робяць нашыя дзеянні прыемнымі. Кароль Давід усклікнуў: "Саладзейшыя ад мёду вуснам маім словы Твае". Гэтыя нябесныя ўцехі для тых, хто іх зведаў, намнога перавышаюць усе зямныя ўцехі. Гэта прадчуванне нябеснага шчасця.

Аляксандр Вялікі, знаходзячыся ў адкрытым моры, здалёк пазнаў шчаслівую Аравію, калі вецер данёс да яго водар яе кветак. Такім чынам, ён і яго спадарожнікі зноў набылі мужнасць для далейшага падарожжа. Так часта і мы ў моры часовага жыцця атрымліваем такія Божыя дары, якія прыносяць нам прадчуванне нябеснай радзімы, да якой мы імкнемся.

Ты спытаеш: калі ёсць добрыя і суцяшальныя пачуцці, якія ідуць ад Бога і ёсць іншыя, бескарысныя і нават небяспечныя, якія ідуць ад нашай натуральнай

прыроды і нават нячыстага духу, дык якім чынам можна іх адрозніць?

Мы павінныя іх адрозніваць па пладах. Нашыя сэрцы падобныя дрэвам, пачуцці і страсці – гэта галінкі, а справы і дзеянні – плады. Калі нашыя пачуцці расчуленасці і ўцехі робяць нас больш пакорлівымі, цярплівымі, спачувальнымі, міласэрнымі, памяркоўнымі, больш паслухмянымі старэйшым, больш простымі ў сваім жыцці, дапамагаюць лепш змагацца са сваімі кепскімі схільнасцямі, безумоўна, яны йдуць ад Бога. Але, калі яны робяць чалавека рэзкім, упартым, нецярплівым, ганарыстым, чэрствым у адносінах да блізкага, і ён лічыць сябе якімсьці святым і не паддаецца парадам і духоўнаму кіраванню – зразумела, што яго настрой памылковы і небяспечны. Добрае дрэва прыносіць толькі добрыя плады.

Калі мы атрымліваем падобныя ўцехі, не будзем лічыць сябе добрымі. Уцеха даброй не робіць добрым чалавека, скажам лепш: "Як добры Пан для душы, якая Яго шукае!" Мы павінны цаніць не столькі Божыя дары самі па сабе, колькі Божую любоў, якая нам іх дае. Шукаем мы не іх, але Бога, які ратуе. Будзем гатовыя заўсёды сказаць: "Дзе б ты ні быў, Пане, на Галгофе альбо на Фаворы, на крыжы ці ў славе – добра нам быць з Табою!" Калі ты атрымаеш мноства ўцехаў, парайся з духоўным кіраўніком аб тым, як сцішыць свае пачуцці. Сказана: "Ты знайшоў мёд, бяры столькі, колькі табе неабходна".

# Раздзел XIV

## ДУХОЎНАЯ СУХАСЦЬ І АПУСЦЕЛАСЦЬ

Часам табе будзе здавацца, што твая душа, як пустынная, бясплодная зямля, на якой не бачна дарогі да Бога, ані вады Божае ласкі, каб акрапіць яе. На жаль, вартая спагады і шкадавання душа, якая знаходзіцца ў такім стане, асабліва, калі гэтая хвароба моцна адчувальная. Тады, падобна Давіду, душа плача дзень і ноч. А ў гэты час нячысты дух, каб давесці яе да адчаю, смяецца з яе: "Дзе твой Бог? На якой дарозе ты знойдзеш Яго? Хто верне табе радасць Яго ласкі?" Што ж рабіць у гэты час, Філатэя?

Перш за ўсё пастарайся зразумець, у чым прычына гэтага смутку. Часта мы самі бываем вінаватыя ў апусцеласці і сухасці душы. Падобна таму, як маці адмаўляе свайму дзіцяці ў салодкім, калі яно яму шкоднае, так і Бог не пасылае душы душэўных уцяшэнняў, калі гэта прыводзіць яе да ганарлівасці альбо да другіх марных пачуццяў. "Добра мне, Пане, што ты мяне панізіў". Гэта здараецца тады, калі мы па ляноце не прыносім пладоў той любові, якой чакае ад нас Бог. Ізраільцяне збіралі манну да заходу сонца, але пасля не маглі гэтага рабіць, бо яна знікала. Часамі мы пускаемся ў зямныя і пачуццёвыя ўцехі і задавальненні, як нявеста ў Песні Песняў. Жаніх стукае ў нашыя дзверы, кліча нас да духоўных заняткаў, але мы таргуемся з Ім, нам шкада пакінуць свае зямныя справы і падманнае задавальненне. Тады Ён праходзіць паблізу і пакідае нас на месцы і калі мы зноў захочам яго знайсці – нам доўга прыйдзецца Яго шукаць. Мы гэтага заслужылі, так як не былі адданыя

Яго любові, так як адмовіліся ісці ўслед за Ім з-за свецкіх спраў. Пчолы не любяць паху штучнай парфумы. Хто хоча егіпецкіх страў - не атрымае нябеснае манны. Так асалодамі гэтага свету ў тваёй душы ствараецца дваістасць, і няма нічога дзіўнага, што Святы Дух, якому ты хлусіш, адмаўляе табе ў тваіх суцяшэннях.

Ты насыцілася свецкімі задавальненнямі, што дзіўнага ў тым, што духоўныя ўцехі табе не па густу? "Прагных насыціў дабром, а багатых адпусціў ні з чым". Той, хто багаты свецкімі задавальненнямі, не здольны да задавальненняў духоўных.

Ці зберагла ты плады ранейшых суцяшэнняў? Калі зберагла, дык атрымаеш новыя, бо таму, хто збярог – прыбавіцца, а таму, хто па сваёй віне згубіў атрыманае, у таго аднімецца і тое, што ён мае, і ён не атрымае таго, што яму было прыгатаванае. Дождж ажыўляе зялёныя расліны, але знішчае тыя, якія ўжо засохлі, бо яны пачынаюць гніць ад вільгаці. Вось чаму мы губляем рэлігійнае суцяшэнне і ўпадаем у стан сухасці і бясплоднасці. Праверым сваё сумленне і мы адшукаем падобныя недахопы. Але памятай, Філатэя, што гэтую праверку трэба рабіць без хвалявання і празмернай цікаўнасці, і калі пасля ўважлівага разгляду ты знойдзеш прычыну ў сабе, падзякуй Богу. Калі прычына знойдзена – зло напалову знішчанае. Калі ж, наадварот, ты не знаходзіш нічога асаблівага, што ты магла б лічыць прычынаю гэтай сухасці, не старайся больш шукаць без далейшага аналізу, з усёй прастатою ўціхамір сябе перад Богам ва ўсведамленні сваёй убогасці і нікчэмнасці. Што я сам па сабе, о Пане, толькі сухая, патрэсканая зямля, якая прагне дажджу з неба, а вецер рассейвае хмару і ператварае яе ў пыл.

Пакліч Бога і папрасі ў Яго радасці: "Дай мне,

Пане, радасць збаўлення Твайго, адхілі келіх гэты ад мяне, адвярні бясплодны вецер, які высушвае маю душу, пашлі вецер суцяшэння, няхай падзьме ён у мой сад і разнясе водар кветак". Ідзі на споведзь і адкрый перад Богам тваё сэрца, няхай твой спавяднік убачыць усе сховы тваёй душы. З прастатой і пакорлівасцю прыймі ўсе духоўныя парады. Бог любіць паслушэнства і пераўтварае ў карысць парады іншых, асабліва духоўных кіраўнікоў. Пасля ўсяго гэтага нішто не можа быць настолькі карысным у такім стане, як цярплівасць і спакойнае чаканне таго моманту, калі ты будзеш ад іх вызваленая. Я не кажу, што не трэба чакаць вызвалення, але трэба паспадзявацца на Божую ласку і не праяўляць паспешнасці і нецярплівасці. Скажы: "О Пане, калі можна, адымі ад мяне гэты келіх". Але заўжды мужна прыбаўляй: "Не мая воля, а твая няхай будзе".

Пан, бачачы гэту святую гатоўнасць, суцешыць нас сваімі ласкамі, таксама, як Аўраама, якому Ён даў сваё цудоўнае адкрыццё і блаславенне, калі ўбачыў у яго гатоўнасць ахвяраваць свайго любімага сына. Будзем гаварыць з глыбокай пакораю: "Пан даў мне суцяшэнне, Ён і ўзяў яго ў мяне. Няхай будзе Імя Яго блаславёна". Галоўнае, Філатэя, не будзем губляць мужнасці, але з цярплівасцю, чакаючы вяртання ўсіх суцяшэнняў, будзем ісці сваім шляхам, не пакідаючы рэлігійных практыкаванняў. Калі магчыма, памнож добрыя справы. Ён прыйме нашыя дары і "сухімі", без пачуццяў, калі толькі ўбачыць, што мы сапраўды вырашылі любіць Яго.

Калі вясна ў росквіце, пчолы здабываюць больш мёду і менш клапоцяцца аб патомстве, так як увесь час лётаюць вакол кветак, але, калі вясна суровая і туманная, яны прыносяць менш мёду і больш занятыя

патомствам. Часта бывае, што сярод духоўных суцяшэнняў душа не клапоціцца аб тым, каб выконваць добрыя справы і, наадварот, калі яна пазбаўленая гэтых радасцяў, яна звяртае больш увагі на сур'ёзныя справы рэлігійнасці і прыносіць больш пладоў, набываючы сапраўдныя дабрадзейнасці цярплівасці, пакоры, вучыцца перамагаць сваё самалюбства. Некаторым, асабліва жанчынам, здаецца, што Богу менш падабаецца тое, каб мы служылі Яму без гарачнасці, без моцных пачуццяў. На самай жа справе нашыя дзеянні падобныя да ружаў. Калі ружы свежыя, яны асабліва цудоўныя, але калі яны пачынаюць губляць сваю прыгажосць, яны набываюць моцны і тонкі пах. Нашыя справы, якія суправаджджаюцца цёплымі пачуццямі, асабліва прыемныя для нас. Калі яны не выклікаюць гэтых пачуццяў, яны набываюць асаблівую каштоўнасць перад Богам.

Так, дарагая Філатэя, у стане сухасці нашая воля хутчэй схіляе нас служыць Богу і выклікае больш моцныя і пастаянныя дзеянні, чым цеплыня пачуццяў. Няцяжка служыць прынцу ў мірны час, калі ты карыстаешся ўсімі задавальненнямі прыдворнага жыцця, але паспрабуй служыць яму сярод трывогаў і праследаванняў, сярод суровасці вайны. Святыя гавораць, што найбольш каштоўная перад Богам тая малітва, да якой мы сябе прымушаем, нягледзячы на сухасць сэрца і ўнутранае супраціўленне. Тое можна сказаць і аб усіх добрых справах. Чым больш знешніх і ўнутраных перашкодаў, тым больш яны каштоўныя перад Богам.

# Раздзел XV

## ПАЦВЯРДЖЭННЕ І ВЫТЛУМАЧЭННЕ НА ПРЫКЛАДАХ ТАГО, АБ ЧЫМ БЫЛО СКАЗАНА

**Звычайная з'ява, што амаль усе, хто пачынае служыць Богу, не маюць вопыту ў выпрабаваннях духоўнага жыцця. Як толькі вернік перастае непасрэдна адчуваць уцеху, якая дапамагае яму ісці Божым шляхам – ён выдыхаецца і ўпадае ў сардэчны смутак і маладушнасць. Растлумачваецца гэта тым, што прырода чалавека такая, што ён не можа доўга заставацца без зямнога ці нябеснага суцяшэння. Узвышаныя душы лёгка адмаўляюцца ад пачуццёвых уцехаў для вышэйшых суцяшэнняў, але калі адымаецца не толькі зямное, але і духоўнае суцяшэнне, не будучы яшчэ прывучанымі цярпліва чакаць вяртання праўдзівага сонца, яны пачынаюць адчуваць, што яны ні на зямлі і ні на небе, і як бы апускаюцца ў пастаянную ноч. І, як грудное дзіця кідаецца і стогне, згубіўшы грудзі маці, так і яны сумуюць і не знаходзяць сабе спакою. Так здарылася з вучнем святога Бернарда – Готфрыдам, які толькі што прысвяціў сябе служэнню Богу. Апынуўшыся без суцяшэння ва ўнутранай цемры, ён пачаў сумаваць, шкадаваць аб сваіх свецкіх сябрах і родных, аб зямным дастатку, які пакінуў. Адзін з братоў спытаў яго: "Чаму ты стаў такім панурым і сумным?". "Ніколі больш я не буду вясёлым", – адказаў Готфрыд. Усхваляваны брат, пашкадаваўшы свайго сябра, расказаў усё іх агульнаму духоўнаму айцу. Той, бачачы небяспеку, зайшоў у бліжэйшы касцёл, каб памаліцца за**

Готфрыда. У гэты час Готфрыд, прыгнечаны смуткам, заснуў на камяні, праз некаторы час абое ўсталі, адзін пасля малітвы, другі пасля сну. Готфрыд устаў з такім вясёлым і спакойным выглядам, што яго сябар, здзіўлены гэтай раптоўнай зменаю, нагадаў яму тое, што ён сказаў учора. "А я зараз упэўнены, што ніколі больш не буду сумным", – адказаў Готфрыд.

У адносінах да гэтага апавядання, Філатэя, заўваж наступнае: Бог дае спачатку духоўныя радасці для таго, каб адцягнуць чалавека ад зямных уцехаў і заахвоціць яго імкнуцца да духоўнай любові. Потым Бог аднімае гэтыя ўцяшэнні, каб навучыць нас больш цвёрдай рэлігійнасці сярод выпрабаванняў і спакусаў. Вялікія буры ўздымаюцца ў душы, якая адчувае сухасць і не ведае яшчэ, што трэба цярпліва пераносіць і яе.

Мы ніколі не павінныя губляць мужнасці, як гэта было з Готфрыдам. Сярод ночы мы павінны чакаць святла, але і ў добры час не думаць: "Я ніколі не буду сумным". Божы Мудрэц гаворыць: "У дзень добры не забывай аб дні благім, а ў дзень благі не забывай аб дні добрым". Трэба мець надзею ў перыяд цяжкасцяў і быць больш стрыманым, калі мы адчуваем сябе шчаслівымі. І ў тым і ў другім выпадку трэба станавіцца больш пакорлівым, скарацца Богу.

Добры сродак – адкрыць свае перажыванні духоўнаму кіраўніку, які можа нам дапамагчы. На заканчэнне скажам, што Бог і вораг нашага збаўлення маюць супрацьлеглыя намеры, як у гэтым, так і ва ўсіх іншых выпадках: Бог хоча весці нас да поўнай чысціні сэрца і поўнага адмаўлення ад уласных інтарэсаў у служэнні Яму, да поўнага вызвалення ад эгаізму. Але злы дух хоча тыя ж абставіны выкарыстаць для таго, каб пазбавіць нас мужнасці, павярнуць нас у бок

пачуццёвых задавальненняў, зрабіць так, каб мы сталі няднымі, зрабілі абрыдлаю самім сабе ды іншым святую рэлігійнасць.

Але калі ты пойдзеш следам за маімі парадамі, ты толькі ўмацуеш шлях да ўдасканальвання сярод духоўных выпрабаванняў, пра якія я хачу сказаць яшчэ некалькі слоў.

Часам нуда, смутак, абыякавасць бываюць звязаныя з нездароўем,ператамленнем ды іншымі відамі недамагання, якія адносяцца да цела, але ўплываюць і на душу, дзякуючы цеснай сувязі, якая існуе паміж імі. У гэтым стане трэба ўзбуджаць у глыбіні душы акты веры, надзеі і любові да Бога, каб можна было сказаць, як нявеста ў Песні Песняў: "Я сплю, але сэрца маё не дрэмле". Таксама неабходна даць целу законны адпачынак і палёгку. Святы Францішак інакш вучыў, што праца павінна быць памяркоўнаю, каб не аслабляць палкасць духу. Аднойчы Святы Францішак адчуў глыбокую меланхолію, якую ён не мог перамагчы і прыхаваць. Калі ён хацеў гутарыць са сваімі вучнямі, ён не мог гэтага зрабіць; калі ён ад іх адыходзіў, было яшчэ горш, ён быў аслаблены і знясілены постам, і малітва не прыносіла яму радасці. Так працягвалася 2 гады, і яму здалося, што ён пакінуты Богам. Але пасля таго, як ён з пакорлівасцю перанёс гэтае цяжкае выпрабаванне, Збавіцель даў яму спакой. Гэта мы расказалі для таго, каб ты ведала, што вялікія Божыя

# ЧАСТКА V

## *ПРА АДНАЎЛЕННЕ ДУШЫ І ЎМАЦАВАННЕ Ў РЭЛІГІЙНАСЦІ*

## Раздзел I

### АБ ТЫМ, ЯК АДНАЎЛЯЦЬ ДОБРЫЯ ПАСТАНАЎЛЕННІ І ЎМАЦОЎВАЦЦА Ў РЭЛІГІЙНАСЦІ

Штогод трэба аднаўляць свае добрыя намеры. Нашая чалавечая прырода такая, што мы лёгка іх пакідаем. Дрэнныя схільнасці нашай натуры абцяжарваюць душу і цягнуць яе ўніз, калі яна толькі пастаянна не імкнецца ўгору з усёй сілай сваёй рашучасці. Так птушкі падаюць на зямлю, калі пастаянна не практыкуюцца ў імкненні кідацца смела наперад і ўтрымлівацца ў сваім палёце.

Таму, дарагая Філатэя, неабходна заўсёды аднаўляць свае рашэнні і намеры служыць Богу, бо калі мы не будзем гэтага рабіць, мы лёгка можам упасці ў першапачатковы стан і нават у стан яшчэ горшы.

Духоўныя падзенні маюць тую асаблівасць, што яны скідаюць нас значна ніжэй таго стану, у якім мы былі перад нашым шчырым зваротам да Бога. Які б ні быў гадзіннік, але яго трэба заводзіць кожны дзень, акрамя таго, яго трэба хаця б раз у год прагледзець і ачысціць, як належыць, замяніць сапсаваныя часткі новымі. Таксама кожны, хто клапоціцца аб стане

свайго сэрца, павінен штодзённа раніцай і вечарам паварочваць яго да Бога і, акрамя таго, пастаянна правяраць, у якім стане яно знаходзіцца. Хаця б раз у год неабходна "разабраць" яго на часткі, уважліва праверыць усе яго пачуцці, жаданні, прыхільнасці і захапленні, каб выправіць усе недахопы, якія могуць у ім выявіцца. Майстар гадзіннікаў асцярожна змазвае ўсе дэталі гадзінніка якім-небудзь вадкім маслам, а таксама іншыя часткі гадзіннікавага механізма, якія рухаюцца, каб ён дакладней працаваў, каб рухі яго былі роўныя, каб ён не іржавеў. Таксама і рэлігійны чалавек, які працуе над сваім сэрцам, для таго, каб яго абнавіць, павінен паўздзейнічаць на яго моцаю Сакрамантаў (Споведзі і святой Эўхарыстыі). Сілы, якія страціліся, вернуцца, сэрца сагрэецца, у душы зноў зазелянеюць добрыя намеры і зацвітуць дабрадзейнасці.

Хрысціяне першых стагоддзяў, як расказвае Рыгор Назіанзін, штогод у дзень хрышчэння Пана аднаўлялі веравызнанне і абяцанні свайго хрышчэння. Будзем і мы чыніць тое ж ахвотна і пільна. Выберы адпаведны час і параіўшыся са сваім духоўным айцом, адасобіўшыся наколькі магчыма, паразважай аб тых пытаннях, аб якіх зараз будзе гутарка, згодна з тым, як было вытлумачана ў другой частцы кнігі.

## Раздзел II

### АБ ДАБРАДЗЕЙСТВЕ, ЯКОЕ АКАЗАЎ НАМ БОГ, КАЛІ ЗАКЛІКАЎ НАС НА СЛУЖЭННЕ САБЕ.

Перш за ўсё ўспомні аб тым, што ты адкінула, адраклася і ўзненавідзела ўсялякі смяротны грэх.

Па-другое, ты прысвяціла сябе, сваю душу, сваё

сэрца і сваё цела служэнню Богу і любові да Яго.

Па-трэцяе, ты прыняла рашэнне, што ў тым выпадку, калі ты зробіш нейкі дрэнны ўчынак, дык зараз жа паўстанеш з твайго падзення з Божаю дапамогай і вырашыш так болей не рабіць. Падумай, якімі разумнымі і святымі былі тވае рашэнні. Падумай аб тым, што ўсё гэта ты абяцала Богу. Калі абяцанні, дадзеныя чалавеку, абавязваюць нас, дык наколькі больш абавязваюць абяцанні, дадзеныя Богу. "Табе, Пане, гаворыць сэрца маё, ніколі не забуду гэтых слоў", – так усклікае псальмапевец Давід.

Успомні, што сведкамі тваіх рашэнняў былі Божая Маці і ўсе святыя. З радасцю былі прынятыя тваe рашэнні ў небе. Святы Дух прывёў цябе да прыстані збавення, ты шчаслівая, што спазнала Божую любоў да цябе. Ты спала ў духоўным летаргу, але Бог не спаў над табой і абуджаў у табе добрыя думкі і пачуцці.

Святы Аўгусцін толькі ў 30 год шчыра звярнуўся да Бога. Ён усклікаў: "О спрадвечная прыгажосць, як позна я спазнаў Цябе!" Усклікай жа і ты разам з Давідам: "Ты схіліўся да мяне і прасвятліў мяне яшчэ ў юнацтве, ніколі не забуду Тваёй міласэрнасці!" Ты атрымала ласку схільнасці да малітвы, імкненне любіць Бога, стрымліваць страсці, якія цябе трывожаць, пазбягаць граху і мучэнняў сумлення, у святых Сакрамантах ты злучаешся з Крыніцаю вечнай міласэрнасці. Якія вялікія гэтыя міласці! "Не памру, але жыць буду і апавядаць буду пра ўчынкі Пана, – гаворыць Давід. – Буду апавядаць сэрцам і вуснамі пра Пана і пра справы Яго міласэрнасці".

Дапоўні гэтыя разважанні добрымі ўчынкамі і гарачай малітваю. З пакорлівасцю прасі ў Бога сілаў і ўмення выканаць свае пастановы.

# Раздзел III

## ПРАВЕРКА СЯБЕ, ЦІ СЛУШНА ДУША ПАСТУПІЛА НА ШЛЯХУ РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЦЯ

**Такая праверка патрабуе часу. Яе цяжка выканаць адразу, таму лепш яе раздзяліць на некалькі частак:**

**1. Свае адносіны да Бога.**

**2. Адносіны да самога сябе.**

**3. Адносіны да бліжніх.**

**4. Перамаганне сваіх страсцяў.**

**Пачатак і канец гэтай праверкі сябе трэба рабіць стоячы на каленах, усё астатняе можна рабіць і ў часе прагулкі і нават у ложку, адыходзячы да сну, пры ўмове, што ты зможаш рабіць гэта з увагаю. Лепш за ўсё выканаць гэтае духоўнае практыкаванне на працягу трох дзён і двух начэй, удзяляючы яму кожны дзень і кожную ноч столькі часу, колькі ты можаш. Калі расцягнуць гэтую справу на працяглы час, яна не дасць патрэбнага выніку.**

**Пасля таго, як ты праверыш сябе па ўсіх частках, адзнач, што ў цябе асабліва не ладзіцца, для таго, каб атрымаць параду духоўнага кіраўніка і прыняць неабходную пастанову. Не трэба зусім адмаўляцца ад размоў у гэтыя дні, але пад вечар старайся адасобіцца, раней легчы, каб атрымаць спакой душы і цела, неабходны для разважання.**

**На працягу дня часцей звяртайся да Бога, да Божае Маці, да ўсіх Святых, усведамляй сабе, што Бог прысутны паўсюль. Прызывай Святога Духа, прасі ў**

Яго святла.

Святы Аўгустын усклікаў: "О Пане, прагну спазнаць Цябе і прагну спазнаць сябе!" І святы Францішак пытаў Бога: "Мой Божа, Кім з'яўляешся Ты, а кім жа я?!" Свае поспехі заўважай толькі для таго, каб дзякаваць Богу.

Калі ты ўбачыш малы прагрэс у тваім рэлігійным жыцці ці можа, наадварот, адступленне назад, не паслабляй стараннасці, не ўпадай у смутак, але яшчэ болей заахвочвай сябе да добрага, станавіся больш пакорнай і выпраў свае недахопы пры дапамозе Божае ласкі.

## Раздзел IV

## ПРАВЕРКА СТАНУ НАШАЙ ДУШЫ Ў АДНОСІНАХ ДА БОГА

Ці захоўваеш ты цвёрдае рашэнне ні пры якіх абставінах не дапускаць смяротных грахоў? Такое рашэнне – падстава духоўнага жыцця.

Ці любіш ты Божыя наказы? Ці не маеш схільнасці да якіх-небудзь грахоў? Ці любіш ты рэлігійныя практыкаванні? Ці не раздражняюць яны цябе? Да якіх рэлігійных практыкаванняў ты болей схільная, а да якіх меней: слухаць Божае слова, чытаць, разважаць аб ім, прыймаць духоўныя парады, спавядацца, рыхтавацца да святой Камуніі, прыступаць да святой Камуніі, абмяжоўваць свае жаданні і захапленні? Што асабліва адштурхоўвае тваё сэрца? Правер, адкуль гэтая непрыязнасць? У чым прычына?

Як становіцца тваё сэрца да Бога? Ці любіш ты ўспамінаць пра Бога? Ці суправаджаюцца гэтыя

ўспаміны прыемным пачуццём? "Я ўспомніў Бога і ўзрадаваўся", – сказаў Давід. Ці адчуваеш ты, што твайму сэрцу лёгка Яго любіць? Ці адчуваеш асаблівую радасць гэтае любові? Ці радуецца тваё сэрца, калі ты думаеш пра Бога і пра Яго міласэрнасць?

Калі любячая жонка даведаецца, што муж вяртаецца здалёку, яна не можа не думаць пра яго, хаця яна і не мела магчымасці пайсці насустрач, яна пакідае ўсе іншыя думкі і думае толькі аб вяртанні каханага. Так адбываецца і з душою, якая любіць Бога. Чым бы яна ні была занятая, яна амаль губляе інтарэс да ўсяго астатняга.

Як ставіцца тваё сэрца да Езуса Хрыста, Бога і чалавека? Ці любіш ты думаць пра Яго, ці любіш быць у Яго таварыстве?

Як ставіцца тваё сэрца да Божае Маці, да твайго святога апекуна, да твайго анёла? Ці давяраеш ты ім? Ці любіш іх вобразы, іх жыццё, прысвечаныя ім набажэнствы? Ці любіш ты спяваць духоўныя песні? Ці ёсць у цябе жаданне зрабіць што-небудзь для вонкавага праслаўлення Бога, напрыклад, упрыгожваць касцёл? Ці здаралася табе пакінуць нешта прыемнае дзеля Бога? Гэта знак любові – пазбавіць сябе чаго-небудзь дзеля таго, каго любіш. Што ты пакінула дзеля любові да Бога?

# Раздзел V

## ПРАВЕРКА СТАНУ НАШАЙ ДУШЫ Ў АДНОСІНАХ ДА САМОГА СЯБЕ

Як ты любіш самую сябе? Ці не любіш ты сябе толькі свецкаю, зямною любоўю? Ці не клапоцішся занадта многа аб сваім становішчы, быццам бы ты

вечна хацела жыць на гэтай зямлі? Калі ж ты любіш сябе для неба, дык ва ўсялякім выпадку ахвотна згодзішся адыйсці адсюль, калі Богу будзе гэта пажадана. Ці ўпарадкаваная твая любоў да сям'і? Бязладная і хаатычная любоў нас губіць. Правільная любоў патрабуе, каб мы больш любілі душу, чым цела, каб мы больш клапаціліся аб набыцці дабрадзейнасцяў, чым чаго-небудзь іншага, каб больш думалі аб славе нябеснай, чым аб славе зямной.

Мудрае сэрца пытае не аб тым, што скажуць пра мяне людзі, а аб тым, што скажуць пра мяне анёлы.

Ці ёсць у цябе любоў да свайго сэрца? Ці дапамагаеш ты яму ў яго хваробах? Ты павінна прыйсці яму на дапамогу, калі яго мучыць нейкая страсць, і пакінуць дзеля гэтага ўсё.

Чым лічыш ты сябе перад Богам? Безумоўна, нічым, але гэтага недастаткова. Бо не трэба мець многа пакоры пясчынцы, каб прызнаць сваю мізэрнасць у параўнанні з гарою, ці кроплі вады, параўноўваючы сябе з морам, ці іскрынцы, параноўваючы сябе з сонцам. Пакора заключаецца ў тым, каб не пераацэньваць сябе ў параўнанні з іншымі і не жадаць, каб іншыя цябе пераацэньвалі. Як у цябе складаюцца справы ў гэтых адносінах? Ці не хвалішся ты сваёй вынаходлівасцю? Ці не захвальваеш ты сябе, многа гаворачы аб сабе? Ці не знаходзіш ты задавальнення ў тым, што шкодзіць твайму здароўю? Я гавару аб мітуслівым і бескарысным задавальненні: напрыклад, без сур'ёзнай прычыны пазбаўляць сябе сну, чытаючы кнігу.

# Раздзел VI

## ПРАВЕРКА СТАНУ НАШАЙ ДУШЫ Ў АДНОСІНАХ ДА БЛІЗКІХ

**Трэба любіць мужа ці жонку спакойнай, лагоднай, цвёрдай і пастаяннай любоўю. Гэтага хоча Бог. Тое ж адносіцца і да дзяцей, родных і сяброў. Але падумай і аб тым, якім з'яўляецца тваё сэрца ў адносінах да блізкіх наогул. Ці любіш ты іх сардэчна дзеля любові да Бога. Для таго, каб правільна адказаць на гэтае пытанне, прыпомні сабе некаторых асобаў, нудных і кіслых. Менавіта ў адносінах з такімі людзьмі выпрацоўваецца любоў да блізкіх. І больш за ўсё ў адносінах да тых, хто чыніць нам зло словам або ўчынкам. Спытайся ў свайго сэрца: вельмі цяжка табе іх любіць? Ці схільная ты гаварыць дрэнна пра людзей, асабліва пра тых, якія цябе не любяць? Ці не шкодзіш ты блізкім непасрэдна або ўскосна?**

# Раздзел VII

## ПРАВЕРКА СТАНУ НАШАЙ ДУШЫ

**Аналізуй, у якім становішчы знаходзіцца тваё сэрца. Якія прыкметныя для цябе памылкі ты зрабіла? Прааналізуй свае страсці. Якой ты была ў апошні час і як паводзіла сябе ў адносінах да Бога, да блізкіх і да самой сябе? Як адносілася да граху, які знаходзіла ў сабе, і да тых грахоў, якія заўважала ў іншых? Мы ж павінны жадаць, каб былі знішчаныя і адныя і другія**

грахі. Якою ты была ў адносінах да сваіх жаданняў, што датычацца зямных дабротаў, задавальненняў, гонару? Чаго ты больш баялася – саграшыць ці згубіць зямныя даброты? Магчыма, ты залішне многа надзеяў ускладала на свет і стварэнні? Магчыма, залішне многа смуткавала ці радавалася таму, што адносілася да мітуслівых, нявартых увагі рэчаў? Якія страсці табой валодаюць? Што больш за ўсё шкодзіць твайму сэрцу?

Стан сэрца лепш за ўсё можна прааналізаваць, правяраючы страсці адну за другою. Так музыкант, настройваючы скрыпку, правярае адну за другою струны, адпускаючы ці нацягваючы тыя з іх, якія ўносяць дысананс. Так, праверыўшы па чарзе любоў, нянавісць, пажадлівасць, страх, надзею, смутак і радасць душы і заўважыўшы, што не ўсе струны добра настроеныя для выканання той мелодыі, якая нам патрэбная, гэта значыць Божае хвалы, мы можам іх настроіць лепш пры дапамозе Божае ласкі і карыстаючыся парадамі нашага духоўнага кіраўніка.

## Раздзел VIII

## ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ, ЗАКАНЧВАЮЧЫ ПРАВЕРКУ

Пасля таго, як ты ўсё разглядзела і праверыла сябе, і ўбачыла, дзе ты знаходзішся, падзякуй Богу за тыя паляпшэнні, якія ты ў сабе заўважыла і прызнайся, што Божая ласка ўчыніла гэта ў табе. Пакарыся перад Богам, усведамляючы, што ты палепшылася занадта мала і што прычынаю таго з'яўляецца твая ўласная нядбайнасць. Ты не выканала верна, мужна і пастаянна таго, што ўнушыў і вызначыў табе Бог. Прасі ў Яго прабачэння за сваю нявернасць,

малі Яго дапамагчы быць табе вернай. Аддай Яму тваё сэрца, каб Ён быў яго Панам. Заклікай Божую Маці, твайго Анёла – ахоўніка і ўсіх Святых.

# Раздзел IX

## ПАРАДЫ АБ ТЫМ, ЯК АДНАВІЦЬ СВАЕ ПАСТАНОВЫ

**Пасля таго, як ты праверыла сябе і параілася са сваім духоўным кіраўнікам аб сваіх недахопах і змаганнях з імі, вазьмі наступныя указанні за аснову штодзённых развожанняў. Чыні іх тым самым метадам, які быў выкладзены ў першай частцы кнігі.**

### Развожанне I

## АБ ВЫСАКАРОДНАСЦІ ДУШЫ

**Падумай пра высакароднасць і дасканаласць душы, якая можа не толькі пазнаваць бачны свет, але ведаць і аб існаванні раю і анёлаў, якая ведае, што ёсць Бог Усявышні, Міласэрны і Невымоўны, што ёсць вечнасць. Якая ведае, што патрэбна для таго, каб правільна жыць у гэтым бачным свеце, а ў вечнасці злучыцца з Богам і з анёламі.**

**Нашая душа мае такую высакародную волю, што яна можа любіць Бога. І падобна да таго, як пчала адпачывае толькі на кветках, так і душа можа знайсці спакой толькі ў Богу і ні ў чым іншым. Падумай аб занятках і забавах, якія займалі цябе раней, і скажы, ці не былі яны поўныя прыкрых трывогаў, пакутлівых думак і назойлівых клопатаў, сярод якіх тваё беднае сэрца адчувала сябе няшчасным? На жаль, нашае**

сэрца імкнецца да стварэння, спадзеючыся ажыццявіць сваё жаданне шчасця: але яно хутка пераконваецца ў тым, што нішто створанае не можа яго задаволіць. Сэрца чалавека не знаходзіць сабе спакою па-за Богам. Калі ў часе патопу галубка вылецела з Ноевага каўчэга, яна павінна была вярнуцца на яго зноў. Так і душа чалавека, якая выйшла з рукі Бога, знойдзе шчасце толькі тады, калі шчыра вернецца да Яго. Якой прыгожаю з'яўляецца прырода нашага сэрца! Чаму ж мы прымушаем яго супраць яго волі служыць тварэнням?

О, мая цудоўная душа! Ты можаш жадаць і ведаць Бога! Навошта ж ты захапляешся меншым? Ты можаш дасягнуць вечнага, навошта ты гонішся за імгненным? Блудны сын мог шчасна жыць у доме бацькі, але ён збіраў аб'едкі разам з парсюкамі. О, душа мая, ты здольная аб'яднацца з Богам! Навошта ж ты задавальняешся настолькі мізэрным? Нагадвай сваёй душы, што яна вечная і здольная да вечнага шчасця, запальвай у ёй мужнасць ды імкненне да ўдасканалення.

Разважанне II

## АБ ВЫСАКАРОДНАСЦІ ДАБРАДЗЕЙНАСЦЯЎ

Падумай аб тым, што толькі дабрадзейнае і рэлігійнае жыццё можа даць душы задавальненне ў гэтым свеце. Паглядзі, якімі прыгожымі з'яўляюцца дабрадзейнасці. Параўнай дабрадзейнасці з супрацьлеглымі заганамі. Якой прыгожаю выглядае цярплівасць у параўнанні з помслівасцю, лагоднасць у параўнанні са злосцю, пакора ў параўнанні з

ганарыстасцю, міласэрная любоў у параўнанні з зайздрасцю, цвярозасць і цнатлівасць у параўнанні з п'янствам і распустаю. Дабрадзейнасць дае душы радасць і спакой, загана яе тузае і трымае ў паняверцы.

Той, хто знаходзіцца хоць крыху пад уладай заганы, не можа быць цалкам задаволены, а ў каго большыя заганы – той заўсёды незадаволены.

Але нават малая дабрадзейнасць прыносіць задавальненне, якое ўмацоўваецца па меры таго, як дабрадзейнасць памнажаецца.

Рэлігійнае жыццё такое прыгожае, што той, хто яго спазнаў, можа ўсклікнуць разам з самаранкаю: "Пане, заўсёды падавай мне гэтую ваду!"

## Разважанне III

## ПРЫКЛАДЫ СВЯТЫХ

Зірні на жыццё святых: чаго толькі яны не рабілі, каб навучыцца любіць Бога і прысвяціць сябе Яму. Паглядзі на мучанікаў, непераможных у сваёй рашучасці. Якіх толькі мукаў яны не зведалі! Але яны ахвотней згаджаліся пайсці на смерць, чым адрачыся ад Бога. Якую цвёрдасць праяўлялі жанчыны і дзеці! Паглядзі на святых вызнаўцаў! Якой моцнаю была іх пагарда да свету. Нішто не магло пахіснуць іх. Праз якія змаганні і пакуты праходзілі яны, каб застацца вернымі Богу. Успомні, што гаворыць святы Аўгустын пра сваю маці Моніку, святы Геранім пра Паўлу. Яны імкнуліся да Таго ж Бога, да тых жа дабрадзейнасцяў, да якіх трэба імкнуцца нам. Чаму ў нашым становішчы мы не робім таго ж?

## Разважанне IV

# АБ ЛЮБОВІ ЕЗУСА ХРЫСТА ДА НАС

Паглядзі, з якой любоўю пакутаваў за нас Езус Хрыстус у Гефсіманскім садзе і на Галгофе. Пакутуючы на крыжы, Збавіцель любіў кожнага з нас. Мы можам сказаць разам з Прарокам Ераміяй: "О Пане, перш чым я быў, Ты бачыў мяне і называў мяне па імені". У сваёй Боскай міласэрнасці Ён даў нам усе сродкі для нашага збаўлення. Так клапатлівая маці падрыхтоўвае ўсё неабходнае для дзіцяці яшчэ да яго нараджэння. Так і Езус Хрыстус на крыжы прыгатаваў для нас усё. Ён падрыхтаваў для нас тысячу сродкаў збаўлення. Як сонца асвятляе кожны маленькі куток зямлі, як быццам на яго выліваецца ўсё святло і цяпло, так Боскі Збаўца асвячае сваёю ласкаю кожную душу.

Апостал Павел кажа: "Ён узлюбіў мяне і аддаў Сябе за мяне". Вось, што мы павінны напісаць у сваім сэрцы для таго, каб быць цвёрдымі ў сваіх пастановах.

## Разважанне V

# АБ ВЕЧНАЙ ЛЮБОВІ БОГА ДА ЧАЛАВЕКА

Бог палюбіў кожнага з нас спрадвеку. Ён любіў кожнага з нас яшчэ да таго, як Езус Хрыстус пакутаваў на крыжы для збаўлення людзей. Бог гаворыць праз Прарока, звяртаючыся да кожнай душы: "Я ўзлюбіў цябе спрадвечнаю любоўю!" Адна душа з'яўляецца даражэйшай, чым увесь матэрыяльны свет, і душа, якая не імкнецца служыць Богу, была б нічога не вартая.

# Раздзел X

## АГУЛЬНЫЯ РАЗВАЖАННІ І ЗАКАНЧЭННЕ ГЭТАГА ДУХОЎНАГА ПРАКТЫКАВАННЯ

**О, найдаражэйшыя пастановы! Вы падобныя да дрэва жыцця, якое пасадзіў сам Бог у садзе майго сэрца, якое Ён гатовы паліваць сваёю Прачыстаю Крывёю для таго, каб яно прынесла дастойныя плады. Лепш тысячу разоў памерці, чым дазволіць вырваць іх з майго сэрца. Не! Ні фанабэрыя, ні ўцехі, ні багацце, ні зменлівасць жыцця не ў сілах знішчыць мае пастановы. Ты сам, Пане, пасадзіў гэтае дрэва ў вечнасці і хаваў яго для майго саду. Колькі душ пазбаўленыя гэтай ласкі!**

**О, прыгожыя і святыя пастановы, калі вы будзеце жыць у маёй душы, мая душа будзе жыць у вас, калі я вас захаваю, вы захаваеце мяне.**

**Падумай аб тых шляхах і спосабах, якія дапамогуць табе захаваць вернасць: частая малітва, сакраманты, міласэрныя ўчынкі, хуткае прызнанне сваіх памылак, выкананне дадзеных табе парадаў. Прасі Бога аб аднаўленні сваёй душы. Зноў, як і ў пачатку, звярніся да споведзі і святой Камуніі.**

# Раздзел XI

## ЯКІЯ ПАЧУЦЦІ ТРЭБА ЗАХОЎВАЦЬ ПАСЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ ПРАВЕРКІ

**Паўтарай словы Апостала Паўла: "Жыву я ці паміраю, я заўсёды належу майму Збаўцу. У мяне няма нічога свайго, маім жыццём з'яўляецца Езус". Няхай у цябе будзе новае сэрца, а свет, які столькі разоў ашукваў цябе, адводзячы цябе ад Бога, цяпер няхай ашукаецца ў адносінах да цябе. Ён не адразу заўважыць перамену ў табе, ён будзе лічыць цябе сваёю, а ты будзеш ўжо жыць для Бога. Усё гэта застанецца ў тваім сэрцы, ты вернешся да сваіх спраў і абавязкаў, наглядаючы аднак за тым, каб тваё пастановы траплялі ва ўсе сферы твайго жыцця.**

# Раздзел XII

## АДКАЗ НА ДВА ПЫТАННІ, ЯКІЯ МОГУЦЬ БЫЦЬ ПАСТАЎЛЕНЫЯ АДНОСНА ГЭТАГА ДАПАМОЖНІКА

**Свет скажа табе, што ў гэтай кнізе змешчана столькі парадаў, што для таго, каб іх выканаць, трэба пакінуць усе іншыя заняткі – гэта няпраўда. Ці мала ёсць грамадзянскіх законаў, якіх трэба заўсёды прытрымлівацца, але кожны з іх ужываецца ў залежнасці ад абставінаў.**

**Святы Людовік кіраваў дзяржаваю, але ён выконваў усё, аб чым я гаварыў. Выконвай тое, аб чым я табе гаварыў, і Бог дасць табе дастаткова часу і сілаў,**

каб зрабіць усе свае справы. Мы заўсёды робім усё, што трэба, калі спадзяемся на Божую дапамогу. Яшчэ свет будзе казаць, што не кожны валодае дарам разумнай малітвы, гэта значыць разважання. Але таксама бясспрэчна і тое, што кожны зможа навучыцца такой малітве, калі будзе мець добрую волю і духоўнага кіраўніка.

# Раздзел XIII

## АПОШНІЯ І ГАЛОЎНЫЯ ПАРАДЫ

Кожны месяц аднаві сваё абавязацельства, якое было вызначанае табою пры тваім шчырым звароце да Бога, аб чым была гутарка ў першай частцы гэтай кнігі. Маліся як Давід: "Пра ласкі Твае я не забыў, бо дзякуючы ім я нанова пачаў жыць". Адкрыта выяўляй сваё імкненне да рэлігійнага жыцця, не саромейся ўчынкаў, якія вядуць да гэтага. Богу міла, калі ты не хаваеш сваіх імкненняў, не саромеешся ні Яго, ні Яго Крыжа.

Акрамя таго, адкрытасць перасякае дарогу многім нападкам свету, а нас прымушае берагчы сваю рэпутацыю. Філосафы не ўтойвалі, што яны філосафы, і ім дазвалялі жыць па-філасофску. І мы скажам, што шукаем рэлігійнасці, каб нам далі магчымасць жыць рэлігійна.

Калі ж табе запярэчаць, што можна жыць рэлігійна, не выконваючы ўсіх гэтых парадаў і практыкаванняў – не спрачайся. Адкажы пакорліва, што ты вельмі нядужая і табе неабходная такая падтрымка, без якой больш моцныя могуць абыйсціся.

Але заклінаю цябе ўсім, што ёсць святое на зямлі і на небе – працягвай умацоўвацца ў рэлігійным жыцці. Нашыя дні мінаюць, а смерць ля дзвярэй. "Труба, – гаворыць святы Рыгор Назіанзін, – абвяшчае: будзьце гатовымі, бо суд блізка".

Маці аднаго з мучанікаў, убачыўшы, як яе сына вялі на муку, усклікнула: "Сын мой, памятай аб вечным жыцці". І я гавару табе, Філатэя: "Паглядзі на неба, каб ты не страціла яго дзеля зямлі. Паглядзі на пекла, каб ты не трапіла ў яго ў замен за хвілінныя задавальненні. Глядзі на Езуса Хрыста і не выракайся Яго дзеля свету. А калі рэлігійнае жыццё часам будзе здавацца табе цяжкім, успомні песню святога Францішка:

"Шчасця вечнага спадзяюся,
Працы і цярпення не баюся".

Хвала Айцу і Сыну і Духу Святому. Амэн.

ЗМЕСТ



# Частка I

## Частка II

## Частка III

## Частка IV

## Частка V

**Святы Францішак з Саль**

# Шлях да рэлігійнага жыцця або "Філатэя"

**Скарочаны пераклад**

**Выдавецтва Гродзенскай Рымска-Каталіцкай Епархіі**
**г. Гродна, пл. Савецкая 4**

**Ліцэнзія ЛВ №1159**

Подписано в печать 25.10.95 г.
Формат 84х108/32. Усл. печ. л. 11,34
Бумага офсетная. Печать офсетная
Тир. 5000. Зак. 3874

Гродненская областная
укрупненная типография
230003 г. Гродно, ул. Полиграфистов, 2